## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

**Наша Гісторыя**
4/2020

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Амерыканскі і савецкі лейтэнанты Уільям Робэртсан і Аляксандр Сільвашка. Сустрэча на Эльбе каля Таргау, Нямеччына. Фота Уільяма Паўлсана, U.S. National Archives and Records Administration.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах. Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 06.04.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 458.
Наклад 4750.

Часопіс надрукаваны ў ТАА «Навітэх», друкарня «Градыент»®.
Мінск, вул. Бабушкіна, 6А, 220024.
УНП 191415513. ЛД 02330/482 ад 21.02.2017.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў №2/194 от 23.02.2017.

## Ад рэдакцыі

Гэты нумар выходзіць у драматычны для ўсяго свету момант. Здавалася б, часы, калі вірусныя хваробы прымушаюць літаральна ўсё чалавецтва памяняць свае ранейшыя планы і скіраваць асноўныя сілы на змаганне з нябачным простым вокам ворагам, пра існаванне якога ўсяго некалькі месяцаў таму нават не падазравалі, засталіся далёка ў мінулым. Аж не — гісторыя працягвае насміхацца з тых, хто самаўпэўнена спрабуе адназначна прадказваць яе ходу.

Калі мы рыхтавалі гэты нумар, то ў сваім рэдакцыйным калектыве спрачаліся: ці не варта ў сітуацыі, калі межы з усіх бакоў закрытыя, а людзі вымушаныя абмежаваць не толькі паездкі, але і штодзённыя кантакты, часова адмовіцца ад нашай традыцыйнай рубрыкі «Турыстычныя кірункі»? Можа, такая інфармацыя ў цяперашніх умовах недарэчы?

Але прыйшлі да думкі: усё ж такі трэба гэта пакінуць! Няма сумневаў: чалавецтва вытрымае гэтае выпрабаванне, а свет неўзабаве зноў стане адкрыты. Свет такі прыгожы ў сваёй разнастайнасці — гэтае часовае закрыццё межаў так востра нам пра гэта нагадала.

У гэтым нумары часопіса Андрэй Дзмітранок піша пра Рым — сталіцу Італіі, краіны, якая пакуль найбольш церпіць ад новай заразы. А Сяргей Грунтоў — пра Спіш, горны раён на мяжы Польшчы і Славакіі, які мінулым летам ён прайшоў з канца ў канец пешкі. Каранавірус, як ніштто іншае, нагадвае нам, наколькі важныя для сучаснага чалавека звычайная камунікацыя, магчымасць некуды паляцець, паехаць, пайсці, сустрэцца, пагаварыць. Самыя простыя і будзённыя, здавалася б, у цяперашнім свеце магчымасці, а ўсё ж і яны часам аказваюцца, як пісаў класік, «як здароўе тое: не цэнім, маючы, а страцім залатое — шкада...».

Беспрэцэдэнтная за сто гадоў, ад часоў лютавання грыпа-«іспанкі» ў 1919–1920 гадах, пандэмія прымусіла свет хоцькі-няхоцькі адмяніць ці перанесці ўсе масавыя мерапрыемствы, нават такія, якія дагэтуль не праводзіліся як трэба толькі падчас сусветных войнаў, накшталт Алімпійскіх гульняў. Адной са шматлікіх ахвяраў такога кшталту могуць стаць і запланаваныя на май юбілейныя мерапрыемствы, прысвечаныя 75-годдзю заканчэння ў 1945 годзе баявых дзеянняў Другой сусветнай вайны ў Еўропе. Але мы міма гэтай даты прайсці ніяк не можам. Таму тэма нумара ўсё ж менавіта яна (артыкулы Андрэя Акушкі на **старонках 4–16**). Разам з эпідэміямі — куды ад іх сёння дзецца! — у беларускім і сусветным гістарычным кантэксце (артыкулы Андрэя Скурко і Аляксея Казленкі на **старонках 19–27**).


4


В ДРУЖБЕ ТРЕХ ВЕЛИКИХ НАРОДОВ
ЗАЛОГ НЕРУШИМОГО МИРА!
№ 1296
12


19


28




24




"АДАМГА ЭҢ КЫЙЫНЫ-КҮН САЙЫН АДАМ БОЛУУ"
"САМОЕ ТРУДНОЕ ДЛЯ ЧЕЛОВЕКА - БЫТЬ КАЖДЫЙ ДЕНЬ ЧЕЛОВЕКОМ"


ПАСПОРТ
54


42


56




66


72




78


92
НІХТО ГЭТАГА НЕ ЧАКАЎ...
АЛЕ ЯНО ПРЫЙШЛО...



WIKIMEDIA COMMONS

**Пасля цырымоніі.** Фельдмаршал Мантгомеры ўзнагародзіў маршала Жукава (у стужцы цераз плячо), маршала Ракасоўскага (першы з крыжам на стужцы) і генерала-беларуса Васіля Сакалоўскага каля Брандэнбургскай брамы ў Берліне. 12 ліпеня 1945 года.

# І Сталін сказаў:

## «Хто першы ўварвецца, той няхай і бярэ Берлін»

**Пад Берлінам столькі людзей паклалі дзеля спешкі, піша Андрэй Акушка.**

Пераламаўшы спачатку неспрыяльны для сябе ход вайны з немцамі, якая пачалася 22 чэрвеня 1941 года, Чырвоная армія ў 1942–1944 гадах нанесла вермахту шэраг паражэнняў, заняла Усходнюю Еўропу і ў пачатку 1945-га была ўжо на тэрыторыі Германіі. Заставаўся апошні крок — штурм варожай сталіцы.

### Дыпламатычная гульня

Пра Берлін марыў не толькі СССР. У жніўні 1944-га заходнія саюзнікі, якія за два месяцы да таго адкрылі Другі фронт у Еўропе, вызвалілі Парыж і рушылі на ўсход. План аперацыі *Market Garden* («Агарод») прадугледжваў штурм нямецкіх пазіцый у Нідэрландах. Далей арміі Вялікабрытаніі і ЗША планавалі ўварвацца на тэрыторыю Германіі, а Раство 1944-га яны марылі адсвяткаваць на руінах варожай сталіцы.

Немцы, аднак, супраціўляліся да апошняга. Брытанскі фельдмаршал Бернард Лоу Мантгомеры пасля вайны пісаў: «Берлін быў страчаны для нас, калі мы не здолелі распрацаваць добры аператыўны план пасля перамогі ў Нармандыі».

Прыкладна тады ж з'явілася дамоўленасць пра акупацыйныя зоны ў Германіі. Мяжа савецкай зоны праходзіла на захад ад нямецкай сталіцы. Вясной 1945-га галоўнакамандуючы войскамі

заходніх саюзнікаў амерыканскі генерал Дуайт Эйзенхаўэр атрымаў некалькі тэлеграм ад брытанскага прэм'ера Уінстана Чэрчыля з прапановай захапіць Берлін, але выкінуў іх у сметніцу. Калі праводзіць гэтую аперацыю хутка, гэта запатрабавала б занадта вялікіх ахвяр. Эйзенхаўэр бачыў, што вораг будзе абараняцца, не шкадуючы сіл. І на аўрал не пагадзіўся.

Але Савецкі Саюз гэтага не ведаў. Да Іосіфа Сталіна неаднаразова даносілі чуткі пра перамовы Вялікабрытаніі і ЗША з немцамі пра сепаратны мір. Пагаворвалі таксама, што Мантгомеры ўжо рыхтуе моцны ўдар на сталіцу Германіі. Таму Сталін загадаў паскорыць рух да Берліна любой цаной.

Заставалася вызначыцца, хто з военачальнікаў будзе браць сталіцу.

## Спаборніцтва паміж франтамі

Адным з кандыдатаў быў Канстанцін Ракасоўскі. У 1944-м маршал-паляк, маці якога паходзіла з беларускіх Целяханаў, спланаваў бліскучую аперацыю «Баграціён». Дзякуючы ёй Чырвоная армія з мінімальнымі стратамі вызваліла Беларусь і ўвайшла ў Польшчу. Але кандыдатуру Ракасоўскага адхілілі. Сам ён пісаў, што па палітычных прычынах, бо штурмаваць Берлін павінен быў абавязкова рускі.

У пачатку вясны 1945 года вырашылі, што план будзе рэалізоўваць камандуючы 1-м Беларускім фронтам Георгій Жукаў. 1 красавіка ў Стаўцы вярхоўнага галоўнакамандавання прайшла нарада. На ёй выступіў іншы вядомы маршал, Іван Конеў. Ён заявіў, што правае крыло ягонага 1-га Украінскага фронту таксама можа ўзяць Берлін, бо перад ім няма добрых абарончых палос, як перад дывізіямі Жукава. Конева падтрымаў кіраўнік Генштаба Чырвонай арміі Аляксей Антонаў, і не толькі ён. І Сталін сказаў: «Хто першы ўварвецца, той няхай і бярэ Берлін».

Праўда, у дырэктыве Стаўкі №41060, падпісанай 3 красавіка, гэтых слоў не было, але пра іх узгадваў у мемуарах і Жукаў. Ды і ход падзей паказаў, што спаборніцтва паміж двума франтамі сапраўды існавала. Часам даходзіла нават да перастрэлак, калі прадстаўнікоў канкурэнта выпадкова (ці наўмысна) прымалі за ворагаў.

## Не шкадаваў нікога і нічога

Гонка да Берліна пачалася раніцай 16 красавіка. Наперад пайшлі звыш 2 мільёнаў салдат, якіх падтрымлівалі 6 тысяч танкаў, амаль 8 тысяч самалётаў і больш за 41 тысячу гармат і мінамётаў. Немцаў было ў разы менш, але на іхнім баку былі добра падрыхтаваныя ўмацаванні. Асабліва трывалымі яны былі там, дзе наступаў Жукаў — на Зеелаўскіх вышынях за 70 кіламетраў ад Берліна.

1-ы Беларускі фронт хутка прарваў першую паласу абароны, але загруз у другой: пяхота не магла прабіцца праз нямецкія пазіцыі. І Жукаў дастаў козыр — дзве гвардзейскія танкавыя арміі. Ён планаваў выкарыстаць іх потым, каб адправіць у прарыў. Але замест гэтага прыйшлося кідаць тэхніку на міны, супрацьтанкавыя гарматы, равы і пяхоту з гранатамётамі.

Да ўсіх гэтых перашкод яшчэ трэба было дайсці. 17 і 18 красавіка пад няспынным абстрэлам байцы праходзілі не больш за 4 кіламетры на суткі. Жукаў лютаваў і патрабаваў паскорыць рух. У загадзе ад 17 красавіка было напісана, што танкавыя арміі дзейнічаюць «няўмела і нерашуча, топчучыся перад слабым праціўнікам». Але 19-га байцы Жукава ўсё ж выйшлі на аператыўны прастор. Дарагой цаной: толькі 1-я гвардзейская танкавая армія Міхаіла Катукова за некалькі дзён незваротна страціла 128 танкаў і самаходак, не кажучы пра людскія страты.

Ці быў іншы варыянт, акрамя штурму ў лоб? Хутчэй так, чым не. Можна было паўтарыць нямецкі ▸



Савецкія артылерысты з гарматай «ЗиС-3» на вуліцы Берліна. 28 красавіка 1945 года.

BRONEBOY.RU

▶ досвед 1940-га з французскай «Лініяй Мажыно», каб проста абысці лінію абароны. Але Жукаў спяшаўся стаць тым маршалам, што нанясе апошні ўдар ворагу. Дзеля гэтага ён не шкадаваў нікога і нічога. Маршал патрабаваў «да 4 гадзін раніцы 21 красавіка любой цаной прарвацца на ўскраіну Берліна».

## У ноч на 21 красавіка савецкая дальнабойная артылерыя даслала Гітлеру падарунак на 56-ы дзень нараджэння: абстраляла Берлін



РИА НОВОСТИ

**Георгій Жукаў** (1896–1974), ураджэнец Калужскай губерні, трапіў у армію падчас Першай сусветнай, а ў 1918-м стаў чырвонаармейцам. У 1922-м узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга за падаўленне сялянскага паўстання ў Тамбоўскай губерні. Летам 1939-га ён разбіў японцаў на рацэ Халхін-Гол.
У пачатку 1941-га стаў кіраўніком Генеральнага штаба Чырвонай арміі, таму многія лічаць яго таксама вінаватым у паражэннях першых месяцаў вайны. Іншыя так не лічаць, бо за пару месяцаў цяжка было пераарганізаваць армію, абяскроўленую рэпрэсіямі. Дый усе галоўныя рашэнні дыктаваў не ён, а Сталін. Жукаў падабаўся Сталіну за бязлітаснасць і гатоўнасць выканаць любы загад. У 1942-м ён стаў намеснікам галоўнакамандуючага.
Пасля вайны Жукаў трапіў у няміласць. Фармальна — за вываз з Германіі вялікай колькасці трафеяў асабіста для сябе. Але многія бачылі ў гэтым незадавальненне Сталіна ягонай папулярнасцю і боязь, што ён можа ўзначаліць ваенны пераварот.
Пры Мікіце Хрушчове Жукаў вярнуўся ва ўладу і стаў міністрам абароны. У 1954-м кіраваў вучэннямі на Тоцкім палігоне ў Арэнбургскай вобласці з прымяненнем ядзернай зброі, падчас якіх тысячы людзей атрымалі розныя дозы радыяцыі. Праз некалькі гадоў пасварыўся з Хрушчовым, абвінавачаны ў стварэнні антыпартыйнай групоўкі і ў 1958-м ужо канчаткова адпраўлены ў адстаўку.
Прыватна Жукаў быў вялікім аматарам жанчын, мяняў іх як пальчаткі — але ўсё яму даравалася.

У ноч на 21 красавіка савецкая дальнабойная артылерыя даслала Адольфу Гітлеру падарунак на ягоны 56-ы дзень нараджэння: абстраляла Берлін.

### Конеў дыхае ў патыліцу

Жукаў спяшаўся, бо ведаў, што Конеў рухаецца хутчэй. 16-га дывізіі апошняга паспяхова фарсіравалі раку Нэйсэ (Нысу) — будучую новую мяжу між Польшчай і Нямеччынай. На наступны дзень у прарыў пайшлі 3-я і 4-я гвардзейскія танкавыя арміі (камандзіры — Павел Рыбалка і Дзмітрый Лелюшэнка), якія ўвечары 17-га апынуліся перад ракой Шпрэе. На той момант Конеў нарэшце атрымаў дазвол Стаўкі павярнуць іх на сталіцу Рэйха. І аддаў загад: «Нашы войскі павінны быць першымі ў Берліне, і яны здолеюць гэта зрабіць». Дзеля гэтага танкістаў кінулі наперад амаль без пяхотнай падтрымкі, абы дайшлі да горада як мага раней.

Наступленне развівалася добра, пакуль перадавыя часткі не дайшлі да горада Цосэн, дзе знаходзіўся штаб вермахта. Немцы сцягнулі туды ўсё, што змаглі знайсці, і падрыхтавалі абарону з супрацьтанкавымі равамі, за якімі стаялі танкі, артылерыя і пяхота. Наступленне замарудзілася.

Конеў злаваўся і бамбіў падначаленых злоснымі вымовамі. Не дапамагло: Рыбалку і Лелюшэнку не хапіла некалькіх гадзін, каб апярэдзіць салдат Жукава на ўскраінах Берліна 21 красавіка.

У выніку галоўную ролю ў штурме адвялі 1-му Беларускаму. Маршал Жукаў святкаваў гэта так, ▶





**Карта франтоў па стане на 15 красавіка 1945 года.** Чырвоным абазначныя тэрыторыі, занятыя саюзнікамі за папярэднія 15 дзён з 01.04 да 15.04.





**Карта франтоў па стане на 1 мая 1945 года.** Чырвоным абазначныя тэрыторыі, занятыя саюзнікамі за папярэднія паўмесяца з 16.04 да 30.04.




**Іван Конеў**

(1897–1973), ураджэнец Валагодчыны, з 1916-га ваяваў у складзе Расійскай імператарскай, а пасля і Чырвонай арміі. Доўгі час быў камісарам, удзельнічаў у падаўленні Кранштацкага паўстання. На камандзірскія пасады перайшоў у другой палове 1920-х гадоў. У пачатку 1940-х камандаваў вайсковымі акругамі. Хутка пасля пачатку вайны з немцамі ледзь не трапіў разам з 19-й арміяй у акружэнне.

За ўдалыя дзеянні восенню 1941-га быў прызначаны на пасаду камандуючага Заходнім фронтам. У кастрычніку пацярпеў страшэнную паразу пад Вязьмай і ледзь не быў расстраляны. Па адной з версій, выратаваў яго Жукаў. У далейшыя гады арміі Конева неаднаразова спрабавалі ўзламаць нямецкі фронт пад Вязьмай. Немцы трымаліся, і маршал нічым сябе не праявіў. Але летам 1943-га ў яго з'явіўся шанец паказаць сябе ў Курскай бітве, і ён яго скарыстаў. Асабліва добра яму ўдавалася манеўравая вайна. Пасля гонкі на Берлін затаіў крыўду на Жукава. Публічна гэтага доўгі час не дэманстраваў, у 1956-м разам з Жукавым падаўляў паўстанне ў Венгрыі. Але ў лістападзе 1957-га дачакаўся свайго часу і адпомсціў. Менавіта Іван Конеў напісаў артыкул у газеце «Праўда», у якім абвінавацціў суперніка ва ўсіх грахах. Таго хутка адправілі ў адстаўку.

быццам вайна ўжо скончылася. А маршал Конеў быў у роспачы. Але Стаўка троху падсаладзіла яму пілюлю і дазволіла танкістам Конева дапамагаць падчас штурму.

### Штурм Берліна

У красавіку 1945-га Чырвоная армія ўжо добра ўмела захопліваць гарады. Для гэтага ствараліся штурмавыя групы, у якія ўваходзілі пяхота, сапёры, артылерыя і танкі. Пяхота займала будынкі, артылерыя і танкі падтрымлівалі яе агнём, а сапёры ўзрывалі барыкады. Дапамогу ім аказвалі авіяцыя і нават флот! Караблі Дняпроўскай флатыліі перавезлі на машынах і выгрузілі ў берлінскія каналы. Яны дапамагалі салдатам перабірацца на іншы бераг.

Немцы супраціўляліся фанатычна. Кожны квартал прыходзілася браць з боем. Танкі гарэлі ад агню артылерыі і гранатамётаў. Гінула і пяхота, але Чырвоная армія ішла да Рэйхстага. Гэты вялізны будынак, добра бачны здалёк, стаў галоўнай мэтай для ўсіх байцоў. Сам Гітлер сядзеў у Рэйхсканцылярыі, але яна знаходзілася непадалёк.

**Падчас Берлінскай аперацыі, за пару дзён да міру, загінула каля 80 тысяч савецкіх салдат, былі параненыя яшчэ 274 тысячы. Гэтыя лічбы маглі быць меншымі, каб савецкія маршалы не спяшаліся**

29 красавіка прайшоў першы штурм Рэйхстага, пра які ў савецкай літаратуры звычайна не пісалі. Зразумела чаму: ён быў няўдалым. У журнале баявых дзеянняў 79-га корпуса было адзначана: «Немцы ў перадсмяротных сутаргах, са зброяй у руках з выключнай упартасцю абаранялі кожнае акно, кожныя дзверы і кожную лесвічную клетку».

30-га пачаўся другі штурм, і ў 14:20 у будынак уварваўся капітан Канстанцін Самсонаў з 171-й стралковай дывізіі, за ім беглі і іншыя. Увечары на даху залунalі чырвоныя сцягі. Іх было шмат, некалькі дзясяткаў. Хто насамрэч першым апынуўся на даху Рэйхстага, сказаць цяжка, але афіцыйная версія прыпісвае першынство сяржанту Міхаілу Ягораву і малодшаму сяржанту Мелітону Кантарыя.




**Савецкі салдат стаіць на нямецкім гербе каля Рэйхсканцылярыі.** Здымак Уільяма Вэндзіверта для амерыканскага часопіса «Life». Ліпень 1945-га.

### Абаронцы Берліна

Гарнізон Берліна быў вельмі слабы. Ён складаўся ў асноўным з рэзервістаў і народнага апалчэння («фольксштурма»). Жаўнеры апошняга былі альбо маладымі (да 16 гадоў), альбо старымі. Іх падтрымлівалі паліцэйскія і эсэсаўцы з дывізій, набраных па ўсёй Еўропе.
Над горадам узвышаліся тры вялізныя вежы супрацьпаветранай абароны (*Flakturm*) з моцнымі сценамі і шматлікімі гарматамі. Вуліцы былі перакрытыя барыкадамі, на скрыжаваннях з’явіліся доты. Апалчэнцы атрымалі супрацьтанкавыя гранатамёты, каб змагацца з савецкай тэхнікай. А вось са звычайнай зброяй у іх былі праблемы. Яе на ўсіх не хапіла, хоць гарнізон не перавышаў 100–120 тысяч чалавек.
Недахоп сучаснай зброі кампенсавалі музейнымі экспанатамі. Непадалёк ад Рэйхстага можна было пабачыць нават танк брытанскай вытворчасці Mk V часоў Першай сусветнай вайны. Сілаў у немцаў было мала, кола блакады замкнулася 25 красавіка.

# Сцяганосцы перамогі

У савецкія часы ўся краіна ведала двух чалавек, якія, паводле афіцыйнай версіі, першыя ўзнялі сцяг над Рэйхстагам — рускага Міхаіла Ягорава і грузіна Мелітона Кантарыя. Многія лічаць, што іх выбралі па палітычных прычынах, бо Ягораў быў па пашпарце рускім, а Кантарыя — грузінам, як і Сталін.

Пра тое, што з імі разам быў, і нават у ролі камандзіра, яшчэ і трэці чалавек, лейтэнант-украінец Аляксей Бераст, згадваць асабліва не любілі. Звязана гэта было перадусім з тым, што ён не адзначаўся надта высокімі маральнымі якасцямі, а таму ягонае жыццё пасля вайны не склалася. Спачатку ў 1948 годзе Бераст быў звольнены з вайсковай службы за дваяжэнства, а ў 1953-м ужо на цывільнай працы ў Растоўскай вобласці асуджаны на 10 гадоў турмы за раскраданне дзяржаўнай маёмасці (адсядзеў, праўда, толькі тры гады і два месяцы).

З гэтых трох чалавек для беларусаў найбольш цікавы Міхаіл Ягораў, які нарадзіўся ў Руднянскім раёне Смаленшчыны, літаральна за пару дзясяткаў кіламетраў ад беларускай мяжы. На радзіме, у райцэнтры Рудня, ён і пражыў амаль усё сваё пасляваеннае жыццё, працуючы на мясцовым малочна-кансервавым камбінаце.

Рудня тады была беларускамоўнай, нават і сёння з вуснаў вяскоўцаў старэйшага пакалення там можна пачуць сакавітую беларускую гаворку. Відавочна, што яна была мовай дзяцінства і для народжанага ў 1923 годзе Ягорава. Паэт Рыгор Барадулін, якому даводзілася з ім сустракацца, жартаўліва ўспамінаў:

«Дваццацігоддзе пачатку вайны. Трансляцыя з пасяджэння ў Крамлі. Міхаіл Ягораў кажа: “Закрапілі мы знамя і ўвідзілі Бярлін на ладані...”. Уразіла гаворка героя, і недзе закралася думка: а ці не зямляк ён раптам, ці не беларус? Праз нейкі час паехаў я ў Рудню, што на Смаленшчыне, да Міхаіла Ягорава. Не застаў. Ён паехаў у Віцебск, я следам. Застаў у віцебскім таварыстве “Веды”. Убачыўшы фотаапарат у Міхася Мінковіча, як адрэзаў:

— Запісвацца на магнітафон не буду. Не маю калі.



PINTEREST.COM

Гэта фота — сімвалічнае, яно, бадай што, найбольш вядомае і пазнавальнае з тых, якія тычацца штурму Берліна. Звычайна лічаць, што тут зафіксаваны момант вывешвання савецкага сцяга на Рэйхстагу Міхаілам Ягоравым, Мелітонам Кантарыя і Аляксеем Берастам. Але на самай справе той гістарычны момант на фотаплёнку не фіксаваўся. **Гэты ж здымак (дакладней, цэлая іх серыя) быў пастановачным, ён зроблены фатографам Яўгеніем Халдзеем па заданні ТАСС 2 мая 1945 года, калі Берлін быў ужо ўзяты і баі сціхлі.** Але склад удзельнікаў вывешвання сцяга і тут быў інтэрнацыянальны. Пазіравалі для здымка ўраджэнец Казахстана, які пасля вайны жыў у Кіеве, Аляксей Кавалёў (наверсе прымацоўвае сцяг), кумык з Дагестана Абдулхакім Ісмаілаў і беларус Леанід Горычаў. Пра нашага земляка, мінчаніна Горычава, вядома мала, ён памёр неўзабаве пасля вайны ад наступстваў атрыманых на ёй ран.

Прапануем перакусіць у буфеце гасцініцы “Дзвіна”. Угаварылі. На стале “Горны дубняк”. Наліваем, выпіваем. Герой пачынае хіліць галаву на буфетны столік. А я пачынаю сваё: “Ну вы ўсё ж беларус?” Раптам Ягораў цверазее і, лёгка ўстаўшы з-за стала, рапартуе: “Не, я рускі”.

Пасля не помню ўжо якой пляшкі Міхаіл сказаў, што дзед быў беларус. Ды тут буфет на абед зачынілі. Так “Горны дубняк” і не перамог героя».

Так склалася, што ўсе трое сцяганосцаў перамогі скончылі жыццё пры трагічных абставінах. Бераст загінуў у 1970 годзе ва ўзросце 49 гадоў у Растове-на-Доне, ратуючы дзяўчынку з-пад колаў хуткага цягніка. Ягораў разбіўся на машыне праз пяць гадоў у роднай Смаленскай вобласці, маючы ўсяго 52 гады. А Кантарыя, хоць памёр сваёй смерцю ў 1993 годзе ва ўзросце 73 гады ў Маскве, за некалькі месяцаў да таго мусіў уцякаць разам з іншымі грузінамі з ахопленай вайной Абхазіі, у якой ён пасяліўся пасля вайны.

**Услухайцеся ў вымаўленне**: расказвае Міхаіл Ягораў, як першы ўзняў сцяг над Рэйхстагам.



### ▸ Капітуляцыя Трэцяга рэйха

1 мая немцы прапанавалі спыніць агонь, але СССР запатрабаваў безумоўнай капітуляцыі. Генерал Гельмут Вейдлінг, які камандаваў абаронай Берліна, пагадзіўся, не чакаючы рашэння перапалоханых самагубствам Гітлера палітыкаў. Яго гарнізон склаў зброю ўвечары 2 мая.

### Лёс кіраўнікоў Трэцяга рэйха

Амаль усе кіраўнікі Трэцяга рэйха адказалі за свае злачынствы. Адольф Гітлер скончыў жыццё самагубствам 30 красавіка, калі савецкія жаўнеры стаялі побач з Рэйхсканцылярыяй. Разам з ім прыняла атруту ягоная шматгадовая каханка Ева Браўн, з якой фюрар ажаніўся перад смерцю. На наступны дзень здзейснілі самагубства галоўны нацысцкі прапагандыст Ёзэф Гебельс з жонкай Магдай і шасцю дзецьмі. Галоўны эсэсавец Генрых Гімлер спрабаваў уцячы, быў схоплены брытанцамі і таксама прыняў атруту. Кіраўнік авіяцыі і куратар ваеннай эканомікі Герман Герынг дажыў да міжнароднага трыбунала ў Нюрнбергу. Мусіў адправіцца на шыбеніцу, але падмануў канваіраў і скончыў жыццё самагубствам. Яшчэ адзінаццаць нацысцкіх лідараў атрымалі смяротныя прысуды. Дзесяць з іх павесілі. Адзінаццатага, асабістага сакратара Гітлера Марціна Бормана, палічылі збеглым. Толькі ў 1998-м пасля аналізу ДНК знойдзенага раней цела было даказана, што ён загінуў у Берліне ў 1945-м. Даказаць смерць кіраўніка гестапа Генрыха Мюлера не ўдалося. Па адной версіі, ён таксама загінуў у 1945-м. Але ёсць меркаванні, што яму ўдалося-такі збегчы ў Аргенціну ці нават у СССР, дзе ён нібыта дапамагаў рыхтаваць агентаў разведкі.

**У кіно паказваюць, што людзі ў гэтыя першыя хвіліны знаходзяцца ў нейкім нястрымным захапленні. Крычаць, кідаюць угару шапкі. А было зусім не так**

Падчас Берлінскай аперацыі, за пару дзён да міру, загінула каля 80 тысяч савецкіх салдат, былі параненыя яшчэ 274 тысячы. Гэтыя лічбы маглі быць меншымі, каб савецкія генералы не спяшаліся. Яны і падчас штурму супернічалі, хто хутчэй дойдзе да Рэйхстага.

Праз некалькі дзён здалася і ўся Германія. Першы акт аб капітуляцыі падпісалі 7 мая ў французскім Рэймсе. Але Сталіну ён не спадабаўся: у Маскве вырашылі, што ў дакуменце завышаная роля заходніх саюзнікаў. Таму ў Берліне быў падпісаны другі акт, які ўвайшоў у сілу, калі ў Еўропе было 8 мая, а ў Маскве 9-га. Менавіта таму перамогу над нацызмам у розных краінах адзначаюць у розныя дні.


Будынак Рэйхстага пасля заканчэння баёў.

PINTEREST.CO.UK

### Пасля перамогі

Тое, што вайны больш няма, байцы зразумелі не адразу. Камандзір 39-й гвардзейскай стралковай дывізіі Яўхім Марчанка, беларус з-пад Бялыніч, адзначаў: «Першы дзень пасля вайны асабліва выразна захаваўся ў памяці. Для нас гэтым днём стала 2 мая 1945 года. Наступіла нязвыклая цішыня. Пасля бесперапынных разрываў і траскатні з ружжаў і кулямётаў звычайныя чалавечыя размовы і нават шум машын вухам не лавіліся... Камандзіры збіралі людзей і строілі шэрагі сваіх падраздзяленняў. Калоны ротаў былі маленькія. Цяпер усе наглядна пабачылі страты.

У кіно чамусьці паказваюць, што людзі ў гэтыя першыя хвіліны знаходзяцца ў нейкім нястрымным захапленні. Крычаць, кідаюць угару шапкі,

# Ён загінуў пад Берлінам



На гэтым фота, зробленым у 1942 ці 1943 годзе ў акупаваным Брэсце, малады селянін **Васіль Панасюк з сяла Прылукі Брэсцкага раёна (злева)** з сябрам.
Васіль нарадзіўся ў 1919-м. Перад прыходам фронту ён паспее ажаніцца. Яго забяруць у армію, і ён загіне 23 сакавіка пад Берлінам у ходзе баёў за Кюстрынскі плацдарм, падчас апошняй спробы немцаў адбіць яго. У сваім апошнім лісце родным ён пісаў: «Стаім пад варотамі Берліна, але не ведаем, як яны адчыняцца».
Васіль Панасюк пахаваны ў брацкай магіле на плошчы каля царквы ў селішчы Горгаст зямлі Брандэнбург.
У іх з маладой жонкай не паспелі знайсціся дзеткі, і яна другі раз выйшла замуж. Сёстры Васіля ўсё жыццё берaглі некалькі фотаздымкаў, якія ён падарыў родным у маладосці, у тым ліку і гэты, а таксама яго лісты, якія малады чалавек дзеля хараства пісаў каляровымі алоўкамі. Васіль Панасюк — родны брат маёй бабы Пелагеі.
Васіль належаў да цэлага пакалення прызыўнікоў з Беларусі, якіх паклалі пад Берлінам. У спісе загінулых на фронце за 1945 год знаходзім 45 ураджэнцаў Заходняй Беларусі па прозвішчы Панасюк. Агулам жа пад Берлінам загінулі дзясяткі тысяч беларусаў.

**Андрэй Дынько**

гучна рагочуць і гэтак далей. Было гэта не так. Паводзіны і настрой людзей былі нейкія запытальныя: няўжо сапраўды скончылася гэтая страшэнная і непрыемная праца? Настрой людзей азмрочвалі трупы іх таварышаў, стогны і бінты параненых».

Але жыццё працягвалася. Байцы знайшлі сабе больш пазітыўныя заняткі. Напрыклад, даглядалі жывёл у заапарку. 39-я дывізія Марчанкі занялася гэтым ужо 1 мая: «Жаўнеры даволі актыўна кармілі і паілі жывёл. Адзін з байцоў папрасіў мяне аддаць загад, каб вялікаму слану не давалі больш вады, бо ён, па падліках, выпіў ужо 12 вёдраў. І калі даць яшчэ, яму можа стаць дрэнна».

Паступова на вуліцах з'явіліся гараджане. Яны выходзілі з разбураных дамоў нясмела. На жаль, не абышлося без выпадкаў марадзёрства і гвалтаванняў. Тут усё залежала ад камандзіраў асобных часцей. Адныя жорстка сачылі за сваімі салдатамі і спынялі спробы «адпомсціць фашыстам» гэтакімі метадамі. Але былі і іншыя, хто глядзеў на ўсё скрозь пальцы.

А Берлін саюзнікі хутка падзеляць, і ён застанецца падзеленым да канца халоднай вайны. ◆

# ЛЕНД-ЛІЗ

## Міфы і праўда пра амерыканскую праграму дапамогі

**Якую ролю адыграў ленд-ліз, разбіраецца Андрэй Акушка.**

Заходняя дапамога СССР пачалася восенню 1941 года. Ужо ў бітве за Маскву ўдзельнічала заходняя тэхніка. Але масавымі пастаўкі замежных матэрыялаў сталі з 1942-га. І працягваліся яны да самага канца вайны, прадэманстраваўшы незвычайны прыклад доўгага супрацоўніцтва саюзнікаў. Не ў малой ступені гэта здарылася дзякуючы прэзідэнту ЗША Франкліну Дэлана Рузвельту.

### «Садовы шланг» Рузвельта

Перад Другой сусветнай вайной у ЗША прынялі некалькі законаў аб нейтралітэце. Яны забаранялі пастаўкі зброі краінам, што ваююць адна з адной. Крытыкі сцвярджалі, што такая палітыка дапамагае агрэсарам. Бо ў іх зброя ёсць, а ў ахвяраў, накшталт захопленай італьянцамі Эфіопіі, няма.

Так думаў і Рузвельт. У 1940 годзе ён пераканаў Кангрэс дапамагчы Вялікабрытаніі і аддаць ёй паўсотні эсмінцаў*. У адказ англічане дазволілі будаваць амерыканскія базы на сваіх тэрыторыях у Заходнім паўшар'і. ЗША пагадзіліся прадаваць і зброю, але ў Лондана не хапала грошай. І тады юрысты знайшлі стары закон, які дазваляў даваць тэхніку і матэрыялы ў арэнду.

Прэзідэнт давёў сваю ідэю да грамадзян простымі словамі: «Уявіце сабе, што ў суседа загарэлася хата, а ў мяне ёсць садовы шланг. Калі ён возьме мой шланг, я дапамагу яму патушыць пажар. Што я раблю? Я не кажу яму: "Сусед, гэты шланг каштаваў мне 15 долараў і ты павінны заплаціць за яго 15 долараў". Вядома, не. Мне не патрэбныя 15 долараў, мне патрэбна, каб ён вярнуў шланг пасля таго, як пераможа пажар». Дзве трацiны амерыканцаў зразумелі аналогію, і закон аб арэндзе — ленд-лізе —

* **Эсмінец** — скарочаная назва эскадранага мінаносца, хуткага баявога карабля.

### Паспяховы амерыканскі прэзідэнт

**Франклін Дэлана Рузвельт** (1882–1945) быў найбольш яскравым прэзідэнтам ЗША ў XX стагоддзі. Ён абіраўся на сваю пасаду чатыры разы — больш, чым хтосьці да яго. Цяпер гэта немагчыма: пасля смерці Рузвельта была прынятая папраўка да канстытуцыі, якая наўпрост забараняе займаць прэзідэнцкую пасаду больш як двойчы. Незвычайным было і тое, што Рузвельт з-за хваробы не мог хадзіць. На той час палітыкам з абмежаванымі магчымасцямі цяжка было разлічваць на поспех. Але Рузвельт паводзіў сябе так, што ніхто не звяртаў на ягоны фізічны стан увагі. І савецкі дыктатар Іосіф Сталін, і брытанскі прэм'ер Уінстан Чэрчыль успрымалі яго на роўных. Сваю вялізную працаздольнасць і ўменне вырашаць самыя цяжкія задачы Рузвельт прадэманстраваў адразу. Калі ў 1933-м ён упершыню стаў прэзідэнтам, у ЗША бушаваў эканамічны крызіс. За першыя гады кіравання дзякуючы палітыцы новага прэзідэнта эканоміка аднавілася. Для гэтага дзяржава пачала актыўна ўмешвацца ў справы бізнэсу, што выклікала крытыку і абвінавачанні ў «сацыялізме». Але метад спрацаваў. Рашуча дзейнічаў Рузвельт і надалей. У замежнай палітыцы ў канцы 30-х ён адмовіўся ад традыцыйнага ізаляцыянізму. І яшчэ да ўступлення ЗША ў Другую сусветную стаў дапамагаць ахвярам агрэсіі. Потым быў ініцыятарам стварэння ААН. І падтрымліваў ідэю змагання з Германіяй і Японіяй да іх безумоўнай капітуляцыі. Ператварэнне ЗША ў звышдзяржаву пасля вайны — у значнай ступені заслуга Рузвельта.

**Выступленне Франкліна Дэлана Рузвельта** ў амерыканскім Кангрэсе ў сакавіку 1941 года перад прыняццем Закона аб ленд-лізе.





Брытанскія танкі Валентайн цаніліся ў Савецкім Саюзе.

быў прыняты. 11 сакавіка 1941-га Рузвельт падпісаў дакумент, а праз некалькі хвілін першыя караблі са зброяй і іншымі таварамі выйшлі ў Вялікабрытанію і Грэцыю.

Умовы былі такія. За тавары, страчаныя ў вайне, можна было не плаціць. А тую вайсковую тэхніку, што перажыве вайну, трэба было вярнуць. Мірныя тавары можна было не вяртаць, але аплаціць іх пасля перамогі.

Сам тэрмін «ленд-ліз» (*lend lease*) значыў «даваць пазыку» і «арандаваць».

### Пастаўкі ў СССР

У пачатку вайны Савецкі Саюз панёс вялікія страты ў людзях і тэхніцы. Прамысловасць эвакуіравалі на ўсход, а каб наладзіць выпуск прадукцыі наноў, патрэбен быў час. І Вялікабрытанія, і ЗША заявілі, што гатовыя дапамагчы СССР, нягледзячы на страх перад камунізмам, бо нацызм быў яшчэ большай пагрозай.

30 верасня — 1 кастрычніка 1941-га адбылася Маскоўская канферэнцыя. Згодна з яе пратаколам, за 9 месяцаў заходнія саюзнікі абавязаліся паставіць паўтара мільёна тон грузаў. У тым ліку тысячы самалётаў, танкаў, гармат і іншага ўзбраення. ▶

### Брытанскі «ленд-ліз»

Грузы, якія дастаўляліся ў СССР з Вялікабрытаніі, таксама часта называюць ленд-лізам. Але тут дзейнічалі іншыя пагадненні — англа-савецкая дамова пра бясплатныя пастаўкі, датаваная чэрвенем 1942 года. Да гэтага часу Масква расплачвалася золатам. Пастаўкі англійскай тэхнікі былі асабліва крытычнымі ў 1941-м. Па некаторых дадзеных, у бітве за Маскву каля 20% савецкіх танкаў складалі машыны брытанскай вытворчасці. Таксама з Брытанскай імперыі дастаўлялася і сыравіна: волава, каўчук, кобальт, свінец. Прыходзіла і прамысловае абсталяванне. Толькі металарэзных станкоў, неабходных для вырабу зброі, да вясны 1944-га было дастаўлена 6 491. А яшчэ Савецкі Саюз атрымаў 15 мільёнаў пар ботаў. І гэта былі добрыя боты, у якіх савецкія салдаты прайшлі ад Масквы да Берліна.
Агульны кошт брытанскіх паставак быў прыкладна ў 6 разоў меншы за амерыканскі. На 1946 год ён склаў 428 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Праз год Лондан зменшыў працэнты па крэдытах, якімі аплачваліся тавары. А частку доўгу дазволілі аддаць «натурай» — напрыклад, збожжам.

▸ Выкананне пратакола кантраляваў асабіста Рузвельт.

Прэзідэнту прыходзілася выкручваць рукі праціўнікам, каб усё працавала добра. Ён нават забараніў абвінавачваць СССР у тым, што атрыманыя па ленд-лізе тавары перапрадаюцца. Дальнабачны Рузвельт лічыў, што Савецкі Саюз — гэта пярэдні край абароны ЗША. Бо Чырвоная армія забівае тых немцаў, якія маглі б забіваць амерыканцаў.

### Яшчэ і тэхналогіі

Ленд-ліз — гэта не толькі танкі, самалёты, харчаванне і стратэгічная сыравіна. Гэта яшчэ і сучасныя тэхналогіі, якімі заходнія краіны дзяліліся з СССР. Напрыклад, радыёабсталяванне, якога заўжды не хапала Чырвонай арміі. Савецкі партыйна-гаспадарчы дзеяч Анастас Мікаян казаў: «Калі б вайны не было, мы б яшчэ доўга не маглі атрымаць радыёлакатары. Бо гэта сакрэтныя ўстаноўкі, і некаторыя з іх складаюць дзяржаўную таямніцу». Тое самае тычылася і гідралакатараў, якія дапамагалі знаходзіць варожыя субмарыны ў Балтыйскім і Чорным марах. Нават якасны тэлефонны кабель прыходзіў з Захаду! Перадавалі СССР і аптычныя тэхналогіі, у якіх краіна адставала ад Еўропы. Шмат цікавага даведаліся савецкія спецыялісты пра карабельную аўтаматыку і рэактыўныя рухавікі. Карысная была сакрэтная інфармацыя пра дзейнасць германскай разведкі. А з 1944-га па ленд-лізе ішло ўсё больш тавараў, якія планавалі выкарыстаць для аднаўлення акупаваных тэрыторый. Напрыклад, абсталяванне для будаўніцтва 40 электрастанцый. Уласнымі тэхналогіямі ў адказ СССР дзяліцца не надта жадаў. Так, просьбы прадэманстраваць легендарныя танкі Т-34 і КВ задаволілі не адразу. І нават калі танкі ўсё ж адправілі ў ЗША, то не апошнія мадыфікацыі.

### Выгадна для ўсіх

У 1943 годзе Сталін пра ленд-ліз быццам бы сказаў: «Самыя важныя рэчы ў гэтай вайне — машыны. Злучаныя Штаты даказалі, што могуць выпускаць ад 8 да 10 тысяч самалётаў на месяц. Савецкі Саюз можа выпускаць максімум 3 тысячы самалётаў. Англія робіць ад трох да трох з паловай тысяч на месяц, у асноўным цяжкіх бамбавозаў. Такім чынам, Злучаныя Штаты — гэта краіна машын. Без гэтых машын, што пастаўляліся па ленд-лізе, мы не змаглі б стварыць рэзервовыя арміі ці ўвогуле не змаглі б працягваць вайну».

У такім выглядзе гэтую цытату прыводзяць амерыканцы. Магчыма, у рэальнасці Сталін выказаўся інакш. Але Мікіта Хрушчоў пацвярджаў, што савецкі лідар неаднойчы хваліў ленд-ліз.

**Праграма ленд-лізу дазволіла вызваліць з прамысловасці Савецкага Саюза 600 тысяч чалавек — 10–12 армій**

Выгада тут для Чырвонай арміі была не толькі ў баявой тэхніцы. Па падліках гісторыкаў і эканамістаў, праграма дазволіла вызваліць з прамысловасці 600 тысяч чалавек — мужчын маладога ці сярэдняга ўзросту, якіх хапала на камплектаванне 10–12 агульнавайсковых армій! Многія з іх былі людзьмі з тэхнічнай адукацыяй. Іх у Чырвонай арміі не хапала, добры механік цаніўся на вагу золата.

Дапамагаў ленд-ліз і ЗША з Вялікабрытаніяй. Ён стаў іх інвестыцыямі ў бяспеку. Кожны танк, самалёт ці літр паліва, які дайшоў да СССР, выкарыстоўваўся супраць немцаў. Пастаўкі вымушалі Германію накіроўваць больш сілаў на ўсход, каб змагацца з Чырвонай арміяй. А значыць, супраць заходніх дзяржаў выкарыстоўвалася менш салдат і тэхнікі. І менш амерыканцаў ці брытанцаў гінула на франтах.

### Канец ленд-лізу

Пасля высадкі амерыканцаў і брытанцаў у Нармандыі летам 1944-га і адкрыцця Другога фронту адносіны паміж саюзнікамі сапсаваліся. Пачалася гонка армій з мэтай вызваліць як мага больш еўрапейскіх краін. У Вашынгтоне, Лондане і Маскве разумелі, што той, хто вызваліць тэрыторыю, зможа ўсталяваць на ёй свае парадкі. Чарговыя перамовы зацягваліся, а ў красавіку 1945-га прэзідэнт Рузвельт адышоў на той свет. Яго змяніў прагматычны Гары Трумэн, які не лічыў сябе нічым абавязаным СССР.

Закон пра ленд-ліз павінен быў дзейнічаць да чэрвеня 1946-га. Паколькі пасля капітуляцыі Японіі Другая сусветная вайна скончылася, то ўжо ў верасні 1945-га Трумэн спыніў пастаўкі і запатрабаваў вярнуць нескарыстаную тэхніку. Але штосьці савецкія вайскоўцы схавалі. Напрыклад, многія сярэднія танкі «Шэрман» перарабілі ў цягачы. Аддадзенае ж гаспадарам складала невялікі працэнт ад 17,5 мільёна тон грузаў, што прыйшлі з-за акіяна.

Сам працэс вяртання часам даходзіў да абсурду. Тэхніку амерыканцы прымалі і адпраўлялі пад прэс. Ім яна не была асабліва патрэбная, але ў той жа час не хацелася і пакідаць яе ў СССР.




**Плакат 1943 года.**
Мастак Яўген Зайцаў.

Пачыналася халодная вайна, і амерыканцы страхаваліся, каб іх жа танкі ці самалёты пасля не былі выкарыстаныя супраць іх. Час паказаў, што перасцярогі былі недарэмнымі. У 1962-м пяць атрыманых па ленд-лізе сухагрузаў «Ліберці» дастаўлялі грузы на Кубу. Былыя амерыканскія караблі дапамагалі галоўнаму ворагу Амерыкі ў Заходнім паўшар'і.

### Два міфы пра ленд-ліз

Пра дапамогу СССР ад заходніх саюзнікаў існуе шмат міфаў. Але два з іх самыя жывучыя. Першы пра тое, што асноўныя пастаўкі ішлі паўночным шляхам — праз парты Архангельска і Мурманска.

На самай справе, з поўначы ішло менш за 23% паставак. Прыкладна столькі ж было дастаўлена праз Іран, дзеля чаго яго летам 1941-га акупавалі Вялікабрытанія і СССР. Большасць — каля паловы — грузаў трапіла ў Савецкі Саюз праз Ціхі акіян, бо Японія прытрымлівалася дамовы аб нейтралітэце і не чапала савецкія караблі.

**У 1962-м пяць атрыманых па ленд-лізе сухагрузаў «Ліберці» дастаўлялі савецкую зброю на Кубу**

Другі папулярны міф сцвярджае, што ленд-лізаўская тэхніка была састарэлай і малапрыдатнай для ўжывання. Але гэта лёгка абвергнуць з дапамогай фактаў. Напрыклад, брытанцы хацелі скончыць выпускаць танкі «Валентайн» у 1943-м, і толькі па просьбе СССР іх вытворчасць працягнулі. У выніку Чырвоная армія атрымала амаль палову гэтых машын — 3332 штукі!

Другі па колькасці збітых у вайну нямецкіх самалётаў савецкі ас Аляксандр Пакрышкін амаль увесь час ваяваў на амерыканскай «Аэракобры». І адмовіўся перасаджвацца на савецкі «Як», бо лічыў яго ўзбраенне недастатковым.

Хваліў заходнюю тэхніку і танкавы ас Дзмітрый Лаза. Ён камандаваў батальёнам, што выкарыстоўваў амерыканскія «Шэрманы». У мемуарах «Танкіст на іншамарцы» славуты салдат пацвярджаў, што гэта былі добрыя танкі. Менавіта на іх Лаза з таварышамі першым уварваўся ▶



Па ленд-лізе ішла **не толькі тэхніка, але і харчаванне.**

TASS.RU

► ў Вену вясной 1945-га. І суткі ўтрымліваў цэнтр горада, пакуль не падышла дапамога.

Пад канец вайны большасць славутых «Кацюш» ездзіла на заморскіх грузавіках «Студэбекер». А паміж савецкімі камандзірамі ішла няспынная барацьба за амерыканскія джыпы «Віліс». Як толькі кіроўца пакідаў джып без дагляду, яго мог выкрасці калега з іншага падраздзялення. Там машыну хутка перафарбоўвалі, а на прэтэнзіі былых уладальнікаў адказвалі: «Нічога не ведаем, толькі што атрымалі ад амерыканцаў».

### Перамога без ленд-лізу?

Ці мог Савецкі Саюз перамагчы ў вайне без гэтай дапамогі? Хутчэй так, чым не. Але цана перамогі была б яшчэ вышэйшая, бо вайна цягнулася б даўжэй.

У 1942-м замежная бранятэхніка складала ўсяго 11% ад агульнай колькасці. У наступным годзе — толькі 9%, а далей лічба стала яшчэ ніжэйшай. За ўсе гады амерыканцы прывезлі 7 тысяч танкаў і яшчэ 5 тысяч дадалі брытанцы. Але адных толькі Т-34 было зроблена ў СССР у разы болей, і па якасці яны не саступалі.

У авіяцыі, праўда, доля замежнай тэхнікі была вышэйшай — каля 20%. Таму 11 тысяч амерыканскіх і 7 тысяч брытанскіх самалётаў лішнімі не былі. Хоць і без іх можна было б абысціся.

## Расія **разлічылася** за ленд-ліз толькі ў 2006 годзе

А вось з палівам (асабліва з яго якасцю) праблем хапала. Каб забяспечваць армію, дэфіцытныя 2,6 мільёна тон прыйшлося б набываць за грошы — і яшчэ невядома дзе.

Яшчэ горш ішлі справы з аўтамабілямі. Без 427 тысяч «амерыканцаў» працэс вызвалення акупаваных тэрыторый значна замарудзіўся б. Яшчэ пагоршала б і без таго не бліскучае харчаванне ў войсках і тыле.

Але ні адзін з гэтых фактараў не выглядае настолькі крытычным, каб сцвярджаць, што без дапамогі Савецкі Саюз зусім не справіўся б. Гэта пацвярджаюць словы Гары Гопкінса. Галоўны памочнік і дарадца Рузвельта казаў: «Мы ніколі не лічылі, што наша дапамога па ленд-лізе ёсць галоўным фактарам у савецкай перамозе над Гітлерам на ўсходнім фронце. Яна была дасягнутая дзякуючы гераізму і крыві савецкіх салдат».

Але відавочна, што без ленд-лізу вайна з немцамі зацягнулася б яшчэ на 2–3 гады. Таму няма сумневаў у тым, што ленд-ліз урававаў шмат жыццяў. ◆

### Выплаты па ленд-лізе

Згодна з законам пра ленд-ліз, СССР павінен быў аплаціць толькі тэхніку і абсталяванне, якія перажылі вайну. Амерыканцы падлічылі, што давезлі тавараў на 11,3 мільярда долараў (з улікам інфляцыі сёння гэта было б не менш за 150 мільярдаў). З гэтай сумы яны жадалі атрымаць пасля вайны 2,6 мільярда долараў. Але каб аддзячыць за ўклад Чырвонай арміі ў перамогу, суму выплат знізілі ўдвая. Савецкі Саюз не пагадзіўся і прапанаваў аддаць толькі 170 мільёнаў. Пачаліся перамовы, якія ішлі не адзін год.
Канчатковая дамова аб выплатах была заключаная толькі ў 1972 годзе. Згодна з ёй, да 2001-га Савецкі Саюз абавязаўся выплаціць 722 мільёны долараў.
Але ўжо ў 1973-м выплаты былі перарваныя з-за ўведзеных супраць СССР санкцый. Толькі летам 1990-га савецкі лідар Міхаіл Гарбачоў вярнуўся да тэмы і паабяцаў вярнуць усю суму да 2030-га.
Пасля развалу Саюза доўг узяла на сябе Расія. Яна цалкам разлічылася за ленд-ліз у 2006-м. Тады ж апошнія выплаты амерыканцам зрабіла і Вялікабрытанія.

## «А смачныя сала, печанёўку і крыпаныя кілбасы дзядзька Вася шмат гадоў дасылаў у Мінск»

Шаноўны пане Завадскі!

Ваш артыкул «Пагалоўшчына» ў № 3/2020 «Нашай гісторыі» глыбока закрануў маё сэрца, напомніў пра маё дзяцінства і юнацтва на зусім блізкай да вашых мясцінаў Лепельшчыне. Захацелася сказаць вам вялікі дзякуй.

Большасць вылучаных вамі слоў мне не толькі добра зразумелыя, але і да глыбіні душы родныя. Бо мова Лепельшчыны амаль такая самая. Намаляваная вамі карціна жыва паўстае перад маімі вачыма. Шмат разоў даводзілася збіраць на корм свінням бабоўнік, малочнік і іншыя расліны — усе яны агульна называліся ў нас ахрап'ём.

А смачныя сала, печанёўку і крыпаныя кілбасы дзядзька Вася шмат гадоў пасля дасылаў у Мінск у пасылцы. Кожныя Каляды, аж да сярэдзіны 1980-х.

Толькі само слова «пагалоўшчына» ў нас не ведалі.

**Валянціна Белая, родам з вёскі Двор Бабча Лепельскага раёна**

## Рэестра не існавала

У артыкуле Аляксандра Мілінкевіча пра гарадзенскі вежавы гадзіннік (№ 2/2020 «Нашай гісторыі») напісана, што «ў 1996 годзе гарадзенскі вежавы гадзіннік быў зарэгістраваны ў Рэестры помнікаў..., а ў 2007-м пастановай Савета Міністраў быў унесены ў Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей».

«Рэестра» ніколі не існавала: ні за савецкім часам, ні ў Рэспубліцы Беларусь. Статус гісторыка-культурнай каштоўнасці катэгорыі «1» (міжнародная спадчына) быў нададзены на падставе рашэння Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, на падставе чаго ён быў уключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Уключэнне ў Дзяржспіс ажыццяўлялася супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, з 2002 года — дэпартамента і з 2004 года — упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры, як гэта адбываецца да цяперашняга часу. Такой была працэдура згодна з Законам аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны 1992 года.

Паводле Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны 2006 года кампетэнцыя надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці была ўскладзена на Савет Міністраў, які сваёй пастановай ад 14.05.2007 № 578 зацвердзіў гэты статус усім тым аб'ектам спадчыны, якія да гэтага знаходзіліся ў Дзяржспісе. Па сутнасці, для гадзінніка, як і для іншых прыблізна 5 500 матэрыяльных аб'ектаў і нематэрыяльных праяўленняў творчасці чалавека, нічога не змянілася.

Паводле цяперашняга Кодэкса аб культуры, кампетэнцыя надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці вернута Міністэрству культуры, пры тым што яго супрацоўнікі гэту работу рабілі і па законе 1992 года, і па законе 2006 года. Спецыялістам ва ўрадзе руціна зацвярджэння прадстаўленага Мінкультуры праекта пастановы, відаць, падалася празмерна складанай.

Гэтыя быццам бы дробязі адносна надання статусу і вядзення Дзяржспіса маюць значэнне, калі нехта некалі пажадае спаслацца на публікацыю.

**Ігар Чарняўскі, у 2008–2016 гадах начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Беларусі**

## Краіна без логікі

Прачытаў пра гімназічны перыяд Ульянава-Леніна (№ 3/2020 «Нашай гісторыі» ) і захацелася дадаць.

Сыну губернскага інспектара народных вучылішчаў як бы належала быць сярод першых, і бацькі сачылі за вучэбнай працай сваіх дзяцей. Асабліва маці, якая, маючы настаўніцкі дыплом, была хатняй гаспадыняй і прыкладала вялікія намаганні, каб дзеці аддавалі шмат часу заняткам, вучобе.

Логіка была адзінай дысцыплінай, якая ніяк не давалася Валодзю. Выкладаў адну з галоўных дысцыплін школьнай праграмы дырэктар гімназіі Фёдар Керанскі. Ён, як і іншыя настаўнікі ў такіх выпадках, паставіў бы Валодзю пяцёрку, калі б той дацягнуў свае веды хаця б да чацвёркі. Але чацвёрка па логіцы была для Валодзі недасяжнай. Бачачы марнасць намаганняў, дырэктар усё ж паставіў яму чацвёрку, адзіную сярод астатніх пяцёрак, але настаяў, каб хлопцу выдалі па заканчэнні гімназіі залаты медаль.

Пазней у савецкіх падручніках паведамлялася, што медаль выдаваўся пры ўсіх пяцёрках і што медаль Валодзя атрымаў. І тое, і другое было праўдай, з чаго мусіла вынікаць, што ў Валодзі былі ўсе пяцёркі. У нейкім падручніку (у якім, не ўспомню, тое было ў 60-я гады) я нават бачыў надрукаваны атэстат Ульянава з усімі пяцёркамі. Праўда, два радкі ў атэстаце не праглядаліся нібыта з-за пацёртасцяў (ну што зробіш, дакумент стары, не захаваўся як трэба).

Значна пазней я даведаўся, якія радкі былі зацёртымі. Гэта самы першы радок «Закон Божы», па якім у Валодзі была адзнака «5». Паказваць гэта ў краіне атэізму было няэручна. На іншым зацёртым радку была логіка з чацвёркай Керанскага.

Логіка засталася слабым месцам Уладзіміра Ульянава і ў ролі адваката (амаль усе судовыя працэсы ён прайграў), і пазней у ролі палітыка. Калі мы, студэнты фізіка-матэматычнага факультэта, пачалі вывучаць ленінскія працы (а тады на любых факультэтах гэтага было ніяк не абысці), я спачатку сапраўды імкнуўся паглыбіцца ў ленінскія думкі, развагі, аргументы (усё ж — самы разумны чалавек на зямлі!). Прывучаны матэматыкай да лагічнай паслядоўнасці, я і там шукаў ▶

**Абрам Столяр** (1919–1993) — савецкі навуковец у галіне выкладання матэматыкі, доктар педагагічных навук, прафесар, загадчык кафедры методыкі выкладання матэматыкі, прарэктар Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Найбольшую ўвагу надаваў лагічным аспектам выкладання матэматыкі. Жарсны абаронца выкладання логікі ў сярэдніх навучальных установах СССР, што можна лічыць галоўным клопатам яго жыцця.
Разам з тым, аддаючы перавагу фармальна-лагічнаму ўпарадкаванню школьнай матэматыкі, Столяр менш увагі аддаваў іншым (у прыватнасці, псіхалагічным) аспектам гэтых працэсаў, таму яго ідэі аказаліся школай мала запатрабаванымі.



**Пасяджэнне адной з секцый канферэнцыі ў абарону логікі (Магілёў, 1980 год).** Міхась Булавацкі — наперадзе справа, з дыктафонам. Злева на тым жа радзе — аспіранты Абрама Столяра Лявон Латоцін і Аляксандр Радзькоў. Апошні пасля, ужо ў незалежнай дзяржаве, зрабіў бліскучую кар'еру: у 2003–2010 гадах быў міністрам адукацыі Беларусі, а ў 2010–2015 спачатку першым намеснікам кіраўніка адміністрацыі, а пасля памочнікам прэзідэнта. Акрамя таго, у 2007–2018 гадах ён быў старшынёй Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі «Белая Русь».

► лагічныя ланцужкі. Шукаў і не знаходзіў. Замест гэтага знаходзіў нейкія мянушкі для апанентаў («рэнегат Каўцкі» ды іншыя) і лаянку. Бачачы марнасць сваіх намаганняў, я здаўся і пачаў рабіць як усе: рыхтуючы канспект той ці іншай ленінскай працы, перапісваў яе праз адзін-два-тры абзацы і здаваў выкладчыку. Існавала маўклівая дамоўленасць: выкладчыкі давалі студэнтам заданні, якія патрабавалася даваць, а студэнты нібыта іх выконвалі, што ўрэшце ўсіх задавальняла.

У Савецкім Саюзе Ульянаў-Ленін быў абвешчаны найвялікшым геніем усіх часоў і народаў. І каб людзі не вельмі ўглядаліся ў той зацемнены радок з адзнакай па логіцы і не задумваліся пра яго, логіку з праграмы савецкай школы выкінулі.

Калі людзі, пачынаючы восенню 1918 года чарговы навучальны год, не знайшлі ў адукацыйнай праграме логікі, яны палічылі, што дапушчана нейкая дзікая памылка, якую трэба тэрмінова паправіць. Пайшлі лісты ад настаўнікаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў — у Цэнтральны камітэт партыі, у Саўнаркам, у наркамат адукацыі — з прапановамі і патрабаваннямі вярнуць логіку ў школьную праграму. Друкаваліся артыкулы ў часопісах і газетах у абарону логікі, абараняліся кандыдацкія і доктарскія дысертацыі, праводзіліся навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя неабходнасці вывучэння логікі ў школах. Гэта доўжылася цягам усёй гісторыі СССР.

Адна такая канферэнцыя (мяркую, што апошняя ў СССР) у статусе ўсесаюзнай праводзілася на пачатку 80-х гадоў у Магілёве, бо тут жыў і працаваў адзін з найактыўнейшых абаронцаў логікі прафесар Абрам Столяр. Канферэнцыя сабрала каля 60 навукоўцаў — і сівых прафесараў, і маладых выкладчыкаў ВНУ з усёй краіны: Ленінград, Масква, Кіеў, Новасібірск, Ташкент, Барнаул... Я слухаў гэтых людзей аднаго за адным, слухаў іх пераканаўчыя аргументы на карысць вяртання логікі ў школьную праграму — і ў мяне паступова стваралася ўражанне, што вось стаіць натоўп перад міністэрствам адукацыі і выгуквае: «Вярніце логіку ў школу!» Але міністэрства стаяла насмерць: адступаць няма куды, за намі Ленін.

Праўда, у гісторыі савецкай адукацыі быў кароткі перыяд, калі логіку ў школу вярнулі. З снежня 1946 года ЦК ВКП(б) прыняў пастанову «Аб выкладанні логікі і псіхалогіі ў сярэдняй школе». Быў спешна напісаны падручнік па логіцы для школы (выдатны падручнік Сяргея Паварніна царскіх часоў перавыдаць не захацелі), і логіку ў школах пачалі выкладаць настаўнікі не матэматыкі, а... літаратуры. То-бок вяртанне было фармальным.

Сталін памёр вясной 1953 года, а ў верасні таго ж года логікі ў школьнай праграме ўжо не было. Патлумачылі неабходнасцю барацьбы з перагрузкай школьнікаў. Пакінулі яе маленькім фрагментам у курсе псіхалогіі. Але ў 1955 годзе (пры Хрушчове) школьнікаў разгрузілі і ад псіхалогіі. Таму можна лічыць, што ўсе 70 гадоў Савецкі Саюз існаваў без логікі.

А праблема яе вяртання ў школьныя праграмы і па сёння застаецца сярод актуальных праблем беларускай адукацыі.

**Міхась Булавацкі, педагог, Магілёў**

ФОТА АНДРЭЯ СКУРКО

Стары магільнік у Наўрах.
**Тут ляжаць ахвяры пошасці 1813-га.**

# Царква, поўная трунаў: эпідэмія 1813-га пад Мядзелам

**«Яшчэ за Польшчай мы з татам мох дзерлі ў Доўгім Бярэзніку. А пад мохам — падрубы дубовыя старыя, ад будынкаў ніжнія вянцы. Тата кажа: тут наша Слабада была даўна, потым на новае месца перайшлі, ратаваліся ад хваробы». Так я ўпершыню пачуў гісторыю пра перанос вёскі Новікі Мядзельскага раёна. Што за пошасць касіла людзей у Цэнтральнай Беларусі 200 год таму і як ёй спрыялі міжнародныя кантакты? Піша Андрэй Скурко.**

Стары дзядзька Віця, які яе расказваў, быў як увасабленне калектыўнай памяці нашых мясцін. Худы, чорны, насаты — ёсць і такі тып беларуса, — быў нібыта старэйшы за свае восемдзесят з нечым. Ён быў спрадвечны са сваёй сялянскай жорсткасцю і цвёрдай верай у тое, што рана ці позна вернуцца голад, вайна і пошасць — спадарожнікі беларуса цягам усёй гісторыі. Як пра бачанае на ўласныя вочы ён расказваў пра казакоў, што стаялі ў Слабадзе за царом і прывучылі коней да цукру, пра старога пана са Старога Двара, які даў волю сялянам ад гора, калі яго сын забіўся. З гадамі мова дзядзькі Віці рабілася ўсё менш разборлівай, пакуль не стала шэптам хвояў над магільнікам.

Часам чуткі пра перанос вёскі ўсплывалі і ў іншых размовах са старэйшымі, згадкамі з перыферыі іх памяці: от, маўляў, поле называецца Крыжыкі, бо ставілі некалі там крыжы, каб адгарадзіцца ад мору.

Часта такія аповеды — легендарныя. Як, напрыклад, той, што тлумачыць наяўнасць двух Мядзелаў — Старога і Новага. Нібыта ў «Новы» людзі таксама перайшлі са «Старога» пасля нейкай пошасці. Аднак на справе Новы Мядзел быў заснаваны ўласнікамі Старога ў XVIII стагоддзі проста дзеля павелічэння прыбыткаў — і на гэта ёсць адпаведны прывілей караля Аўгуста III.

Тым больш цікава было натрапіць у метрычных кнігах Беркаўскай уніяцкай парафіі, да якой адносілася і Слабада (афіцыйна яна цяпер завецца Новікі), на сляды эпідэміі пачатку XIX стагоддзя, што магла быць тым легендарным морам.

Тагачасныя СМІ пра яго не згадвалі. Было не да таго. Афіцыйная польскамоўная газета «Кур'ер літэўскі», выдаваная ў Вільні, у пачатку 1813-га толькі-толькі пераарыентавалася ▶

▶ з французскага падпарадкавання на рускае і замест «маскалі» ды «варвары» пачала пісаць «ІМПЕРАТАР», калі гаворка заходзіла пра Аляксандра I, а замест парыжскіх навінаў адкрываць выпуск пецярбургскімі. Калі выданне і пісала пра сялян, дык хіба толькі пра збеглых прыгонных, даючы іх імёны і апісанне для росшукаў.

### Пачатак

Няма наўпроставага ўказання на хваробу і ў царкоўных кнігах за 1813 год. Парах (так называлі ўніяцкіх святароў — параўнайце са словам «парафія») Беркаўскай царквы Базыль Мацкевіч у сваіх запісах не пазначаў прычыну смерці сваіх парафіянаў. Але статыстыка проста крычыць пра ненармальнасць сітуацыі: калі звычайна за год на той свет выпраўлялася з навакольных вёсак чалавек дзесяць-дванаццаць, дык у 1813-м — дзевяноста.

Мор пачаўся ў лютым у Субачах (цяпер Вілейскі раён), у самым паўднёвым куце парафіі, і за дваццаць дзён забраў сем чалавек.

Гэта мужчыны і жанчыны ў веку ад 30 да 60 гадоў — яўна не тыя, каму пара выбірацца на той свет. Так, 14 лютага сканала 35-гадовая Ягнешка, дачка Сымона Адамовіча, а праз тры дні памёр яе 30-гадовы брат Даніэль.

Пасля кароткага зацішша 25–27 сакавіка пошасць пашырылася на суседнія вёскі і забрала яшчэ дзесяць чалавек. Сярод памерлых былі і малыя, як 2-гадовая Барбара Гардзей з Субачаў, і старыя, як 90-гадовы Раман Валынец з Беркаўшчыны, і юнакі ў самым росквіце, як 20-гадовы Ізыдор Сувалка з Кіржына.

### 19 чалавек за тыдзень

У самыя апошнія дні сакавіка хвароба дацягнулася да Наўраў. Для гэтай вёскі вясна 1813-га была кашмарнай. 28 сакавіка там памірае пяць чалавек, праз два дні — яшчэ сем. За дзень выміралі цэлыя сем'і: як 45-гадовы Лук'ян Кашкевіч і яго 13-гадовы сын Хведар ды 7-гадовая Праксэда Кашкевічаўна, Лук'янава пляменніца. У наступныя дні хвароба пайшла на спад, забраўшы ў вёсцы агулам 19 чалавек.

Але суцішылася яна толькі тут, а ўвогуле пайшла далей — у Слабаду, дзе 4–7 красавіка памерлі пяцёра. Магчыма, тады, пабачыўшы, што робіцца ў суседзяў, людзі і перасяліліся за рачулку, на высокую гару — далей ад Наўраў. З часам месца старой Слабады зарасло лесам.

Цяжка ўявіць сабе адчай, які штурхае на тое, каб пакінуць абжытае месца. Што рабілі яшчэ, каб адвесці хваробу? Абворвалі вёскі, запрэгшыся ў плуг? Абносілі ручніком, сатканым за адну ноч? Гісторыя іншых мясцін ведае ў такой сітуацыі нават прыклады чалавечых ахвяраў (гл. артыкул

### Жылі цяжэй, але парода была крапчэйшая

Дарэчы, 90-гадовы век, мяркуючы па царкоўных метрыках, не быў у тыя часы нечым вынятковым. Людзі жылі цяжэй, але, дзякуючы натуральнаму адбору, парода была крапчэйшая. Згадаем лагойскага графа Піюса, бацьку слаўнага этнографа і археолага Яўстаха Тышкевіча, які пражыў 102 гады. Дый сярод сялян адной толькі Беркаўскай парафіі сем чалавек — тры жанчыны і чацвёра мужчын — адышлі ў той год у веку ад 89 да 98 гадоў.
Вядома, да дакладнасці вызначэння ўзросту прыгонных сялян у тыя часы, калі яны не мелі асабістых дакументаў, ды і самі часцей за ўсё былі непісьменныя, можна мець рэзонныя пытанні. Цалкам верагодна, што ў большасці выпадкаў падлік гадоў быў толькі прыблізны. Але ў кожным разе вельмі старых людзей, адносна якіх, прынамсі, магло здавацца, што ім ужо пад сотню, тады не бракавала.




ФОТА АНДРЭЯ СКУРКО

**Субачы сталі бязлюднымі** ўжо ў XXI стагоддзі.

Андрэя Вашкевіча пра халеру ў №7/2019 «Нашай гісторыі»).

8–10 красавіка эпіцэнтр смерцяў перамяшчаецца ў суседнія Сваткі. З 10 чалавек, якія памерлі там за тры дні, шасцёра — малыя дзеці ад года да сямі.

Пасля эпідэмія кідаецца на Замашша, што за Сваткамі, — 11 красавіка там паміраюць трое, старая і двое дарослых мужчын з адным прозвішчам Роўда.

З надыходам цяпла хвароба аціхае. Хоць яшчэ раз праявіцца




ў снежні, забраўшы 17 чалавек у Рудзевічах, Даўжанях, Халмах і Субачах, з якіх усё пачыналася.

Апошнімі ў той год памерлі 6-гадовая Ева і гадавалы Сцяпан, дзеці ўдовага Тамаша Калбуна з Халмоў, які толькі-толькі ажаніўся другі раз.

## Беркаўская парафія: мінулае і сучаснасць

Цяжка сказаць, чым тлумачыўся менавіта такі падзел, але «нарэзку» Беркаўскай парафіі не назавеш зручнай. Ад Беркаўшчыны, дзе знаходзілася царква, яна ішла вузкім доўгім клінам трыццаць кіламетраў на паўночны захад аж да Наўраў і Сватак. Каб людзям не ездзіць за свет на імшу, у Сватках мелася дапаможная цэркаўка, куды парах прыязджаў служыць для гэтай часткі сваёй паствы.

Пастаўленая ў пачатку XVIII стагоддзя, тая цэркаўка не перажыла Другую сусветную: яе разам з маёнткам Марцінова спалілі партызаны. На ўзгорку-царквішчы стаіць цяпер толькі мураваная брама, побач з якой прыткнулі сельпо.

Няма следу і ад Беркаўскай царквы. Пасля скасавання уніі ў 1840-я скасавалася і парафія, храм заняпаў і сшарыўся да Першай сусветнай. Цяпер яго месца пазначае купа велічных тапаляў паміж вёскамі Пашкоўшчына і Зарэчнае. Побач, па завядзёнцы савецкага часу, паставілі ферму, а цвінтар узаралі. Дый сама вёска Беркаўшчына, якая на картах пачатку XIX стагоддзя друкавалася такім жа вялікім шрыфтам, як Крывічы, Даўгінава ці Касцяневічы, афіцыйна перастала існаваць, далучаная да суседняга Зарэчнага.

## «Гэта быў тыф!»

Што ж сёння робіцца ў мясцінах, па якіх 200 год таму прайшла смерць? І ці запомнілася там эпідэмія?

У Субачы ідзе гравейка з касцяневіцкай трасы, але аматары незвычайнага могуць паспрабаваць праехаць старым Куранецкім гасцінцам, пазначаным яшчэ на імперскіх картах 1832 года. Захаваўся ладны кавалак — ад Пашкоўшчыны да Філіпак. Месцамі гэтыя пяць-сем кіламетраў будуць падавацца двацццацю, бо трактператварыўся ў калдобістую лясную дарогу, і толькі велічныя старыя бярозы пункцірам пазначаюць яго ход. Ніхто, здаецца, не зрабіў экскурсійнага маршруту па старых гасцінцах, не расказаў іх гісторыі: хто і калі праязджаў і праходзіў па іх.

У Субачах цяпер жыве толькі адзін чалавек, пенсіянер Леанід. Яшчэ адна сталая жыхарка паехала да дзяцей у Польшчу і праз каранавірусны каранцін не можа вярнуцца. Проста перад вёскай па дарозе бяжыць лісіца і павяртае на поле толькі пры набліжэнні машыны.

Леанід грэецца на лавачцы пры пустой вуліцы. Спяшацца няма куды: уся яго гаспадарка і кампанія — два сабачкі-дварнякі. На акне ў калідорчыку відаць пустая бутэлька ад «Сваяка». Пра мор 1813-га Леанід ніякіх аповедаў не чуў.

Наўры (Наўрані па-мясцоваму) стаяць на высокім месцы над ракой Вузлянкай, адным канцом упіраючыся ў круглае азярцо Наўранскае. Гісторыкам вёска вядомая старажытным крывіцкім магільнікам на сотні курганоў, што раскінуўся побач у ляску.

Найстарэйшая жыхарка Наўраў — 93-гадовая Соф'я ▶

Дзянісаўна Губская. «Гэта быў тыф!» — адразу кажа яна, пачуўшы пытанне пра даўнюю эпідэмію. «Мне свёкар расказваў, ён чуў ад старых... Мёрлі людзі — страх! У Сватках у царкве ляжалі людзі».

Каб захавацца на стагоддзі ў народнай памяці, пэўная падзея мусіць мець яскравую дэталь, нешта нябачанае раней. Тут такой дэталлю стала жудаснае відовішча — царква, поўная трунаў. Відаць, іх звозілі, чакаючы святара з далёкай Беркаўшчыны.



**Снежань 1812-га, недзе паміж Плешчаніцамі і Смаргонню. Магчыма, у Даўгінаве?** Гравюра Фабера дзю Фора, 1830-я.

PINTEREST.COM

## Спадарожнік войнаў мінулага

У 1812-м тыф нанёс Вялікай арміі Напалеона большыя страты, чым уласна ваенныя дзеянні, асабліва падчас адступлення з Масквы халоднай восенню.

«Класічны» еўрапейскі сыпны тыф перадаецца праз вошай, калі чалавек расчэсвае пакусанае месца і тыфозныя ўзбуджальнікі-рыкетсіі з калу насякомага трапляюць у кроў і размнажаюцца ў чалавечым арганізме, выдзяляючы таксіны. Пасля 10–14 дзён інкубацыйнага перыяду ў хворага пачыналася ліхаманка, галаўны боль. Яшчэ праз некалькі дзён па скуры ад жывата разыходзілася ружовая высыпка. Тэмпература падскоквала да 40 градусаў, хворы пачынаў трызніць. Паколькі ўзбуджальнікі паразітавалі ў крывяносных сасудах арганізма, непасрэднымі прычынамі смерці «ад тыфу» маглі быць закупоркі артэрый, інфаркты, кровазліццё ў мозг, а таксама пнеўманіі і атыты. Ад закупоркі лёгачнай артэрыі чалавек мог загінуць ужо на стадыі выздараўлення, калі ўставаў з пасцелі і пачынаў болей рухацца.

Тыф — не чума, яго можна было адужаць. І, каб уявіць сабе маштаб і карціну эпідэміі ў Беркаўскай парафіі, трэба браць пад увагу не толькі дзясяткі памерлых, але і сотні тых, хто тыднямі кідаўся ў гарачцы між жыццём і смерцю.




**93-гадовая Соф'я Губская** — найстарэйшая жыхарка Наўраў.

ФОТА АНДРЭЯ СКУРКО

## Французы пад Даўгінавам

У тыя часы тыф называлі гарачкай, гнілой гарачкай, нервовай гарачкай. Адкуль яна з'явілася ў Субачах у лютым?

Можна меркаваць, што з боку Даўгінава, ад якога да Субачаў — кіламетраў 15 напрасткі.

У Даўгінаўскай уніяцкай парафіі ўсплёск смяротнасці фіксуецца ў канцы снежня 1812-га. Да сярэдзіны сакавіка парах Дамінік Марціноўскі адпеў і пахаваў 48 чалавек. Дый сам 68-гадовы святар той год не перажыў. А маштабы эпідэміі ў Даўгінаве не вымяраюцца толькі гэтымі ахвярамі, бо, апроч уніятаў, там жылі і каталікі, і яўрэі.

За тры тыдні да таго ўсплёску, 20 лістапада 1812 года, аддзел расійскага падпалкоўніка Фрыдрыха Карла Тэтэнборна дагнаў пад Даўгінавам рэшткі баварскага корпуса французскага войска пад загадам генерала Карла-Філіпа фон Урэдэ. Баварцы пасля катастрофы на Бярэзіне адступалі на Вілейку і Смаргонь, каб злучыцца з асноўнымі сіламі французаў. Тэтэнборн разбіў ар'ергард баварскага корпуса, узяўшы ў палон, як ён паведамляў Міхаілу Кутузаву і Пятру Вітгенштэйну, 26 афіцэраў і тысячу салдат.



ФОТА АНДРЭЯ СКУРКО

**Даўгінава.** Прыдарожная капліца сярэдзіны XIX стагоддзя з маленькім цвінтаром удзельнікаў мінулых войнаў.

## Кожны шосты

Сітуацыя ў ваколіцах Даўгінава і Мядзела не была ўнікальнай. Гісторык Вячаслаў Насевіч апісвае аналагічныя падзеі ў вёсцы Корань пад Лагойскам, праз якую адступалі французы: ад снежня 1812-га да красавіка 1813-га там памерлі 255 чалавек — кожны шосты. З іх 93 — дзеці да 15 гадоў.
У той год тыф бушаваў ва ўсёй Еўропе. Тою ж вясной 1813-га пацярпелі рэгіёны Германіі ўздоўж ракі Майн. Да лета тыф суцішыўся, але наступнай зімой, пасля «бітвы народаў» пад Лейпцыгам, эпідэмія ўспыхнула з новай сілай і забрала 250 тысяч чалавек у ваколіцах Вюрцбурга і Майнца.

А колькі французаў рассеялася па лясах, па вёсках! Як кажуць крыніцы, беларусы ў масе сваёй ставіліся да французаў без нянавісці: верылі, што Напалеон ідзе адмяніць прыгон. Нягледзячы на рабунак і рэквізіцыі. «У Слабадзе былі французы. Бабу злавілі і спадніцу на галаву ёй завязалі», — баіў дзядзька Віця. Такі быў гумар варварскіх часоў.

Дый паны, якія хацелі адраджэння Рэчы Паспалітай і ВКЛ, загадвалі ўвосень 1812-га цепліць лазні і восеці, каб адаграваць змерзлых напалеонаўскіх ваякаў. Частыя гісторыі, калі салдаты Вялікай арміі заставаліся па вёсках і жаніліся з сялянкамі. Сяляне ж збіралі па палях і дарогах ды хавалі целы памерзлых.

Тут спагада адыграла фатальную ролю: абмерзлыя хворыя французы прынеслі сваім ратавальнікам тыф. Праз год ён адступіў, каб праяўляцца час ад часу аж да 1940-х, але такога размаху, як у 1813-м, не меў больш ніколі. ◆




**Юны рымлянін, намаляваны побач з егіпецкім богам смерці Анубісам і багіняй Ісідай.** Пахавальнае пакрывала, II стагоддзе.

# ЧУМА
## расплата за цывілізацыю

**Рызыка эпідэмій — гэта цана, якую чалавецтва плаціць за міжнародны гандаль, які забяспечвае нам камфортнае жыццё. Па меры таго, як узрастае дабрабыт чалавецтва, гэтая рызыка таксама ўзрастае. Пра тое, як чума разбурыла старажытнарымскую цывілізацыю, піша Аляксей Казленка.**

Узбуджальнікамі хвароб з'яўляюцца бактэрыі і вірусы, якія жывуць у целах жывых арганізмаў. Чалавек заражаецца імі ў асноўным ад жывёл, як дзікіх, так і свойскіх. Грып, воспа і чума з'яўляюцца спадарожнікамі чалавецтва на працягу многіх тысячагоддзяў. За гэты час хваробы забілі людзей больш, чым іх загінула на франтах войнаў. Разбуральны патэнцыял хваробы спачатку стрымліваўся адносна невялікай колькасцю насельніцтва стэпавых азіяцкіх рэгіёнаў, дзе гэтыя хваробы звычайна з'яўляліся. З-за невялікага інкубацыйнага перыяду хворы паспяваў памерці раней, чым дабіраўся да буйных гарадоў са шматлікім насельніцтвам.

Аднак развіццё эканомікі і пашырэнне міжнароднага гандлю паспрыялі значна шырэйшаму распаўсюду смяротных хвароб. Разам з караванамі яны перамяшчаюцца па гандлёвых шляхах і за кароткія тэрміны ахопліваюць цэлыя краіны. Найбольш спусташальныя эпідэміі з'яўляліся пасля працяглых перыядаў росквіту, з-за чаго расцэньваліся як божае пакаранне. Выклікаючы тым самым яшчэ большы страх.

### Імянныя хваробы

Позні перыяд гісторыі Рымскай імперыі быў адзначаны шэрагам спусташальных

эпідэмій нябачаных раней маштабаў. Адной з першых была «Антанінава чума» сярэдзіны — другой паловы II стагоддзя, якая забіла ад 7 да 10 млн чалавек з 60 млн насельніцтва імперыі. Яе працягам была «Кіпрыянава чума» сярэдзіны — другой паловы III стагоддзя.

## Смяротная хвароба расцэньвалася як божае пакаранне

Зрэшты, хоць самі рымляне лічылі абедзве гэтыя пошасці чумой (*loimos*), у рэчаіснасці, хутчэй за ўсё, гэта была воспа. З меншай доляй імавернасці — вірулентны грып ці гемарагічная ліхаманка, па сімптомах падобная да Эболы.

Але фатальную ролю ў працэсе разбурэння і гібелі Рыма адыграла «Юстыніянава чума», якая абрынулася на імперыю ў сярэдзіне VI стагоддзя і канчаткова загубіла яе магутнасць. Супастаўляючы адно з адным назіранні сучаснікаў хваробы, гісторыкаў Пракопа Кесарыйскага і Эвагрыя Схаластыка, а таксама звесткі заходнееўрапейскіх храністаў VI–VIII стагоддзяў, сучасныя навукоўцы прыйшлі да высновы, што гаворка ў дадзеным выпадку ідзе пра першую пандэмію бубоннай чумы. Па ліку сваіх ахвяр і глабальных наступствах «Юстыніянава чума» можа быць супастаўлена хіба толькі са значна больш вядомай «Чорнай смерцю», якая ўдарыла па Еўропе і значнай частцы кантынента ў сярэдзіне XIV стагоддзя.

**«Юстыніянава чума»**
спусташала насельніцтва Еўропы больш за 200 гадоў, паміж 541 і прыкладна 767 гадамі. За гэты час ахвярамі эпідэміі тут стала не менш за 25 млн чалавек, а па ўсім свеце чума забіла да 100 млн чалавек.

**Бубонная чума**
пераважная форма чумы ў чалавека (ёсць яшчэ лёгачная). Чума (ад турэцкага *çuma* — нарыў) — вострае бактэрыяльнае захворванне, якое пераносяць грызуны і блохі. Калі бактэрыя *Yersinia pestis* размнажаецца ў арганізме чалавека, лімфатычныя вузлы, якія не спраўляюцца з вострай інтаксікацыяй, запаляюцца і набухаюць. Такія хваравіта ўздутыя лімфавузлы і называюць бубонамі. Самыя значныя пандэміі бубоннай чумы — «Юстыніянава чума» і «Чорная смерць». Трэцяя пандэмія чумы, якая пачалася ў сярэдзіне XIX стагоддзя, па маштабах папярэднім значна саступала, а лютавала ў асноўным у Азіі. Заражэнне хваробай амаль заўсёды заканчвалася смерцю, пакуль чалавецтва не вынайшла антыбіётыкі. Цяпер гэтая хвароба не смяротная — пры ўмове своечасовага звароту ў медыцынскую ўстанову. Бактэрыя бубоннай чумы працягвае жыць у дзікай прыродзе. Падхапіць яе можна ў В'етнаме, М'янме, Балівіі, Эквадоры, Туркменістане, Кыргызстане і іншых паўднёвых краінах.

### Марш «Юстыніянавай чумы»

Першыя выпадкі захворвання былі адзначаныя ў Егіпце ў канцы 541 года. Наступнай вясной інфекцыя разам з пацукамі на караблях трапіла ў Канстанцінопаль. Адсюль па марскіх гандлёвых шляхах чума хутка распаўсюдзілася на найбуйнейшыя партовыя гарады Грэцыі і Малой Азіі. Затым яна пранікла ў заходнюю частку Міжземнамор'я. Разам з пасланым з Канстанцінопаля войскам хвароба патрапіла ў Італію, пасля ахапіла Сіцылію, паўночную Афрыку і паўднёвую Іспанію. З Італіі, перайшоўшы Альпы, яна рушыла па тэрыторыі Францыі, пакуль не дасягнула Германіі. Пераадолеўшы Ла-Манш, чума выявілася ў Брытаніі і нават у Ірландыі.

Гэтак жа імгненна яна распаўсюдзілася са сталіцы імперыі ва ўсходнім кірунку, на працягу некалькіх гадоў спустошыўшы найбуйнейшыя гарады і сельскія раёны Сірыі і Месапатаміі. Апагея эпідэмія дасягнула каля 544 года, калі, па ўспамінах сучаснікаў, у Канстанцінопалі ад яе паміралі да 5 000 чалавек штодзень.

Тыя, каму ўдалося перажыць гэтае бедства, пасля апісвалі сімптомы хваробы і пакуты, якія адчувалі яе ахвяры. Найбольш вядомым такім апісаннем з'яўляецца тэкст Эвагрыя Схаластыка, якому самому давялося перахварэць на бубонную чуму ў дзяцінстве:

«Язва гэтая выяўлялася рознымі хваробамі: у некаторых яна пачыналася з галавы, — вочы наліваліся крывёй, твар пух, — потым пераходзіла да горла і, ахапіўшы яго, пазбаўляла чалавека жыцця; у іншых адкрываўся панос; у трэціх выяўлялася пухліна ў пахвіне, а за тым — незвычайная гарачка, — і яны на другі або на трэці дзень паміралі, зусім не ўсведамляючы сябе хворымі і адчуваючы моц у целе; іншыя ўпадалі ў вар'яцтва і ў гэтым стане выпускалі дух; часам ускоквалі на целе і забівалі людзей чорныя язвавыя скулы; некаторыя, перажыўшы язву аднойчы ці двойчы і акрыяўшы пасля яе, пасля зноў падвяргаліся ▸

▶ ёй і пamipaлі. Спосабы запазычання хваробы былі настолькі разнастайныя, што іх і не пералічыш: адны гінулі ад таго толькі, што камунікавалі і елі разам з хворымі; другія — ад аднаго дотыку да іх; іншыя — пабываўшы толькі ў доме, а тыя — на плошчы; некаторыя, уцёкшы з заражаных хваробай гарадоў, самі заставаліся без шкоды, затое прыносілі з сабой хваробу здаровым; а былі і такія, якія пры ўсім тым, што жылі з імі і дакраналіся не толькі да заражаных, але і да памерлых, заставаліся зусім свабоднымі ад хваробы; іншыя, калі страчвалі ўсіх сваіх дзяцей або сваякоў, хоць і хацелі памерці і знарок дачыняліся з хворымі, аднак не атрымлівалі заразу, яна дзейнічала насуперак іх жаданню».

### Лекары, далакопы і мерцвякі

Шырокаму распаўсюджанню хваробы спрыяла адсутнасць медыцыны ў сучасным сэнсе слова. Толькі ў буйных гарадах муніцыпальныя ўлады ўтрымлівалі аднаго ці двух лекараў, якія аказвалі дапамогу хворым. Кваліфікаваных лекараў увогуле было няшмат, і дазволіць сабе іх кансультацыі маглі толькі нямногія забяспечаныя людзі. Астатнім даводзілася звяртацца да шарлатанаў, якія практыкавалі метады «народной медыцыны». Беднякоў прымалі манахі ў манастырах і пры храмах, але яны маглі хіба толькі палегчыць пакуты.

Да таго ж лекары няправільна ўяўлялі сабе прыроду хваробы, адпаведна, няправільна яе лячылі. Найвышэйшым аўтарытэтам у гэтай галіне быў асабісты лекар некалькіх рымскіх імператараў Гален, які лічыў прычынай узнікнення хваробы дысбаланс унутраных вадкасцяў арганізма. Вылечванне, паводле ягонай думкі, можна было дабіцца шляхам выдалення з арганізма лішняй вадкасці праз высыпку і гнойныя пухіры, якія з’яўляліся на целе хворага. Адпаведна, лекары прапісвалі хворым кровапусканні і кампрэсы, якія ніяк не спрыялі ачуньванню.

З-за вялікай колькасці памерлых у буйных гарадах востра стаяла праблема пахавання. Як правіла, гэтым займаліся манахі і спецыяльныя каманды, набраныя з прысуджаных да смерці злачынцаў. Людзей хавалі ў агульных магілах, куды целы скідалі без аніякага парадку. Калі аказаліся запоўненымі ўсе магілкі, іх сталі сцягваць у апусцелыя дамы ў гарадскіх прадмесцях, кідаць у закінутыя калодзежы і цыстэрны. Гэта спрыяла ўтварэнню паўторных асяродкаў эпідэміі.

### З эдэму — у пустку

Падобна «Чорнай смерці», «Юстыніянава чума» час ад часу то адыходзіла, то зноў вярталася. На працягу наступных 200 гадоў адзначалася яшчэ прыкладна 20 новых усплёскаў з інтэрваламі каля 9–13 гадоў.

Шляхі яе распаўсюджвання галоўным чынам праходзілі па марскіх і сухапутных гандлёвых маршрутах, таму ў першую чаргу цярпелі густанаселеныя і развітыя гарады міжземнаморскага ўзбярэжжа. Насельніцтва Канстанцінопаля, Александрыі, Антыёхіі, Карфагена і іншых метраполій у выніку эпідэміі скарацілася мінімум удвая.

У сельскай мясцовасці першыя ўдары хваробы прывялі да запусцення некалі паспяховых рэгіёнаў. Пасля гэтыя закінутыя землі паслужылі своеасаблівым загараджальным бар’ерам для распаўсюджвання пазнейшых хваляў захворвання.

Лічыцца, што заходняя палова былой Рымскай імперыі, і без таго ўжо моцна саслабленая варварскімі ўварваннямі, войнамі і эканамічным бязладдзем, пацярпела ад чумы менш, чым усходняя, якая ўсё яшчэ захоўвала значную частку патэнцыялу позняй Антычнасці.

Паводле падлікаў, агульная колькасць ахвяр пандэміі паміж VI і VIII стагоддзямі склала да 100 млн чалавек па ўсім свеце. Гэта трошкі менш за трэць зямнога


PINTEREST.CH

***Memento mori*, мазаіка з Пампей,** 30 год да н.э. — 14 год н.э.

### Пацукі

лічацца галоўнымі пераносчыкамі чумных бактэрый. Дакладней, не самі пацукі, а блохі-паразіты, якія жывуць на іх. Пасля гібелі ад хваробы грызуноў яны могуць пераходзіць у тым ліку і на чалавека. Але нядаўна навукоўцы з Нарвегіі, правёўшы даследаванне распаўсюджання чумы ў Сярэднявеччы пры дапамозе матэматычных мадэляў, прыйшлі да высновы, што спісваць усё толькі на пацукоў і іх паразітаў, відаць, не вельмі правільна. Верагодна, грызуны сапраўды прынеслі хваробу з Азіі ў Еўропу, але ў яе далейшым пашырэнні, здаецца, не меншы ўдзел узялі і звычайныя «чалавечыя» блохі і вошы.

насельніцтва ў тыя часы. Мінімум чвэрць з гэтых стратаў прыпала на Еўропу, Блізкі Усход і паўночную Афрыку, дзе колькасць памерлых ацэньваецца прыблізна ў 25 млн чалавек.

### Новы клімат — новы штам

За апошняе дзесяцігоддзе аб'ём нашых ведаў пра «Юстыніянаву чуму» істотна ўзрос дзякуючы даследаванням у галіне мікрабіялогіі.

У 2014 годзе даследчыкам з таварыства навуковых даследаванняў імя Макса Планка ў Германіі ўдалося пацвердзіць, што ўзбуджальнікам хваробы сапраўды з'яўлялася бактэрыя *Yersinia pestis*. Чумны штам удалося выдзеліць з парэшткаў верагодных ахвяраў эпідэміі, пахаваных паміж 541 і 543 гадамі на раннесярэднявечных могілках у Ашхайме ў Баварыі. *Yersinia pestis* з'яўлялася таксама ўзбуджальнікам «Чорнай смерці», якая выкасіла насельніцтва кантынента ў XIV стагоддзі.

Абедзве бактэрыі мелі азіяцкае паходжанне, аднак адносіліся да розных штамаў. Мяркуючы па выніках аналізу, бактэрыя-ўзбуджальнік першай пандэміі вымерла ці стала настолькі рэдкай, што больш не ідэнтыфікуецца ў прыродных рэзервуарах захворвання. Наадварот, штам «Чорнай смерці» да гэтага часу існуе ў дзікай прыродзе, а на мяжы XIX–XX стагоддзяў ён нават стаў прычынай Азіяцкай пандэміі, ад



**Імператар Юстыніян (527–565 гады) — пачынальнік апошняй спробы рэстаўрацыі мінулай магутнасці Рымскай імперыі.** Яго няўдачу шмат у чым прадвызначыла пандэмія чумы, якая прыпала на гэты час і таму атрымала яго імя. Мазаіка базілікі Сан-Віталь у Равене, 546–547 гады.

якой толькі ў Кітаі і Індыі памерла больш за 12 млн чалавек.

Яшчэ адна міжнародная група даследчыкаў у 2019 годзе правяла аналіз парэшткаў ахвяр эпідэміі з 21 археалагічнага помніка на тэрыторыі Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Францыі і Іспаніі, каб даведацца пра рэгіянальныя варыяцыі ўзбуджальніка хваробы і пра шляхі яе распаўсюду па Еўропе. Вынікі іх даследавання пацвердзілі раней высунутую гіпотэзу аб хвалях эпідэміі, якія змянялі адна адну. Біёлагі выявілі, што паміж VI і VIII стагоддзямі ў Еўропе паралельна цыркулявала не менш за 8 блізкароднасных разнавіднасцяў хваробатворных штамаў *Yersinia pestis*. Некаторыя з іх, магчыма, дзейнічалі ў адзін час і ў адных і тых жа рэгіёнах.

**Глабальным наступствам** эпідэміі «Юстыніянавай чумы» стала гібель спадчыны рымскай цывілізацыі ў Заходняй Еўропе і істотнае паслабленне Візантыйскай імперыі на Усходзе. У выніку гэтых змяненняў свет пагрузіўся ў цемру Сярэднявечча.

**Падрабязней пра гісторыю чумы да адкрыцця ў 1894 годзе яе ўзбуджальніка** можна пачытаць: Супотницкий М. В., Супотницкая Н. С. Очерки истории чумы: В 2-х кн. Кн. I: Чума добактериологического периода. Москва, 2006.



Яшчэ адным важным адкрыццём стала выяўленне высокай ступені мутацый у генетычным кодзе бактэрыі. Магчыма, прычына ў яе адаптацыі да экалагічных умоў рэгіёна, у якім чума цыркулявала падчас абедзвюх пандэмій.

Важнасць гэтага даследавання ў тым, што яно прыцягвае ўвагу да пытанняў, якія традыцыйна застаюцца за межамі працы гісторыкаў. Абмяркоўваючы прычыну падзення сусветных імперый і змены формаў кіравання, мы, як правіла, акцэнтуем увагу на палітычных, ваенных або сацыяльна-эканамічных трансфармацыях. Сёння, калі глабальныя наступствы кліматычных зменаў становяцца ўсё больш відавочнымі, навукоўцы значна часцей пачынаюць звяртаць увагу на праблемы экалогіі і дэмаграфіі. У гэтых малапрыкметных, на першы погляд, але вельмі важных па сваіх наступствах падзеях мы адшукваем ключ да разумення большасці сацыяльных і эканамічных працэсаў.

Традыцыйная дата падзення Заходняй Рымскай імперыі і пачатку эпохі Сярэднявечча ў Еўропе пачынае здавацца ўмоўнасцю. Больш значныя і аддаленыя наступствы меў абумоўлены «Юстыніянавай пандэміяй» дэмаграфічны пераход, які стварыў у Еўропе тыя змрочныя ўмовы, якія запанавалі тут на наступныя стагоддзі. ◆




Папа Ян Павел II і прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган у 1987 годзе.

# «Мы, славяне, тысячу гадоў чакалі свайго папу, дык нашто ж я тут сяджу?!»

**У чым праяўлялася мудрасць Яна Паўла II і што ён зрабіў для беларусаў, піша Андрэй Вашкевіч.**

На карце пілігрымак папы рымскага Яна Паўла II Беларусь выглядае маленькай белай плямкай, прылепленай

**18 мая 2020 года** спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння першага папы-славяніна.

да велізарнай белай плямы — Расіі. Ніводзін рымскі пантыфік не быў на землях, якія цяпер складаюць Рэспубліку Беларусь. Не быў і Ян Павел II. Але ён бываў на абшарах, дзе жывуць беларусы. У чэрвені 1999 года падчас сваёй перадапошняй паездкі ў Польшчу Ян Павел II праплыў Аўгустоўскім каналам амаль што да беларускай мяжы і, памаліўшыся ў старадаўняй капліцы Маці Божай на возеры Студзянічным, сказаў: «Я бываў тут шмат разоў, але як папа я тут першы і хіба што апошні раз».

Аўгустоўскі канал, Мікашоўка, Гарчыца, Аўгустоў — гэта ўсяго тры дзясяткі кіламетраў ад размешчаных над Нёманам родных вёсак маіх продкаў. Некалі гэта быў адзін велізарны абшар — пагранічча Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай, дзе стагоддзямі разам жылі беларусы і палякі, літоўцы і татары, яўрэі

і рускія-стараверы. Хрысціяне тут у даўнія часы маліліся ў агульных святынях, напрыклад, у той самай капліцы на Студзянічным. Ян Павел II не мог перайсці мяжу, даплыць па канале да самага Нёмана, прайсці ў Сапоцкіне па былой вуліцы Леніна, якую ў пачатку дзевяностых перайменавалі ў яго гонар — першага папы-славяніна. Але пра Беларусь гэты папа памятаў.

### Кампрамісная фігура

Караль Вайтыла не павінен быў стаць рымскім папам. Яшчэ ў жніўні 1978 года ён браў удзел у канклаве, які выбраў намеснікам апостальскай сталіцы 65-гадовага італьянца Альбіна Лучані. Той узяў для сябе імя Яна Паўла I, але пакіраваць Каталіцкай царквой толкам не паспеў, бо ўжо праз месяц, у канцы верасня, раптоўна памёр ад інфаркту.

Папу пачалі выбіраць зноў, і самае зацятае суперніцтва разгарэлася паміж італьянцамі — біскупамі Генуі і Фларэнцыі. А калі стала відавочным, што ніводзін не мае перавагі, выбар спыніўся на кампрамісанай фігуры кардынала з польскага Кракава Караля Вайтылы. Італія была ў шоку, бо амаль паўтысячагоддзя Ватыканам кіравалі толькі італьянцы і ніколі — славяне. Але час паказаў, што ў той дзень белы дым з коміна Сіксцінскай капэлы засведчыў выбранне аднаго з самых вялікіх пантыфікаў за ўсю гісторыю Каталіцкай царквы.

Зрэшты, сэрцы насцярожаных італьянцаў растапіліся таксама імгненна. 16 кастрычніка 1978 года новы папа, які ў гонар нешчаслівага папярэдніка ўзяў імя Ян Павел II, выйшаў на балкон на плошчы Святога Пятра і са сваёй легендарнай усмешкай звярнуўся да тысяч вернікаў: «Не ведаю, ці змагу правільна гаварыць да вас на вашай... нашай італьянскай мове. Калі я памылюся, то папраўце мяне». Плошча сустрэла гэтыя словы апладысментамі.

### «У галаве толькі тэатр»

Караль Вайтыла нарадзіўся 18 мая 1920 года ў мястэчку Вадавіцы недалёка ад Кракава. Яго бацькі Эмілія і Караль былі шчырымі каталікамі. Бацька, кравец па прафесіі, трапіў спачатку ў аўстрыйскае, а пасля ў польскае войска, аддаўшы ў выніку вайсковай службе больш за чвэрць стагоддзя.

Старэйшы брат Караля Вайтылы Эдмунд скончыў медыцынскі факультэт Ягелонскага ўніверсітэта, некалькі гадоў адпрацаваў доктарам і памёр ад шкарлятыны, ратуючы заражаных гэтай смяротна небяспечнай у тыя гады хваробай дзяцей. Караль пасля ўсё жыццё захоўваў у сябе стэтаскоп брата як памяць пра лекара, які аддаў сваё жыццё, ратуючы іншага чалавека.

Пасля смерці жонкі ў 1929-м і старэйшага сына ў 1932 годзе бацька сыходзіць з вайсковай службы і цалкам аддаецца выхаванню Караля. Хлопца цікавіць гімназічны тэатр, і разам з дачкой дырэктара гімназіі Галінай Крулікевіч яны, як найбольш заангажаваныя ў працу тэатра, атрымліваюць галоўныя ролі. Біёграфы пасля неаднойчы напішуць, што Караля і Галіну лучылі рамантычныя пачуцці, але і ён, і яна назаўсёды захаваюць гэты эпізод іх жыцця ў таямніцы.

**Караль усё жыццё захоўваў у сябе стэтаскоп брата як памяць пра доктара, які аддаў сваё жыццё, ратуючы іншага чалавека**

У 1938-м гімназію ў Вадавіцах наведаў кракаўскі арцыбіскуп Адам Стэфан Сапега. Караль, як найлепшы выпускнік, прывітаў святара ўрачыстай прамовай. Сапега ў адказ спытаў харызматычнага хлопца, ці хоча той стаць на святарскі шлях. На гэта мясцовы ксёндз, ▸



WIKIMEDIA COMMONS

Караль Вайтыла (другі справа) **на будаўнічых работах падчас акупацыі. 1941 год.**

▶ выкладчык рэлігіі ў гімназіі, сказаў: «А не, у Караля ў галаве толькі тэатр».

### Прафесію выбрала вайна

Пачатак Другой сусветнай вайны застаў студэнта філалогіі Ягелонскага ўніверсітэта Караля Вайтылу на Вавелі ў Кракаве. У першую пятніцу месяца ён прыйшоў на споведзь у пусты касцёл, і акурат тады над горадам з'явіліся нямецкія бамбавозы.

Пацягнуліся змрочныя гады акупацыі. Вайтыла грае ў падпольным тэатры і спрабуе займацца літаратурнай творчасцю. Каб пазбегнуць прымусовага вывазу на працу ў Германію, ён працуе ў каменаломнях. Гэта была цяжкая, а часам і небяспечная праца, якая, аднак, умацоўвала не толькі фізічна, але і духоўна. У 1941-м памірае апошні блізкі чалавек Караля — бацька. Ва ўмовах акупацыі, татальнага вынішчэння польскасці і ўсяго каталіцкага Вайтыла ў другой палове 1942 года вырашае стаць ксяндзом.

**Караля і Галіну нібыта лучылі рамантычныя пачуцці, але і ён, і яна назаўсёды захаваюць гэты эпізод іх жыцця ў таямніцы**

Рыхтаваць святароў пры немцах было забаронена. Падпольная семінарыя працавала ў рэзідэнцыі Адама Стэфана Сапегі, там з 1944 года пастаянна жыў і Караль




**Вясельны партрэт бацькоў** Яна Паўла II — Караля і Эміліі Вайтылаў.

Вайтыла, высвечаны ў канцы 1946 года на святара.

Пасляваенная Польшча апынулася ў так званым «сацыялістычным лагеры» — была фармальна незалежная, але змушаная ісці ў фарватары СССР. Вядома, становішча Каталіцкай царквы ў Польшчы было не такім трагічным, як у Савецкім Саюзе. Але рэпрэсіі супраць яе ішлі і тут, а ў апошнія гады жыцця Іосіфа Сталіна адбылося нават некалькі працэсаў супраць каталіцкіх біскупаў. Іх абвінавачвалі ў супрацоўніцтве з ЗША і Ватыканам, у працы на карысць нямецкіх акупантаў у гады вайны і іншых грахах.

Нягледзячы на гэта, за наступныя паўтара дзесяцігоддзя Караль Вайтыла робіць хуткую царкоўную кар'еру, прайшоўшы шлях ад вікарыя вясковай парафіі да кракаўскага арцыбіскупа, доктара тэалогіі, аўтарытэтнага багаслова, удзельніка Другога Ватыканскага сабору 1962–1965 гадоў.

### Арцыбіскуп асуджае

Будучы кракаўскім арцыбіскупам, Караль Вайтыла перажыў няпростыя, але пры гэтым выключна важныя для гісторыі Польшчы падзеі.

Варта найперш згадаць зварот у 1965 годзе польскіх біскупаў да дзеячаў Каталіцкай царквы Германіі з лістом «Выбачаем і просім пра выбачэнне». Гэты гістарычны дакумент быў вытрыманы ў хрысціянскім духу даравання. Але камуністычныя ўлады пабачылі ў ім нагоду, каб абрынуць на Касцёл агонь прапаганды. Палякі, якія панеслі страшныя страты ў гады вайны, маючы яшчэ зусім няпэўную мяжу на захадзе, абураліся: за што мы мусім прасіць прабачэння ў немцаў? Улады скарысталіся гэтым у наступным, 1966

### Другі Ватыканскі сабор

прайшоў па ініцыятыве папы Яна XXIII у 1962–1965 гадах. Папа лічыў, што трэба перастаць ганіць навакольны свет, а змяніцца пад яго патрэбы. Для гэтага Царкве трэба рэфармавацца, і сабор меў вызначыць, наколькі моцна. Ідэалагічна на чатырох тэматычных сесіях змагаліся прадстаўнікі дзвюх фракцый: кансерватары, якія выступалі за захаванне ўсіх царкоўных догмаў і канстытуцый у нязменным выглядзе, і прагрэсісты, якія патрабавалі зменаў. У выніку большасць прынятых дакументаў мелі характар кансэнсусу, але пра нешта дагаварыцца зусім не ўдалося, і пытанні прыйшлося зняць. Напрыклад, тэму пасярэдніцтва Дзевы Марыі ў адкупленні грахоў чалавецтва.
Пасля гэтага сабору ў касцёлах розных краін канчаткова загаварылі на мясцовых мовах, а каталіцкія святары ў прамым сэнсе павярнуліся тварам да вернікаў падчас службы.

годзе, падмяніўшы юбілей 1000-годдзя хрышчэння Польшчы святкаваннем «1000-годдзя польскай дзяржаўнасці».

Далей быў трагічны 1970 год з выступленнямі рабочых у Шчэціне, Гдыні і Гданьску і іх расстрэлам уладамі. Над краінай вісеў прывід грамадзянскага канфлікту з перспектывай інтэрвенцыі войскаў краін Варшаўскай дамовы. Кракаўскі арцыбіскуп асудзіў улады за гвалт, кажучы аб «праве людзей на хлеб і на свабоду». Царква адкрыта не ўвязалася ў гэты канфлікт, але сваёй яснай пазіцыяй, заклікам да еднасці і дапамогі пацярпелым істотна ўмацавала свой аўтарытэт.

Пасля падзей на Памор'і новыя камуністычныя ўлады Польшчы пачынаюць палітыку нармалізацыі і крыху змяняюць сваё стаўленне да каталікоў, даючы дазволы на будаўніцтва дзясяткаў капліц і касцёлаў. Караль Вайтыла праводзіць час то ў Кракаве, то ў Любліне, дзе выкладае ў Каталіцкім універсітэце, то ў Ватыкане. У Італіі намінаванага кардыналам Караля Вайтылу вітае рымскі папа Павел VI. Яму імпануюць адукаванасць Вайтылы, яго погляды на розныя праблемы адносін Царквы і грамадства — напрыклад, ён смела разважае пра сэксуальнае жыццё жанчыны, а таксама асуджае распаўсюджанне кантрацэптываў. Усё гэта робіць Вайтылу заўважным кандыдатам на пасаду папы ўжо падчас жнівеньскага канклава 1978 года. Але, як казалі сведкі, калі абвясцілі пантыфікам Альбіна Лучані, Вайтыла ўздыхнуў з палёгкай.

Перадышка, аднак, была нядоўгай. Ужо на кастрычніцкім канклаве кардыналы пераканаліся, што Вайтыла — найлепшы кандыдат на новага папу. Да ўсіх пералічаных вышэй якасцяў яны маглі дадаць і яго абсалютную незаангажаванасць ва ўнутраныя канфлікты італьянскіх іерархаў, а таксама паходжанне з Польшчы — самай каталіцкай краіны сацыялістычнага лагера. Ды і агульны дух нядаўняга Другога Ватыканскага сабору патрабаваў ад Каталіцкай царквы рашучых пераменаў.

**На Раство 1978 года**
Ян Павел II упершыню прамовіў словы па-беларуску: «Дарагія беларусы! Вясёлых калядных святаў!» Іх папе рымскаму пераклаў Роберт Тамушанскі — тагачасны рэдактар беларускай секцыі Ватыканскага радыё. Сам Тамушанскі нарадзіўся ў ЗША, але ягоныя дзяды былі ўніятамі з-пад Сапоцкіна, і рэдактар добра ведаў мову сваіх продкаў.

### Галаўны боль камуністаў

16 кастрычніка 1978 года па ўсёй Польшчы зазванілі званы.


SHUTTERSTOCK.COM, BY DZIEWUL

Помнік Яну Паўлу II **у родным горадзе Караля Вайтылы, Вадавіцах.**

Упершыню ў гісторыі намеснікам прастола святога Пятра стаў паляк, 58-гадовы кракаўскі арцыбіскуп Караль Вайтыла.

Польскае грамадства радавалася, а ўлады аказаліся ў няпростым становішчы. У выніку яны суцешыліся хуценька прыдуманай адгаворкай: добра, што Вайтылу выбралі пантыфікам, а не прымасам* Польшчы. А ў Маскве гаварылі, што папу-паляка дапамог выбраць дарадца амерыканскага прэзідэнта Джымі Картэра Збігнеў Бжэзінскі. Адным словам, сусветная змова палякаў супраць камунізму!

Летам 1979 года Ян Павел II прыехаў у Польшчу. Гэтая яго пілігрымка паказала, што ён не страціў сваіх акцёрскіх здольнасцяў. Вельмі мала хто з лідараў ягонай эпохі ўмеў так удала выкарыстаць слова, жэст, заклік ці нават жарт, каб парушыць сэрцы і думкі людзей, якія яго слухалі. Адзін чалавек пачаў мяняць гісторыю шэрагам драматычных выступаў. Тое было па-свойму нармальным, паколькі ўся халодная вайна была своеасаблівым тэатрам.

І палякі рванулі да свабоды, чаму спрыяла агульная атмасфера ў краіне і ў рэгіёне. З аднаго боку, фармальна сацыялістычны лагер тады быў на піку ўласнай магутнасці, абагнаўшы сваіх праціўнікаў па колькасці атамнай зброі. Да таго ж СССР забяспечыў сабе ў Еўропе даволі стабільны *status quo* шляхам заключэння міжнародных пагадненняў. З другога боку, народ пачаў моцна бяднець, гэта добра адчувалася ў прамысловых рэгіёнах Польшчы. Польскія рабочыя на гданьскіх верфях у цяжкіх умовах выпускалі магутныя караблі, а пасля стаялі ў бясконцых чэргах па прадукты. ▶

* **Прымас** — найвышэйшы прадстаўнік царкоўнай іерархіі ў краіне.

Людзі жартавалі: «Множны лік слова “чалавек” — чарга» або «Чарга — наш асаблівы шлях да сацыялізму».

У забастоўцы польскіх рабочых летам 1980-га злілося ўсё: беднасць, памяць пра забітых у 1970-м, жаданне перамен, гарачая вера, а над усім гэтым луналі словы Яна Паўла II «Не бойцеся, адчыніце дзверы Хрысту». Урэшце знакамітыя жніверьскія пагадненні 1980 года паміж «Салідарнасцю» і ўладамі правадыр забастоўшчыкаў Лех Валенса падпіша велізарнай сувенірнай ручкай з фотаздымкам... Яна Паўла II.

## Папа для Беларусі

Каталіцкая царква ў нас была ў гады савецкай улады грунтоўна падарваная, святары заставаліся галоўным чынам толькі ў Заходняй Беларусі. Яны ў пераважнай большасці прайшлі праз сталінскія лагеры і былі палякамі па нацыянальнасці. Ксяндзоў-беларусаў у БССР амаль не засталося. Іх або вынішчыла нямецкае гестапа ў гады вайны, або яны сталі ахвярамі савецкай карнай сістэмы, або былі высланыя з беларускіх земляў польскімі ўладамі яшчэ ў даваенныя гады, або самі выехалі на Захад адразу пасля вайны, ратуючыся ад савецкага таталітарызму. Адзіным святаром, які працаваў у пасляваеннай БССР па-беларуску, быў ксёндз з Вішнева на Валожыншчыне Уладзіслаў Чарняўскі.

Ян Павел II, як выхадзец з Малапольшчы (рэгіён на поўдні Польшчы з цэнтрам у Кракаве), раней не сутыкаўся з беларускімі праблемамі. У 1979 і 1980 гадах з папам тройчы сустрэўся тагачасны лідар беларускіх каталіцкіх святароў біскуп Чэслаў Сіповіч, які прасіў прызначыць біскупам у БССР Уладзіслава Чарняўскага. Паводле дзённіка Сіповіча, Ян Павел II «некалькі разоў маліўся за Беларусь», але Чарняўскага так і не прызначыў: рэлігійныя справы не церпяць паспеху. Зрэшты, ён і не мог гэтага зрабіць проста так, не дасягнуўшы паразумення з савецкімі ўладамі.

А ў 1989 годзе, узводзячы ў сан біскупа Тадэвуша Кандрусевіча, пантыфік нечакана звярнуўся да яго і ўсіх прысутных па-беларуску:




**Першая пілігрымка маладога папы** ў Польшчу. 1979 год.





**Успаміны арцыбіскупа-мітрапаліта Мінскага і Магілёўскага Тадэвуша Кандрусевіча** пра Яна Паўла II.

«Вялікаю з’яўляецца мая радасць магчы надзяліць поўню святарства дарагому монсіньёру Тадэвушу Кандрусевічу, якога я назначыў апостальскім адміністратарам Менскай дыяцэзіі для католікаў усёй Беларусі. Жадаю яму з бацькоўскай любоўю поспехаў у вядзенні душпастырскай працы на гэтай пpасторнай тэрыторыі ды ў той самы час упрошваю Божага блаславення яму і ўсім вернікам, даверaным яго душпастырскай апецы».

Рашэнне прамовіць па-беларуску ў такі гістарычны момант было прынцыповым жаданнем Святога Айца, на якім ён настойваў, нягледзячы на сумневы некаторых асобаў са свайго акружэння. Такім чынам ён паказаў, што Каталіцкая царква ў Беларусі будзе шанаваць і ўсямерна падтрымліваць беларускую мову.

## «Santo subito!»

У пераломныя 1980-я вір вялікай палітыкі не мог не ўцягнуць у сябе і Яна Паўла II. Яго спрабаваў зрабіць сваім саюзнікам амерыканскі прэзідэнт Рональд Рэйган. Кіраўнік ЦРУ Уільям Кейсі за шэсць гадоў наведаў Ватыкан аж пятнаццаць разоў, а змест ягоных размоў з папам дасюль застаецца таямніцай. Сам Кейсі згадваў, што ён больш расказваў Яну Паўлу II пра нейкія рэальныя пагрозы, напрыклад канцэнтрацыю савецкіх войскаў, а папа ў адказ прасіў прыслаць яму здымкі ГУЛАГа з космасу. Ян Павел II заўсёды рабіў

акцэнт на нематэрыяльнае, і гэта выдатна ўзмацняла яго пазіцыю адносна тых, хто ў супрацьстаянні халоднай вайны разлічваў найперш на свае танкі і ракеты. Тагачасны фактычны дыктатар Польшчы генерал Войцех Ярузэльскі згадваў, што падчас сустрэчы з папам у яго падкошваліся ногі.

Апошнія дзесяць гадоў пантыфікату Ян Павел II відавочна слабеў. Яшчэ ў другой палове 90-х, пасля пералому шыйкі сцягна і з'яўлення сімптомаў хваробы Паркінсона, папа хацеў ▸




**Помнік Яну Паўлу II у Валожыне.**

# Аўдыенцыя, якая стала сюрпрызам

Беларускія каталіцкія святары, якія на той час мелі магчымасць дзейнічаць збольшага толькі на эміграцыі, пасля абрання Караля Вайтылы папам былі напачатку разгубленыя і ўстрывожаныя. Вядома, што праз Каталіцкую царкву палякі здаўна праводзілі паланізацыю беларусаў, а скаргі ў Ватыкан былі ці не адзінай магчымасцю гэтаму хоць неяк супрацьстаяць. А тут выходзіла, што і на самым версе цяпер будзе паляк, таму кола замыкаецца. Але адбылося нечаканае — насуперак песімістычным чаканням новы пантыфік зусім не быў настроены да беларускасці ў Касцёле варожа. Ужо ў сваім першым калядным прывітанні да народаў свету ён звярнуўся і да беларусаў на іх роднай мове, тым самым абудзіўшы ў іх кволыя надзеі. А ўжо праз некалькі тыдняў, калі 19 студзеня 1979 года Ян Павел II прыняў беларускіх святароў у сваёй рэзідэнцыі, яны ўзмацніліся. Вось як пра гэта пісаў будучы апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы айцец Аляксандр Надсан у сваёй кнізе «Біскуп Чэслаў Сіповіч: святар і беларус»:

«Сярод беларускіх святароў, якія сабраліся 14 студзеня 1979 года ў Рыме, панавалі даволі змрочныя настроі. Апрача біскупа Сіповіча, іх было ўсяго чатыры: Уладзімір Тарасевіч з Чыкага, Аляксандр Надсан з Лондана, Роберт Тамушанскі і Кастусь Маскалік з Рыма... Не забыліся пра патрэбу біскупа ў Беларусі. Вырашылі прасіць новага папу ўзнавіць старанні свайго папярэдніка ў гэтай справе. Гэтак і зрабілі на прыватнай аўдыенцыі 19 студзеня. Перш папа прыняў Уладыку Чэслава аднаго, які пасля апісаў іхную гутарку: "Я сказаў, што, напэўна, ужо Святы Айцец ведае, у якой справе прыходзім: просім назначыць для Беларусі біскупа ў асобе а. Уладзіслава Чарняўскага, бо *periculum in mora* (небяспечна чакаць), і Каталіцкая царква там загіне. Айцец Святы згадзіўся, што ёсць небяспека смерці для Царквы на Беларусі... Пытае: калі гутарка аб Беларусі, як мы гэта разумеем? Кажу: БССР, якая паўстала пасля апошняй вайны з былой БССР і далучанай Заходняй Беларусі, якая была пад Польшчай... Папа кажа: "Польскія біскупы і кардынал Вышынскі сядзяць сітуацыю Царквы на Беларусі і высылаюць туды час ад часу святароў і думаюць, што гэтакімі візітамі ратуюць сітуацыю, але я думаю, што біскуп патрэбны. Цяпер сітуацыя там... змяняецца быццам на лепшае". Вельмі далікатна папа закрануў факт, што ў Беларусі моляцца па-польску, а савецкі ўрад каталікоў уважае за чужы элемент, за палякаў... Я тут стараюся выясніць: моладзь не знае польскай мовы ў Беларусі, ёсць інтэлігенцыя, якая не ўся бязбожная і не ўся варожая да рэлігіі. Гэтым трэба дапамагчы. Папа пытае пра а. Ул. Чарняўскага, кажа: "Гэтае прозвішча мне вядомае. Хто ён такі, марыянін?" Кажу — так! — "Што ж, можа, удасца штосьці зрабіць! Я тую палітыку [савецкую, камуністаў] знаю, але не знаю яшчэ ватыканскай", — тут папа ўсміхнуўся. Дзякую папу за яго беларускае прывітанне і пажаданне ў ягонай каляднай прамове. Ён на гэта вельмі моцна і энергічна: "Заўсёды і ў будучыні гэтак буду гаварыць! Мы, славяне, тысячу гадоў чакалі свайго папу, дык нашто ж я тут сяджу?!" Тады я запытаў папу, ці можна мне яго, калі прыйдуць мае святары, прывітаць у беларускай мове? Ён адказаў: "Tak! Proszę!"... Мы выходзілі з задаволеннем хіба не меншым, як наш беларус, калі ачысціць асець са снапоў, іх змалоціць, а пасля аддыхае...».

сысці з пасады кіраўніка Царквы. Але спецыяльная камісія на чале з нямецкім кардыналам Ёзафам Ратцынгерам прыйшла да высновы, што Касцёлу лепш мець «састарэлага папу», чым папу ў адстаўцы. Цікава, што сам Ёзаф Ратцынгер, абраны наступным папам пад іменем Бенядзікт XVI, сышоў у адстаўку праз восем гадоў пантыфікату, стаўшы першым Святым Айцом «у адпачынку».

А сэрца Яна Паўла II перастала біцца 2 красавіка 2005-га. Падчас развітання з ім на плошчы Святога Пятра ў Рыме людзі трымалі ў руках таблічкі з надпісам: «*Santo subito!*» — «Абвясціць святым зараз жа!». Іх жаданне збылося ўсяго праз 6 гадоў: беатыфікацыя Яна Паўла II адбылася 1 мая 2011 года.




Папа Ян Павел II працягваў выконваць свае абавязкі, нават калі аслабеў ад хваробы Паркінсона. Многія яшчэ пры жыцці называлі яго Янам Паўлам Вялікім. **На фота: графіці ў харвацкай Рыецы са словамі, вымаўленымі падчас пілігрымкі ў родную Польшчу, тады яшчэ падуладную Маскве: «Не бойцеся!».**

## Папа-славянін стаў адным з самых вялікіх пантыфікаў за ўсю гісторыю Каталіцкай царквы

Ян Павел II застанецца ў гісторыі Каталіцкай царквы і ўсяго свету многімі справамі. Для кагосьці сваімі шматлікімі пілігрымкамі (аб'ехаў 129 краін, ніякі іншы папа столькі не вандраваў) і велізарнай колькасцю абвешчаных святых (амаль 500 чалавек), для кагосьці прынцыповым непрыняццем кантрацэпцыі і аднаполых шлюбаў, для кагосьці прызнаннем гістарычных памылак Царквы і пошукам супольнай мовы і з праваслаўнымі, і з іўдзеямі, і з мусульманамі...

Сёння, аднак, хочацца адзначыць іншае: папа рымскі не толькі паклікаў палякаў і іншыя народы да свабоды, але таксама рашуча спыніў эпідэмію помсты тым, хто самавольна або пад прымусам не даваў краіне стаць на шлях пераменаў. У тым, што палякі ў 1989 годзе дамовіліся пра дэмакратычную перадачу ўлады, ёсць ягоны немалы ўнёсак.

Пару гадоў таму мне давялося трапіць у еўрапейскі цэнтр «Салідарнасці». Гэта такая велізарная бібліятэка-музей, якая размяшчаецца на тэрыторыі былой верфі імя Леніна ў Гданьску. Пасля некалькіх гадзін блукання паміж інсталяцый з шэрагаў міліцэйскіх шчытоў ды здымкаў забітых у Гдыні дэманстрантаў я выйшаў у высокую ціхую залу. Адну яе сцяну займала акно, за якім праз снег прабіваліся абрысы помніка забітым рабочым верфі, а з другога боку на зусім белай сцяне чытаўся надпіс: «Паглядзець у вочы іншага чалавека і ўбачыць у іх неспакой і надзею — гэта і значыць адкрыць сэнс салідарнасці. Ян Павел II».

Проста і ясна. ◆

# Ён запісаў беларускія гаворкі Севершчыны

**Пра мовазнаўцу Паўла Растаргуева піша Сяргей Астанковіч.**

Павел Растаргуеў быў амаль аднагодкам Янкі Купалы і Якуба Коласа. Але прыйшоў ён на свет не ў Цэнтральнай Беларусі, як класікі беларускай літаратуры, а на моўна-культурным памежжы — у горадзе Старадуб Чарнігаўскай губерні (цяпер — Бранская вобласць Расіі). Гэта адбылося 18 чэрвеня (па старым стылі) 1881 года ў дваранскай сям'і Андрэя Якаўлевіча Растаргуева — тытулярнага саветніка, чыноўніка Старадубскага гарадскога грамадскага банка. Акрамя Паўла, у сям'і было яшчэ сямёра дзяцей.

Хлопчык аказаўся дапытлівым і з дзяцінства цягнуўся да ведаў. Ягонай марай быў Маскоўскі ўніверсітэт, і ён яе рэалізаваў, у 1903 годзе бліскуча здаўшы экзамены на гісторыка-філалагічны факультэт.

З паступленнем у Маскву звязаныя і першыя спробы вывучэння гаворкі сваёй радзімы. У вольны час няўрымслівы студэнт сядаў на ровар і аб'язджаў павет за паветам, пазнаючы паўночныя раёны Чарнігаўшчыны. Выключныя гуманітарныя здольнасці юнака былі заўважаныя вучонымі, таму Растаргуеў, скончыўшы ўніверсітэт з залатым медалём, рыхтаваўся да выкладчыцкай




**Павел Растаргуеў.** Масква, 6 красавіка 1917 года.

працы. У сакавіку 1917-га ён быў абраны прыват-дацэнтам таго ж гісторыка-філалагічнага факультэта, на якім вучыўся. А навуковымі кіраўнікамі маладога навукоўца былі такія выдатныя філолагі таго часу, як Раман Брант і Аляксей Шахматаў.

Але амбіцыйныя планы давялося змяніць праз рэвалюцыйныя падзеі. Жыхарам Масквы, як і астатнім грамадзянам Савецкай Расіі, давялося адчуць на сабе ўсе «радасці» ваеннага камунізму. А да матэрыяльных цяжкасцяў дадалася яшчэ і страта ў 1918 годзе часткі бібліятэкі. У сваім лісце да Яўхіма Карскага ад 20 лістапада 1920 года Растаргуеў скардзіўся: «У апошні час мне амаль не даводзіцца навукова працаваць: жыву я ў вельмі цяжкіх матэрыяльных умовах — акадэмічнага пайка не атрымліваю і існую дзякуючы толькі прыватным урокам; увесь час і сілы сыходзяць на заробак і на фізічную, часта непасільную працу».

Але ў той жа час Растаргуеў прыняў запрашэнне культурна-асветнага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята працаваць у Беларускім народным універсітэце ў Маскве. Там ён на працягу месяца прачытаў курс лекцый, знаёмячы слухачоў з рознымі аспектамі беларускай мовы. На падставе гэтага курса выйшла яго першае заўважнае даследаванне. І з гэтага часу імя Растаргуева становіцца вядомым шырокаму колу навукоўцаў.

## Паміж Масквой і Беларуссю

Пік творчай актыўнасці вучонага прыйшоўся на 20-я гады мінулага стагоддзя. З 1921 года ён працаваў у розных ВНУ Масквы, а ў 1923-м яму было нададзена званне прафесара. Растаргуеў чытаў лекцыі па гісторыі і сучаснасці рускай, украінскай і беларускай моў, вёў курс сучаснай рускай мовы ў Індустрыяльным інстытуце імя Карла Лібкнехта, загадваў кафедрай рускай мовы ў завочнай Прамысловай акадэміі. Акрамя

таго, ён з'яўляўся правадзейным членам Расійскай асацыяцыі навукова-даследчых інстытутаў грамадскіх навук, а з 1928 года — членам камісіі па падрыхтоўцы кадраў у навукова-даследчым Інстытуце мовазнаўства і членам Дзяржаўнай навуковай рады Наркамата асветы.

Пры гэткай загрузцы мовазнавец знаходзіў час і на актыўную дзейнасць у Беларусі. З канца 1924 года, з'яўляючыся правадзейным членам гуманітарнай секцыі Інбелкульта, Растаргуеў апублікаваў каля 20-ці даследаванняў, прысвечаных розным аспектам нашай мовы. Ён увaходзіў у склад фальклорна-дыялекталагічнай камісіі, а пасля яе падзелу — камісіі жывой беларускай мовы, што праводзіла работу па выпрацоўцы нормаў правапісу, графікі і арфаграфіі. Акрамя таго, ён часта выступаў з дакладамі, выязджаў у экспедыцыі. Што атрымала высокую ацэнку з боку калег: у 1928 годзе Рускае геаграфічнае таварыства ў Ленінградзе прысудзіла Растаргуеву за сукупнасць работ па беларусістыцы малы залаты медаль.

Але і адносна свабодныя 1920-я гады выдаліся для прафесара не бясхмарнымі. Растаргуеў у сваіх выказваннях і рэцэнзіях дазваляў сабе рэзка крытыкаваць якасць працы беларускіх мовазнаўцаў. У выніку канфліктаў з імі да пачатку 1928 года Растаргуеў быў выключаны з Інбелкульта, яму было катэгарычна забаронена выстаўляць сваю кандыдатуру на членства ў ім.

### У кіпцюрах ОГПУ

Напрыканцы 1920-х сітуацыя ў краіне пачала рэзка мяняцца. Савецкае кіраўніцтва згарнула НЭП, прыняўшы рашэнне распачаць індустрыялізацыю і калектывізацыю. Адпаведна, рэжым рабіўся ўсё больш жорсткім і рэпрэсіўным.

Дасталося і інтэлігенцыі, асабліва старой, дарэвалюцыйнай. На апошнюю савецкая ўлада даўно глядзела з падазронасцю, тым больш што многія яе прадстаўнікі не вызначаліся празмернай любоўю да камуністаў. Таму спатрэбілася некалькі ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Бацькі Паўла Растаргуева.**

### За сербскія літары, «j» і мяккі знак, супраць лацінскага алфавіта

14–21 лістапада 1926 года Інстытут беларускай культуры склікаў Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Гэта была першая беларусазнаўчая канферэнцыя міжнароднага маштабу. Падзея павінна была засведчыць поспехі савецкага рэжыму ў культурным будаўніцтве ў БССР. Павел Растаргуеў разам з яшчэ некалькімі навукоўцамі прадстаўляў на канферэнцыі навуковыя ўстановы Савецкай Расіі і ўваходзіў у склад камісіі па рэформе азбукі і правапісу.

Прафесар выступіў на гэтым форуме з дакладам «Аб рэформе беларускага правапісу», у якім асноўную ўвагу звярнуў на перадачу гукаў складанага ўтварэння [дж] і [дз] у беларускай мове. Вучоны лічыў выкарыстанне дзвюх літар для перадачы гэтых гукаў непатрэбным. А замяніць іх прапаноўваў знакамі з сербскага алфавіта — *ђ (ђед), ћ (хаћу)*, так званымі «вукавіцамі», прыдуманымі лінгвістам XIX стагоддзя Вукам Караджычам. Акрамя таго, літару *й* прапаноўвалася замяніць літарай *j*.

Мовазнавец таксама рашуча выказаўся супраць прапановы не пісаць мяккі знак пасля *з*, *с*, *ц*, *дз* у тым выпадку, калі яны стаяць перад наступным мяккім зычным і ў падвойных злучэннях літар *з*, *дз*, *с*, *ц*, *л*, *н*. Растаргуеў папярэджваў: «Напісанне *звер*, *дзвёх*, *мядзведзь*, *свет*, *цвет*, *суддзя*, *жыццё*, *ралля*, *чытанне* без *ь* будзе мець вынікам засваенне няправільнага вымаўлення падобных слоў». Увядзенне ж лацінскага алфавіта для беларускай мовы — гэта пытанне тады таксама цалкам сур'ёзна абмяркоўвалася — ён лічыў немэтазгодным.

гучных спраў, каб выкараніць у такіх людзей нават думку аб нелаяльнасці.

Хто ведае, магчыма, выключэнне Растаргуева з Інбелкульта па іроніі лёсу і аказала яму добрую службу, бо дазволіла пазбегнуць



Складзеная Паўлам Растаргуевым карта северска-беларускай гаворкі.

## Мова нашчадкаў летапісных севяран

У 1927 годзе ў Ленінградзе выйшла даследаванне Паўла Растаргуева пад назвай «Северско-белорусский говор». Гэта была ягоная дысертацыя, працу над якой ён пачаў яшчэ ў 1917 годзе, а скончыў у 1924-м. У сваёй працы навуковец прыйшоў да высновы, што ягоная родная гаворка з'яўляецца беларускай, але яна мае рысы, невядомыя ў іншых месцах. Фактычна гэта асобны беларускі дыялект, які выбіваецца з агульнапрынятай класіфікацыі. Бо беларускія гаворкі, за выключэннем брэсцка-пінскіх, традыцыйна дзеляць на два тыпы: паўночна-ўсходнія (Віцебшчына і большая частка Магілёўшчыны, частка Браншчыны і Чарнігаўшчыны) і паўднёва-заходнія (часткова Падляшша, Гродзеншчына, поўнач Берасцейшчыны, поўдзень Магілёўшчыны, усходняе Палессе). Гэтыя два тыпы гаворак інтэгруюцца ў цэнтральных, якія сабралі рысы і адных, і другіх. Дык вось хоць геаграфічна апісаны навукоўцам дыялект належыць да паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак, аднак мае багата рысаў, характэрных для гаворак паўднёва-заходніх. Растаргуеў назваў гэтую мову нашчадкаў летапісных севяран северска-беларускай. У тым жа годзе ў сталіцы БССР выйшла невялікая брашура маскоўскага мовазнаўцы, у якой коратка апавядалася пра гаворкі паветаў былой Чарнігаўскай губерні, якія ўвайшлі ў склад Гомельскай губерні.

у 1930 годзе арышту па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Але паступова яе адгалоскі дакаціліся і да Масквы. Аднойчы падчас аднаго з выступленняў у Навукова-даследчым інстытуце мовазнаўства Растаргуеў быў жорстка раскрытыкаваны. Абвінавацілі яго ў тым, што некаторыя тэорыі навукоўца змыкаліся з тэорыямі ўжо выкрытых «нацдэмаў». Прафесар разгубіўся і, спрабуючы апраўдацца, пачаў свой адказ са слоў: «Канечне, я за нацдэмаў». Пачуўшы шум у зале, папраўіўся: «Не, не, вядома, я супраць нацдэмаў». Але вялікага значэння ўсё гэта ўжо не мела.

У 1933 годзе Павел Растаргуеў быў арыштаваны і асуджаны па так званай «справе славістаў» (справе «Расійскай нацыянальнай партыі»). Усяго па ёй было рэпрэсавана каля сямідзесяці чалавек.

Па версіі следства, арыштаваныя належалі да фашысцкай партыі, дзеянні якой каардынаваліся з-за мяжы. Арганізацыя нібыта фармавала паўстанцкія ячэйкі, зладзіла дыверсію на доследнай станцыі і рыхтавала забойства Вячаслава Молатава. Падчас следства Растаргуеў быў адным з нямногіх, хто вінаватым сябе не прызнаў. Тым не менш пастановай калегіі ОГПУ ад 29 сакавіка 1934 года ён быў на 5 гадоў высланы ў Карагандзінскі папраўча-працоўны лагер.

**Разгублены прафесар, спрабуючы апраўдацца, пачаў свой адказ са слоў: «Канечне, я за нацдэмаў»**

У лагеры прафесар рабіў рэгістратарам, вёў

справаводства. Пасля быў накіраваны на педагагічную працу ў вёску, выкладаў рускую мову і матэматыку на курсах трактарыстаў і паляводаў. Акрамя таго, кіраваў метадычным бюро, ліквідацыяй непісьменнасці, працаваў у рэдакцыйнай калегіі, у юрыдычным бюро па дапамозе асуджаным. У выніку быў прызнаны ўдарнікам, і гэта дазволіла яму 2 верасня 1937 года датэрмінова выйсці на волю.

У тыя страшныя часы за вызваленнем часта ішоў новы арышт, за якім хуткі суд і не менш хуткі расстрэл. Але Растаргуева больш не чапалі. Пасля вызвалення з лагера ён паехаў у горад Клінцы Бранскай вобласці да сваёй сястры, бо яму было забаронена жыць у Маскве. Уладкаваўся на працу ў педінстытут у Навазыбкаве і, як заўсёды, энергічна ўключыўся у выкладчыцкую і навукова-даследчыцкую працу. Яго лаяльнасць, відаць, ніякіх сумневаў ва ўладаў ужо не выклікала. 29 сакавіка 1941 года Растаргуеву за шматгадовую плённую навуковую дзейнасць была нават без абароны дысертацыі прысуджаная навуковая ступень доктара філалагічных навук.

## Паміж Сцылай і Харыбдай

Але праз некалькі месяцаў пачалася вайна з Германіяй, якая прынесла пажылому прафесару новыя выпрабаванні. Навазыбкаў хутка стаў прыфрантавым горадам, і ў педінстытуце ўзнікла пагроза зрыву выпускных экзаменаў. Аднак дзяржкамісія пад кіраўніцтвам Растаргуева засядала па 10—12 гадзін, і ўсе выпускнікі 1941 года змаглі атрымаць дыпломы.

А вось адразу ж пасля таго выехаць на ўсход стары навуковец з-за хваробы жонкі не змог і вымушаны быў застацца пад акупацыяй. Жонка Надзея Дзмітрыеўна ўспамінала пра гэты час так: «Паўлу Андрэевічу споўнілася ўжо 60 гадоў, па стане здароўя ён не мог эвакуіравацца, і гэта ледзь не каштавала яму жыцця. Калі немцы ўварваліся ў Навазыбкаў, яны сталі шнырыць па дварах і, убачыўшы Паўла Андрэевіча, вырашылі, што ён яўрэй. Афіцэр ужо пацягнуў з сабой прафесара з крыкам "Юдэ!", але заступіліся суседзі і змаглі даказаць, што ён не яўрэй».




**Прыбіты і разгублены**, Растаргуеў падчас следства па «справе славістаў».

### Адметныя словы северска-беларускай гаворкі

Адружы́цца — жаніцца, заручыцца
Багі́ — абразы, іконы
Кійкі́ — кукуруза
Ро́йла — беспарадак
Я́нгуль — анёл

Пасля таго прыйшло новае ліха: немцы настойліва хацелі прыцягнуць старога інтэлігента да супрацоўніцтва, а ён ад гэтага гэтак жа настойліва адбіваўся. Яму прапаноўвалі месца загадчыка аддзела народнай асветы, члена мясцовай управы, перакладчыка на чыгунцы, у лясным аддзеле. Але Растаргуеў адмовіўся нават ад рэгістрацыі ва ўправе як пацярпелы ад савецкай улады за палітычную дзейнасць.

Цярпенню акупантаў урэшце прыйшоў канец. У кастрычніку 1942 года навукоўца выклікалі да бургамістра. Прафесару нагадалі пра яго выступленні на старонках мясцовай газеты «Ударнік» і тут жа паклалі перад ім артыкул пад назвай «Інтэлігенцыя заўсёды наперадзе». Яму прыпомнілі пра актыўную грамадскую дзейнасць пры саветах і папярэдзілі, што калі не выйдзе не працу, то будзе неадкладна арыштаваны. Хвароба і ўзрост у разлік не браліся.

У выніку Растаргуеў быў вымушаны ўзяцца выкладаць некалькі ўрокаў рускай гісторыі ў сярэдняй школе, а таксама ▶




**Вокладкі мовазнаўчых прац Паўла Растаргуева.**

пагадзіцца на замену на перыяд хваробы загадчыка курсаў нямецкай мовы. Што, зрэшты, давала яму магчымасць вызваляць ад адпраўкі ў Германію моладзь.

Але ўстрыманне ад актыўнага супрацоўніцтва з немцамі дало плён пасля, калі напрыканцы верасня 1943 года Навазыбкаў быў вызвалены Чырвонай арміяй. Прафесара Растаргуева не зачапілі, ён разам з жонкай Надзеяй Дзмітрыеўнай і іншымі супрацоўнікамі браў удзел у аднаўленні работы педінстытута. І быў нават узнагароджаны медалём «За доблестный труд в Великой Отечественной войне 1941–1945 годов».

### Апошнія гады

Пасля вайны ў Савецкай Беларусі трэба было аднаўляць навуковае жыццё, а кадраў не было асабліва дзе ўзяць. Таму ўспомнілі і пра старога лінгвіста. Тагачасны кіраўнік БССР Панцеляймон Панамарэнка даручыў Якубу Коласу звярнуцца да Паўла Растаргуева і запрасіць яго на працу ў Інстытут мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. У 1947 годзе ён стаў старшым навуковым супрацоўнікам інстытута, яго вылучылі ў правадзейныя члены акадэміі. У гэты перыяд прафесар апублікаваў шэраг навуковых артыкулаў, рэцэнзаваў работы аспірантаў, узяў удзел у Першай дыялекталагічнай канферэнцыі БССР, якая праходзіла 25–30 сакавіка 1948 года.

Але здароўе не дазваляла доўга працаваць, хутка давялося звольніцца з працы і ў Мінску, і ў Навазыбкаве. Пасля таго ўся ўвага вучонага была скіраваная на заканчэнне даўно распачатай манаграфіі па гаворках Смаленшчыны. Але пабачыць сваю кнігу яму так і не давялося, яна выйшла ў друкарні Акадэміі навук СССР ужо толькі пасля ягонай смерці. А не стала Паўла Растаргуева 21 сакавіка 1959 года.

Не суджана было Растаргуеву дачакацца і фармальнага вяртання свайго добрага імя. Цалкам рэабілітаваны за судзімасць 1930-х ён быў толькі праз пяць гадоў пасля смерці, 26 кастрычніка 1964 года.

### Слоўнік народных гаворак Заходняй Браншчыны

Думка стварыць такі слоўнік займала Растаргуева з 1903 года. Тады прафесар Раман Брант звярнуў увагу на асаблівасці гаворкі свайго студэнта і вызначыў аснову ягонай мовы як беларускую. З гэтага часу і пачаўся збор матэрыялаў для слоўніка. Аляксей Шахматаў, новы настаўнік Растаргуева, рэкамендаваў працягваць працу. Аднак пасля 1917 года яна была вымушана адкладзена. Новая магчымасць працягнуць некалі распачатае ўзнікла толькі пасля таго, як навуковец уладкаваўся на працу ў Навазыбкаўскі педінстытут у 1938 годзе. Да 1954 года праца была ў асноўным завершана, але выйшла ў свет толькі ў 1973-м у беларускай сталіцы. Усяго ў слоўніку сабрана каля 8 000 слоў, запісаных у 267 населеных пунктах рэгіёна.


**Дом, у якім жыў Павел Растаргуеў у Навазыбкаве.** Фота 1996 года, цяпер дом не існуе.

NOVOZYBKOV.RU

**Дзякуючы Растаргуеву мы можам уявіць, як некалі размаўлялі на далёкім усходзе беларускага свету**




**Павел Растаргуеў выступае на пасяджэнні кафедры рускай мовы** Навазыбкаўскага педінстытута. 1948 год.

А кнігі і артыкулы Паўла Растаргуева дагэтуль не страцілі сваёй актуальнасці. І ўвогуле, зробленае ім у галіне мовазнаўства ўражвае. Каб яму не было ў жыцці столькі нягодаў ды выпрабаванняў, то, магчыма, змог бы рэалізаваць і амбіцыйную задуму сваёй маладосці — цалкам апісаць гаворкі, што былі на тэрыторыі северан, полацкіх і смаленскіх крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў. Сам ён прызнаваў, што першапачатковыя намеры яму ўдалося ажыццявіць толькі часткова. Але ўсё ж дзякуючы Растаргуеву зараз мы можам куды лепш уявіць, як некалі размаўлялі на далёкім усходзе беларускага свету. ◆

## Гаворкі Смаленскага краю

Акрамя гаворак нашчадкаў северан, Растаргуеў даследаваў таксама гаворкі Смаленскага краю. Праца заняла шмат часу і атрымала назву «Говоры на территории Смоленщины».
У ёй прафесар прыйшоў да высновы, што гаворкі даследаванай тэрыторыі паступова страцілі свае беларускія рысы і сталі змяшанымі, беларуска-рускімі, ідучы ў кірунку зліцця з літаратурнай рускай мовай. Тое, што частка крыніц, якімі пры напісанні манаграфіі карыстаўся вучоны, прапала ў гады вайны, робіць яе ўнікальнай.




**Лаўрэш, Леанід. Шпацыры па старой Лідзе.** — Гродна: ЮрСаПрынт, 2020. — 342 с.

Аўтар кнігі, лідскі краязнавец, расказвае гісторыю свайго старажытнага горада, грунтуючыся на архіўнай інфармацыі, працах гісторыкаў, мемуарах лідзян і артыкулах старых газет.
Кніга напісана як серыя вандровак па старой Лідзе. Леанід Лаўрэш паказвае мясцовую гісторыю праз лёс лідскіх вуліц, будынкаў і жыхароў горада. Ён выкладае тут усё найбольш цікавае з таго, што сабраў і назапасіў за дзесяцігоддзі вывучэння лакальнай гісторыі Лідчыны. Большасці аб'ектаў, пра якія ідзе гаворка ў кнізе, ужо не існуе. А таму аўтар вядзе сваіх чытачоў праз горад-прывід, які амаль што цалкам знік у 1940-я гады. Ва ўсіх раздзелах кнігі стаяць знакі QR-кода, якія выводзяць аматараў шпацыраў па Лідзе да тых пунктаў, з якіх найлепш вывучаць аб'ект, пра які там вядзецца гаворка.



Больш падрабязна пра кнігу можна даведацца на сайце выдавецтва.
Кнігу можна набыць у Мінску: кнігарня «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, д. 72); у Гродне: кнігарня «Раніца» (вул. Маставая, д. 33) і кнігарня «Праметэй» (вул. Савецкая, д. 10). Таксама яе можна замовіць праз інтэрнэт-кнігарню KNIHI.BY.

**Дранько-Майсюк, Леанід. «...Усе бачылі нястачу віна...»: аповесць пра Адама Станкевіча.** — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 168 с., XXIV с. іл. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 123).

Выйшла новая, багатая на мастацкія асэнсаванні архіўна-дакументальная аповесць пісьменніка Леаніда Дранько-Майсюка. Гэта твор пра ксяндза Адама Станкевіча і ягоную самаахвярную працу на карысць Беларусі.
Адам Станкевіч (1891–1949) — каталіцкі святар, патрыярх беларускага хрысціянскага руху, палітычны і культурны дзеяч, выдавец, гісторык, літаратуразнаўца, публіцыст. Асноўную частку жыцця ён працаваў у Вільні, а пасля Другой сусветнай вайны асуджаны савецкай уладай на 25 гадоў за «дапамогу міжнароднай буржуазіі; за прапаганду, якая змяшчала заклік да звяржэння, падрыву або паслаблення савецкай улады». Змардаваны бясконцымі допытамі ў казематах віленскай Лукішскай турмы, Адам Станкевіч, ужо цяжка хворы, быў адпраўлены ў лагер у сібірскім Тайшэце, дзе неўзабаве памёр.




Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, д. 72), кнігарнях ААТ «Белкніга» па ўсёй краіне. Таксама яе можна замовіць праз інтэрнэт-кнігарню KNIHI.BY.




**Барыс Кіт
і Тамара Казевіч.**
1990-я.

# *Чатыры каханні* Барыса Кіта

**Амаль 108 гадоў пражыў гэты выбітны навуковец. З якімі жанчынамі дзяліў ён свой доўгі век, піша Валер Каліноўскі.**

Сёлета 6 красавіка яму споўнілася б 110 год. Да гэтага юбілею Барыс Кіт не дажыў не так ужо і шмат — усяго два гады і два месяцы. Калі я з ім апошні раз бачыўся ў 2017 годзе, мы дамовіліся наступным разам сустрэцца на ягоны 110-гадовы юбілей. «А колькі там чакаць? Хутка ўжо!» — сказаў Барыс Уладзіміравіч. Але праз 2,5 месяца памёр. На момант смерці 1 лютага 2018 года ён быў самым старым беларусам у свеце.

За амаль 108 год на гэтым свеце ў Барыса Кіта было сапраўды насычанае грамадскае і прафесійнае жыццё. Але было і шчаслівае асабістае, пра што шырокай публіцы вядома меней. Хоць гэта таксама ягоная спадчына.

## Рэбека Траявіцкая: першае каханне

Гісторыю пра светлае юнацкае каханне да габрэйскай дзяўчыны Рывы (Рэбекі) Траявіцкай Барыс Кіт некалькі разоў расказваў, калі ўжо быў вельмі сталым чалавекам. Гэта заўсёды былі вельмі пяшчотныя і сумныя ўспаміны. Рэбека жыла ў Карэлічах, а вучылася ў польскай гімназіі ў Навагрудку.

Барыс Кіт ужо вучыўся ў Вільні ва Універсітэце імя Стэфана

**Барыс Кіт**
(арыгінальная форма прозвішча Кіта́) нарадзіўся ў Санкт-Пецярбурзе ў 1910 годзе ў сям'і беларуса і расіянкі. Пасля рэвалюцыі сям'я пераехала на радзіму бацькі, на Наваградчыну, якая па ўмовах Рыжскай мірнай дамовы 1921 года адышла да Польшчы. Там Барыс закончыў школу ў Карэлічах, беларускамоўную гімназію ў Наваградку, фізіка-матэматычны факультэт Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні (у 1933-м). Далей працаваў настаўнікам, арганізоўваў беларускі школьны працэс. Гэтым жа ён займецца і пры немцах. У 1944-м будзе арыштаваны гестапа і ледзь не забіты.
Пасля вайны Барыс Кіт з'язджае ў Заходнюю Нямеччыну, адкуль у 1949-м выехаў у ЗША. У Штатах Кіт расквітнеў і як навуковец, і як грамадскі дзеяч. Як першы — працаваў у касманаўтыцы і пісаў пра гэта навуковыя працы. Як другі — дапамагаў нацыянальным эміграцкім арганізацыям, за свае грошы выпускаў беларускія кнігі.
У 1972-м, пасля выхаду на пенсію, вярнуўся ў Германію. Памёр у пансіянаце для састарэлых у 2018 годзе.

Баторыя (1928–1933), і калі прыязджаў да бацькоў у вёску Агароднікі пад Карэлічамі, то дапамагаў Рыве па матэматыцы, быў яе рэпетытарам.

Яна была высокай і прыгожай, з буйнымі пасмамі бялявых валасоў. Чатыры гады яны сустракаліся спачатку адкрыта, а потым, пасля забароны бацькі Рэбекі, артадаксальнага іўдзея, — таемна. Адзін раз Барысу, які праводзіў Рэбеку дадому, загарадзілі дарогу габрэйскія хлопцы, але абышлося, бо за яго заступілася каханая.

Потым бацька прымусам аддаў Рэбеку замуж за габрэя, нашмат старэйшага за яе. Гэты разрыў Барыс Кіт пераж ываў цяжка. Пасля Рыва, найверагодней, загінула ў Халакосце, як сотні тысяч беларускіх габрэяў.

**Адзін раз Кіту, які праводзіў Рэбеку дадому, загарадзілі дарогу габрэйскія хлопцы**

### Галіна Швед: першая жонка

Сваю першую сям'ю Барыс Кіт стварыў у Вільні, калі працаваў выкладчыкам матэматыкі ў беларускай гімназіі (1931–1939). Кіт жыў тады ў прымаках у Галініным доме ў Калоніі Віленскай, у якім час ад часу прымаў як гасцей выкладчыкаў гімназіі і прафесараў Віленскага ўніверсітэта. У Барыса і Галіны нарадзілася дачушка Вольга, але яна памерла дзіцём. А адносіны з цешчай Эміліяй Іванаўнай былі складаныя.


З АСАБІСТАГА АРХІВА БАРЫСА КІТА

Фота Галіны Швед не захавалася. Але збярогся іншы здымак гэтага перыяду: **Барыс Кіт са сваёй знаёмай Марысяй Друцько.** Вільня, 1938 год.


З АСАБІСТАГА АРХІВА БАРЫСА КІТА

**Ніна Корсак.** Вільня, 1937 год.

Гэтыя абставіны прывялі да разводу яшчэ да пачатку Другой сусветнай вайны.

### Ніна Корсак: другая жонка

У 1939 годзе, пасля прыходу савецкай улады, на 10 гадоў маладзейшая за Кіта Ніна паступіла ў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, дзе ён выкладаў матэматыку. 17 жніўня наступнага года маладыя пабраліся шлюбам. А калі ўлетку 1941 года пачалася вайна з немцамі, Барыс і цяжарная Ніна шмат кіламетраў прайшлі пехатою па дарозе да дома бацькоў Ніны пад Маладзечнам. Неўзабаве ў мястэчку Лебедзева нарадзіўся іх першынец Уладзімір.

Бацьку Ніны Івана Корсака, дыякана і кіраўніка царкоўнага хору, савецкія ўлады арыштавалі і саслалі ў Сібір, дзе ён прабыў 8 гадоў, а ўжо пасля вызвалення пажыў мала. Кіт таксама трапіў пад ціск спачатку савецкіх ▶




Сям'я Кітоў у ЗША з сябрамі. 1949 год.

спачатку ў Кіеве, а пазней у Аўстрыі і Германіі.

Лідзія Рудольфаўна негатыўна ўспрыняла Барыса Кіта як патэнцыйнага зяця, 15-гадовая Ірына яго таксама спачатку не палюбіла: ён жа быў на 27 гадоў старэйшы за Тамару. Але абедзве з часам зменяць сваё стаўленне.

### Сустрэча Ніны і Тамары

У 1973 годзе ў Франкфурт з Вашынгтона прыехала Ніна Кіт, якая яшчэ заставалася фармальнай жонкай Барыса. Яна хацела пераканаць Барыса забыць усе крыўды, раздумаць пра развод і вярнуцца да яе. Але Барыс не схацеў. Ніна зразумела, што ў яго ўжо ёсць іншая. І выйшла на Тамару, спадзеючыся, што, можа, удасца неяк адгаварыць яе.

▸ уладаў, а потым нацыстаў, неаднойчы быў у тыя гады на парозе смерці.

У канцы вайны Кіты эмігравалі спачатку ў Германію, дзе яны жылі ў лагеры ўцекачоў (1945–1948), а Барыс выкладаў матэматыку ва ўкраінскай школе, а потым — у ЗША. Другі сын Кітоў, Віктар, нарадзіўся ўжо ў Штатах, у Лос-Анджэлесе, у 1950 годзе.

У 1972 годзе Барыс Кіт сышоў у адстаўку з дзяржаўнай службы ў ЗША і паехаў працаваць выкладчыкам у філію вашынгтонскага Мэрылендскага ўніверсітэта ў ФРГ. Пасяліўся ў Франкфурце-на-Майне. Сыны тым часам выраслі, а адносіны Барыса з Нінай астылі — іх шлюб развальваўся.

### Тамара Казевіч: спадарожніца жыцця

«Аднойчы ў Франкфурце мне патрэбна было перакласці некаторыя дакументы на нямецкую мову, і я зайшоў да адной перакладчыцы, якая паходзіла з Вільні. І яна пазнаёміла мяне з Тамарай», — апавядаў Барыс Кіт Васілю Быкаву, які ў 1990-я запісаў і выдаў успаміны Кіта пад назвай «Цярновы шлях». Тамара пазней прызнавалася, што новы знаёмец адразу зачараваў яе сваімі ведамі.

Знаёмства з Тамарай Казевіч адбылося ў 1972 годзе, неўзабаве пасля пераезду Кіта ў Нямеччыну. На той момант Барыс ужо разышоўся з жонкай Нінай, якая засталася ў Амерыцы. А Тамара яшчэ нашмат раней за тое развялася з першым мужам Багданам Казевічам, які таксама застаўся ў Амерыцы.

Тамара мела 15-гадовую дачку Ірыну і жыла з цёткай Лідзіяй Рудольфаўнай, якая гадавала яе з самага малога ўзросту —

## «Яны пагаварылі і вырашылі, што я належу Тамары»

Як распавядаў пазней Барыс Кіт, ён паклікаў Тамару ў гатэль да Ніны, і Тамара пры сустрэчы першай падала руку. Пра што гаварылі жанчыны, Кіт не чуў, даў ім пагутарыць сам-насам. Потым ён напаўжартам казаў пра вынік той размовы: «Яны пагаварылі і вырашылі, што я належу Тамары».

Ніна вярнулася ў Вашынгтон, і потым у яе былі яшчэ сустрэчы і з Барысам, і з Тамарай, калі тыя прыязджалі ў ЗША. У новай жанчыны Барыса з усімі Кітамі — у тым ліку сынамі — склаліся сяброўскія адносіны.

22 красавіка 1973 года ў прыгожым рэстаране Вісбадэна Барыс Кіт і Тамара Казевіч адзначылі заручыны. Шлюб жа можна было аформіць толькі пасля фармальнага разводу Барыса, які быў атрыманы ў 1975 годзе.

Але ў выніку да шлюбу справа ў іх так і не дайшла.

### Шматгадовае сяброўства

«Спачатку мы хацелі пажаніцца. А потым я падумала і вырашыла, што лепей быць асобна, чым увесь час толькі разам і разам, бо надакучваеш, як бывае ў шлюбе. Людзі надакучваюць і пачынаюць сварыцца. А так ён прыходзіў, было добра, мы хадзілі, гулялі, не было ніякіх спрэчак. Гэта была мая ідэя, але і Барыс пагадзіўся, і, як мне падаецца, ён не надта пакутаваў ад гэтага», — тлумачыла іх выбар Тамара Казевіч. Яна называла іх адносіны шматгадовым сяброўствам, ён яе — спадарожніцай жыцця.

Былі штодзённыя тэлефанаванні, сустрэчы, паходы



**Глядзіце інтэрв'ю, узятае ў Барыса Кіта нямецкім даследчыкам Феліксам Акерманам** у 2015 годзе, калі Кіту было 105 гадоў.

ў тэатры і рэстараны, паездкі за горад і за мяжу, удзел у важных імпрэзах і сумесны адпачынак. А пасля спатканняў і паездак Барыс і Тамара разыходзіліся па сваіх кватэрах.

Тамара працавала сакратаркай спачатку ў прадстаўніцтве амерыканскай кампаніі ў Франкфурце, потым у розных банках і адвакацкай канторы. Барыс Кіт параіў Тамары пашукаць працы ў Федэральным банку ФРГ, які размяшчаецца ў Франкфурце, і яна ўрэшце стала сакратаркай старшыні Бундэсбанка Ганса Тытмаера — праца, якая яе надзвычай задавальняла.

Тамара таксама дапамагала і Кіту. Пераклала на нямецкую і надрукавала на машынцы ягоную доктарскую працу, пабывала з ім на 15 астранаўтычных кангрэсах, яны разам былі на адкрыцці беларускай амбасады ў Боне ў 1993 годзе. А яшчэ Тамара перакладала на нямецкую мову вершы сябра Барыса Кіта Масея Сяднёва і пісала лісты патэнцыйным фундатарам Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта ў Наваградку, калі на пачатку 1990-х Барыс Кіт загарэўся такой ідэяй і шукаў пад яе сродкі.

**«Ён быў такі разумны, не трэба было кнігі чытаць, а толькі дастаткова яго спытаць. І не шкадаваў добрых слоў»**

# Сьв. памяці Ніны Корсак-Кіт
## (10 жніўня 1920 г. - 2 чэрвеня 2015 г.)

Напачатку чэрвеня на 95 годзе жыцця пакінула наш сьвет сп. Ніна Кіт, якую добра ведала беларускае грамадзтва ў Амэрыцы.

Нарадзілася Ніна Корсак 10 жніўня 1920 году ў мястэчку Лебедзеў каля горада Маладзечна ў Беларусі ў сямьі Натальлі Глод і Івана Корсака. Мела двух братоў.

У 1921 годзе ў выніку Рыжскай дамовы мястэчка Лебедзеў трапіла ў склад Польшчы . Ніна гадавалася на бацькоўскай гаспадарцы.

У верасьні 1939 года савецкія войскі занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі. Ніну бацькі паслалі ў настаўніцкую школу ў Баранавічы, дзе яна вывучала расейскую мову і літаратуру.

Бацька Ніны быў дыяканам і кіраўніком царкоўнага хору. Пасьля ўсталяваньня савецкай улады бацька быў арыштаваны і адпраўлены ў сібірскія лягеры, адкуль вярнуўся праз доўгія гады і хутка пасьля гэтага памёр.

17 жніўня 1940г Ніна ўзяла шлюб з вядомым беларускім грамадзкім дзеячам і навукоўцам Барысам Кітам, які доўжыўся да 1975 году і быў скасаваны ў Нямеччыне. Мелі двух сыноў - Уладзіміра (нарадзіўся ў Польшчы ў 1941 годзе) і Віктара (нарадзіўся ў 1950 годзе ў Лос- Анджэлесе).

Уладзімір памёр у 2009 годзе, працаваў як Senior Corporate Computer Manager for Budget at National Aeronautics and Space Administration (Washington, D.C.).

Віктар – доктар, жыве ў Балтыморы.

У 1945-48 гады Ніна і Барыс былі ў Нямеччыне ў лягеры ўцекачоў, адкуль эмігравалі ў Злучаныя Штаты. Жылі ў Саўт Рывэры (New Jersey), у Лос- Анджэлесе (Каліфорнія), а потым пасяліліся ў гарадку Кенсінгтон, штат Мэрыленд. Амерыканскае грамадзянства Ніна атрымала 28 траўня 1954 году.

Яна ўвесь час дапамагала беларускім эмігрантам, якія воляй лёсу апынуліся далёка ад сваёй радзімы. З многімі яна захавала добрае сяброўства на доўгія гады. Працавала ў Джорж Вашынгтон Унівэрсытэце як кампутарны аналітык. Яна любіла працаваць на зямлі. У яе садзе квітнелі цудоўныя азаліі, розныя дрэвы ўпрыгожвалі сад. Любіла танцаваць і была актыўным сябрам Senior Center, выдатна іграла ў брыдж. Любіла і цаніла оперу. Унучка Ніны Марына Кіт і яе муж неаднаразова былі чэмпіёнамі нацыянальных амерыканскіх спаборніцтваў па тэнісу.

Ніна добра гатавала беларускія стравы, якія карысталіся папулярнасьцю. Яе часта запрашалі гатаваць для вясельляў, сяброўскіх і прафесійных сустрэч. Яна шчодра дзялілася рэцэптамі нацыянальных страў, выступала ў адпаведных перадачах на тэлевізіі.

Сьветлая памяць нашай маме і бабулі !

*Віктар Кіт*

З АСАБІСТАГА АРХІВА БАРЫСА КІТА

Ніна Корсак-Кіт працавала камп'ютарным аналітыкам ва Універсітэце імя Джорджа Вашынгтона, была актывісткай беларускай дыяспары. Памерла ў 2015 годзе на 95-м годзе жыцця. **Барыс Кіт трымаў у сваім архіве газету «Беларус» з некралогам па Ніне Корсак-Кіт, напісаным іх сынам Віктарам**, высокакваліфікаваным хірургам. Першы сын Ніны і Барыса Уладзімір Кіт, які зрабіў кар'еру ў НАСА (Амерыканскім касмічным агенцтве), памёр раней за бацькоў, у 2009 годзе.

«Жыццё было цікавае, добрае, мы аб'ездзілі ўвесь свет, мы былі задаволеныя нашымі адносінамі, — расказвала Тамара. — Барыс быў вельмі спакойным, вельмі разумным, не трэба было кнігі чытаць, а толькі дастаткова яго спытаць. З ім можна было добра бавіць час, ён не сварыўся і не злаваў, быў прыемным чалавекам, не шкадаваў добрых слоў. Я была шчаслівая з Барысам. Шмат гадоў!»

Ён пазнаёміў яе з усімі сваімі сябрамі-навукоўцамі і з беларусамі, якія бывалі ў яго ў Франкфурце. У 2001–2002 гадах Барыс Кіт і Тамара амаль штодня бачыліся з Васілём Быкавым і ягонай жонкай Ірынай Міхайлаўнай. ▶







**Злева: Барыс Кіт і ўнук Тамары Казевіч.** 1987 год. **Справа: Барыс Кіт на фоне партрэтаў сыноў Віктара і Уладзіміра.** 2002 год. Сыноў Барыс Кіт вельмі любіў, ганарыўся імі, трымаў іх партрэты, копіі дыпломаў і візітоўкі ў сваёй невялічкай франкфурцкай кватэры на пачэсным месцы.

## Тамара Казевіч

нарадзілася ў 1937 годзе на Далёкім Усходзе, дзе афіцэрам у войску служыў яе бацька, этнічны немец Адольф Тырлінг. У той жа год у Кіеве арыштавалі яго маці, а самога звольнілі з працы. У Адольфа і яго жонкі Еўдакіі не было на што жыць, калі ў іх у Кіеве нарадзілася яшчэ адно дзіця. І іх старэйшую дачку Тамару часова ўзяла на выхаванне сястра Адольфа Лідзія, муж якой Яўген Зялінскі працаваў інжынерам на цукровым заводзе і добра жыў. Лідзія і Яўген Зялінскія фактычна замянілі бацькоў для Тамары, з імі яна вырасла і праехала шмат краін. У 1949 годзе яны разам эмігравалі з Нямеччыны ў ЗША, а ў 1959-м вярнуліся ў Нямеччыну. Тамара прыехала з дачкой Ірынай, якая нарадзілася ў шлюбе з Багданам Казевічам.

### Развітанне

Пакуль Барыс быў маладзейшы, ён дбаў пра Тамару, ездзіў да яе з кветкамі і падарункамі. Але апошнія гады ўжо яму была патрэбна дапамога. Ён перажыў пералом шыйкі сцягна, аперацыю замены сустава, пасля якой на нагі ўжо не стаў, карыстаўся вазком. Дом састарэлых, дзе пасяліўся Кіт у 2012-м, быў блізка ад дома Тамары, 10 хвілін пехатой. І Тамара амаль штодня наведвала яго, хоць і сама была ўжо хворай. Яны вельмі непакоіліся пра здароўе адно аднаго да апошняга дня, кажа Тамара:

«Калі цямнела — а гэта ў пяць вечара зімой, — Барыс Уладзіміравіч хацеў, каб я пайшла дадому, пакуль светла, каб я была ў бяспецы. Ён быў вельмі рады, калі я вярталася і званіла яму ўжо з дому. Не хацеў трывожыць і турбаваць... Апошнія два дні Барыса Кіта былі жахлівыя, ён упаў з ложка, стукнуўся галавою. Ён не мог глытаць, есці і піць. І ў яго былі такія болі, што паклікалі анестэзіёлагаў, яны далі яму крыху морфію, але ён усё роўна крычаў ад болю, пакутаваў. Яму далі яшчэ морфію, і яшчэ. І тады ён памёр...»

Апошнія гады Барыс Кіт ужо кепска бачыў і чуў, але ўсё ж яму спадабалася вестка, што, паводле звестак Белстата, у Беларусі няма мужчын, старэйшых за яго, і што ён, выходзіць, самы стары беларус свету. Таксама ён быў самым старым жыхаром Франкфурта-на-Майне. ◆

## У свой 100-гадовы юбілей

За 8 гадоў да смерці Барыс Кіт прызнаваўся: «Я вельмі ўдзячны сваім жанчынам. Асабліва апошняя мая, Тамара Казевіч, мне вельмі дапамагла ў маім жыцці ў Нямеччыне».

# «Магіла бацькоў»

## Як Кыргызстан сабраў у адным месцы памяць пра нацыянальныя трагедыі цэлага стагоддзя

**У Беларусі нярэдка можна пачуць думку аб неабходнасці стварэння нацыянальнага пантэона, дзе хаваліся б заслужаныя для нацыі людзі і ўшаноўвалася памяць пра нацыянальныя трагедыі, на якія наша гісторыя была надта шчодрая. Але калі ў нас гэта пакуль што толькі на ўзроўні ідэй і пажаданняў, то ў некаторых постсавецкіх дзяржавах падобныя мемарыялы ўжо створаныя. У Кыргызстане ўсё некалі пачалося з закінутай цагельні, дзе НКВД у 1937 годзе пахаваў расстраляных прадстаўнікоў нацыянальнай эліты. Піша журналіст з Кіева Грыгорый Пырлік.**

### «Бацька, я не магу паставіць табе помнік. І нават не ведаю, дзе ты пахаваны»

Так пачынаецца прысвячэнне да ўпершыню выдадзенай у 1963 годзе аповесці Чынгіза Айтматава «Матчына поле». Айтматаў — самы вядомы кыргызскі пісьменнік, чытачам з постсавецкай прасторы яго прозвішча добра знаёмае. А слова «манкурт», ужытае пісьменнікам у рамане «Буранны паўстанак» («І вякуе дзень даўжэй за век») для азначэння чалавека, які начыста забыўся пра свае карані, трывала ўвайшло ў мовы многіх народаў.

Бацька Чынгіза Айтматава, Тарэкул Айтматаў, зрабіў у 1920–1930-я гады паспяховую партыйную кар'еру на радзіме, а ў 1935-м быў накіраваны на вучобу ў Маскву. У жніўні 1937 года ён правёў сваю сям'ю да маскоўскага Казанскага вакзала, і гэта была іх апошняя сустрэча.

У сваёй кнізе «Белыя старонкі гісторыі» сястра Чынгіза, Роза Айтматава, цытуе ўспаміны старэйшага брата, якому тады было 8 гадоў: «Я адразу пры ўваходзе ў купэ заняў месца на верхняй паліцы. Не ведаю чаму, але я ведаў, што больш мы не сустрэнемся з бацькам, што я ў апошні раз бачу яго, бачу, як, натыкаючыся на людзей, ён бяжыць у белай касаваротцы па пероне следам за цягнікам, які забірае назаўсёды яго дзяцей і жонку. Схаваўшыся ў падушку, я горка плакаў, адчуваючы ў грудзях застылы камяк, які, здавалася, ніколі ўжо не растане».

У лістападзе 1937-га Тарэкул Айтматаў быў арыштаваны ў Маскве і адпраўлены ў Фрунзэ — ▸

ФОТА ГРЫГОРЫЯ ПЫРЛІКА

Надпіс на магіле Чынгіза Айтматава.




SHUTTERSTOCK.COM, BY PAVALENA


ФОТА ГРЫГОРЫЯ ПЫРЛІКА

Музей памяці ахвяраў савецкіх рэпрэсій на мемарыяле «Ата-Беіт».

так тады зваўся Бішкек, сталіца Кыргызстана. Яго, як і многіх іншых у тыя часы, стандартна абвінавацілі ў прыналежнасці да «контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі», якая «паставіла сабе за мэту адарванне Кіргізіі ад Савецкага Саюза і стварэнне самастойнай буржуазна-нацыяналістычнай дзяржавы праз узброенае паўстанне».

«Суддзям спатрэбілася ўсяго 20 хвілін, каб асудзіць “ворага народа” да расстрэлу. Да канца сутак заставалася яшчэ 35 хвілін. Гэтага цалкам хапіла для выканання прысуду. У архіўных матэрыялах ёсць даведка пра тое, што “прысуд адносна расстрэлу Айтматава Тарэкула выкананы ў горадзе Фрунзэ 5 лістапада 1938 года”», — піша Роза Айтматава.

Усяго з 5 па 8 лістапада 1937 года да найвышэйшай меры пакарання па гэтай справе былі асуджаныя 137 чалавек. А пахаваць усіх расстраляных чэкісты вырашылі на тэрыторыі закінутай цагельні каля дачы НКВД непадалёк ад Фрунзэ.

## Сямейная таямніца

Вартаўніком на дачы тады працаваў Абыкан Кыдыраліеў. Ён жыў са сваёй сям'ёй у невялікім дамку на яе тэрыторыі. У пачатку лістапада кіраўніцтва загадала Абыкану вывезці адсюль сям'ю, а самому наведвацца на дачу толькі час ад часу. Калі ж сям'і дазволілі вярнуцца, то дачка ахоўніка заўважыла, што на месцы цагельні вырас земляны пагорак. Бацька сям'і нічога не патлумачыў.

Роза Айтматава пісала: «Начамі каля пагорка збіраліся сабакі і вылі, а ў месяцовыя ночы з'яўлялася яркае свячэнне (трупны газ пад уздзеяннем месяцовага святла люмінаваў). У такія моманты Абыкан, хаваючыся ад чужых вачэй, падкрадаўся да пагорка і чытаў там малітву. Дадому ён прыходзіў з цяжкім настроем, заплаканы. Сям'я заўважыла, што апошнім часам у яго моцна змяніўся характар. Абыкан стаў задуменным, раздражнёным і нязветлівым».

Дачу НКВД неўзабаве перадалі спартсменам. Так побач з Фрунзэ з'явілася гарналыжная база Чон-Таш.

А ў 1973 годзе, незадоўга да смерці, Абыкан Кыдыраліеў наважыўся расказаць пра таямніцу былой цагельні сваёй дачцэ Бубуры. Ён сказаў, што там ляжаць ахвяры рэпрэсій і папрасіў паведаміць пра тое сваякам загінулых. І калі часы памяняліся, Бубура Кыдыраліева выканала запавет бацькі.

## Стварэнне мемарыяла

На месцы пахавання правялі раскопкі, якімі кіраваў супрацоўнік мясцовага КДБ Балот Абдрахманаў. Ён апісваў выяўленае ў сваёй справаздачы:

«Камера для абпальвання ў цагельні была зроблена ў выглядзе ямы памерам 3,5 х 3,5 х 3,5 метра. У гэтую яму былі бязладна кінутыя целы кіраўнікоў дзяржавы, сакратароў абкамаў, народных камісараў, а таксама звычайных рабочых і сялян. Нягледзячы на бязладнасць, відаць, што на самым дне быў пласт з целаў дзесяці-пятнаццаці чалавек. Гэты пласт быў прысыпаны зямлёй, потым кінулі наступны пласт целаў загінулых...».

Роза Айтматава піша, што з 5 па 8 лістапада 1938 года смяротныя прысуды ў Фрунзэ вынеслі 137 чалавекам. Аднак у брацкай магіле аказалася 138 чэрапаў. Асобу 138-га чалавека не высветлілі. Вядома, што гэта была 49-гадовая жанчына. Існуе версія, што яна стала выпадковай сведкай таго, што рабілася.

Сярод пахаваных у камеры для абпальвання цэглы знайшлі і цела Тарэкула Айтматава:

у яго нагруднай кішэні збераглася копія абвінаваўчага заключэння. Так пісьменнік Чынгіз Айтматаў атрымаў адказ на пытанне, пастаўленае за некалькі дзесяцігоддзяў да таго ў прысвячэнні да «Матчынага поля».

Расстраляных урачыста пахавалі ў асобных саркафагах тут жа сама, на Чон-Ташы. Так з'явіўся мемарыял, які па прапанове Чынгіза Айтматава назвалі «Ата-Беіт» («Магіла бацькоў»). Цяпер у доме побач з ім знаходзіцца музей. Тут ёсць падрабязныя біяграфіі расстраляных, фотаздымкі і копіі газетных публікацый розных часоў.



Магіла Айтматава.

ФОТА ГРЫГОРЫЯ ПЫРЛІКА

## Месца нацыянальнай памяці

Магілы ахвяраў сталінскіх рэпрэсій сталі першымі, але не апошнімі на «Ата-Беіт». Ужо ў XXI стагоддзі мемарыял стаў месцам памяці не толькі пра тэрор 1930-х, але і пра іншыя трагічныя для нацыі падзеі.

10 чэрвеня 2008 года ў клініцы нямецкага горада Нюрнберг, не дажыўшы паўгода да свайго 80-годдзя, памёр Чынгіз Айтматаў. Ён пакінуў запавет, каб яго пахавалі на «Ата-Беіт». І ягоная апошняя воля была выканана. У 2013 годзе тут быў адкрыты помнік пісьменніку. На белай мармуровай сцяне быў змешчаны барэльеф Айтматава, а збоку — цытата: «Цяжэй за ўсё для чалавека — штодня быць чалавекам».

Ужо праз няпоўныя два гады, у красавіку 2010 года, у Кыргызстане пачаліся народныя хваляванні. Падчас штурму адміністрацыі прэзідэнта Курманбека Бакіева 7 красавіка снайперы, якія сядзелі на даху будынка, застрэлілі каля 80 чалавек. Пратэстоўцаў гэта не спыніла, рэвалюцыя перамагла. І новая ўлада прапанавала пахаваць загінулых на «Ата-Беіт». Праўда, многія сваякі забралі целы для пахавання на радавых могілках, але ў мемарыяле ўсё ж знайшлі спачын 16 удзельнікаў рэвалюцыі. На іхніх магілах — аднолькавыя чорныя надгробкі.

А ў верасні 2016 года на «Ата-Беіт» з'явіўся яшчэ адзін помнік — у памяць пра народнае паўстанне стагадовай даўніны. Тады, у чэрвені 1916 года, падпарадкаваныя Расійскай імперыяй народы Цэнтральнай Азіі пачалі ўзброены супраціў у адказ на планы ўладаў мабілізаваць мясцовае насельніцтва на прымусовыя тылавыя работы — якраз ішла Першая сусветная вайна. Расійская адміністрацыя жорстка задушыла гэтае выступленне. Многія загінулі, а ад 100 да 250 тысяч чалавек, якія баяліся далейшых рэпрэсій, уцяклі ў Кітай. Гэтая падзея атрымала назву «Уркун» («Сыход»).

Памяць пра ахвяраў паўстання і іх пераход цераз горы ў мемарыяле сімвалізуюць конскія страмёны, якія цягнуцца да неба. А вянчае кампазіцыю тундук — нацыянальны сімвал Кыргызстана: скрыжаваныя жардзіны ў гістарычным жытле кыргызскіх качэўнікаў, юрце.

Такім чынам, мемарыял «Ата-Беіт» сабраў у адным месцы памяць пра трагедыі Кыргызстана за цэлыя 100 гадоў. ◆



Помнік паўстанню 1916 года.

ФОТА ГРЫГОРЫЯ ПЫРЛІКА

# Герой-танкіст, які быў сакрэтным інфарматарам

## Але і за ім сачылі таксама

**Пра ценявыя бакі біяграфіі Героя Савецкага Саюза Поля Армана піша гісторык Зміцер Дрозд.**

Поль Арман — у пэўнай ступені легендарная асоба. Пра яго ёсць нямала захопленых публікацый. Ён першы танкіст, які атрымаў званне Героя Савецкага Саюза, прытым задоўга да пачатку Другой сусветнай вайны — падчас вайны ў Іспаніі. Мае ён і іншыя дасягненні з прыметнікам «першы», якімі сам вельмі ганарыўся нават праз шмат гадоў.

**Першы ў гісторыі танкавы бой** адбыўся 24 красавіка 1918 года, падчас Першай сусветнай вайны, непадалёк ад мястэчка Вільер-Брэтон на поўначы Францыі. У ім удзельнічалі тры нямецкія танкі і дзесяць брытанскіх. Лепш там змагаліся немцы, але за кошт колькаснай перавагі перамаглі брытанцы.
А Поль Арман ганарыўся не першым танкавым боем увогуле, а першым такім боем для Чырвонай арміі. Ён адбыўся 29 кастрычніка 1936 года каля паселішча Сэсэнія за 30 км на поўдзень ад Мадрыда. Танкавай роце Т-26 пад камандаваннем капітана Армана супрацьстаялі восем італьянскіх танкетак «Ансальда». Савецкія танкісты ў тым баі перамаглі, а лейтэнант Сямён Асадчы зрабіў першы ў гісторыі — гэтым разам сапраўды для ўсяго свету — танкавы таран.
У гэтым баі, дарэчы, адзначыўся і загінуў танкіст-беларус Мікалай Сяліцкі, у гонар якога названая вуліца ў мінскім мікрараёне Шабаны.

Улетку 1943-га пад уражаннем ад славутай бітвы пад Прохараўкай Арман пісаў да жонкі і дачкі: «Хаджу ганарліва — першым у гісторыі боем танкаў з танкамі камандаваў усё ж я! І першы танкавы таран у гісторыі здзейсніў мой Сямён Асадчы... Я, далібог, маю права на крыху фанабэрыі і прызнаюся ў гэтым толькі вам дваім». Хоць абедзве згаданыя гістарычныя падзеі адбыліся амаль за 7 гадоў да таго, у той жа Іспаніі.

Зрэшты, гэты артыкул — не пра ваенныя подзвігі Поля Армана. Давайце лепш зазірнём у тыя часы, калі ягоная біяграфія была непасрэдна звязаная з Беларуссю. А было гэта ў 1930-я гады.

Ішлі масавыя рэпрэсіі, і падчас іх адныя і тыя ж людзі маглі пастаянна мяняцца ролямі. Сёння ты спіхваеш некага ў прорву, ратуючыся сам, а заўтра тое ж самае робяць з табой самім. Менавіта так атрымалася ў нашага героя, пра што сведчаць дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

### Не француз, а латыш

З імя і прозвішча Поля Армана можна падумаць, што перад намі француз па паходжанні. Але гэта не так. Пры нараджэнні яго звалі Паўль Тылтынь, ці Тылтыньш, а нарадзіўся ён 4 красавіка 1903 года ў Курляндскай губерні. Аднак у маладыя гады Паўлю пэўны час давялося пажыць і павучыцца ў Францыі, адкуль ён і прывёз новыя імя і прозвішча. У 1920-я гады Арман паступіў на вайсковую службу ў роднай Латвіі, якая да таго часу стала незалежнай. Але паслужыў гістарычнай радзіме нядоўга.



Поль Арман.

Ужо ў 1926 годзе Поль Арман эміграваў у СССР, дзе адразу паступіў на вучобу ў Маскоўскае пяхотнае вучылішча, што месцілася проста ў Крамлі. Гэта стала магчымым таму, што ён быў звязаны з камуністычным рухам у Латвіі яшчэ ў пачатку 1920-х і праявіў сябе як цалкам правераны, свой чалавек.

Вайсковая кар'ера ў СССР развівалася паспяхова, і ў снежні

1932 года Арман апынуўся ў Барысаве, дзе ўзначаліў батальён 5-й асобнай мотамеханізаванай брыгады Беларускай вайсковай акругі. А камандаваў тады гэтай брыгадай родны брат Поля, Ян-Альфрэд Тылтынь.

### Герой за Іспанію

У 1936 годзе Арман выехаў у Іспанію ваяваць на баку рэспубліканцаў. Традыцыйна яшчэ з савецкіх часоў лічыцца, што ён быў там добраахвотнікам. Сёння, аднак, не таямніца, што Іосіф Сталін імкнуўся скарыстаць унутраныя іспанскія праблемы для таго, каб усталяваць на заходнім ускрайку Еўропы камуністычны рэжым. Пад выглядам «добраахвотнікаў» там ваявалі кадравыя вайскоўцы і чэкісты, адначасова шчодра забяспечваючы рэспубліканскі бок зброяй і вайсковай тэхнікай (гл. пра гэта артыкул Аляксея Ластоўскага «Як беларусы перавезлі ў Маскву залаты запас Іспаніі» ў № 6/2019 «Нашай гісторыі»). Іспанская місія Армана, здзейсненая пад псеўданімам Капітан Грэйзэ, яўна таксама была камандзіроўкай, а не валанцёрствам.

З Іспаніі маёр Поль Арман вярнуўся ў сакавіку 1937 года з зоркай Героя Савецкага Саюза, стаўшы 27-м чалавекам з такім званнем увогуле і першым танкістам. А далей яго зноў чакала Беларусь. Спачатку ён ненадоўга ўзначаліў 2-гі батальён 4-й асобнай мотамеханізаванай брыгады, дыслакаванай у Бабруйску, а потым стаў камандзірам 5-й брыгады у Барысаве. Час быў, аднак, зусім не такі, каб здолець засяродзіцца на выкананні службовых абавязкаў. Быў самы пік сталінскіх рэпрэсій супраць вайсковых кадраў, і ніводзін афіцэр не мог быць упэўненым у заўтрашнім дні, знаходзячыся пад пільным кантролем асобага аддзела.

### Сакрэтны інфарматар

Поль Арман не быў выключэннем. Ужо 26 красавіка 1937 года памочнік начальніка асобага аддзела 5-й асобай мотамеханізаванай брыгады Сідарэнка звярнуўся да сваіх калегаў з 4-й брыгады з просьбай пераслаць яму асабістую справу Армана, які раней служыў там. Але, відаць, нічога для іх прыдатнага ў той справе чэкісты не знайшлі. Бо амаль праз паўгода, 8 верасня, ужо сам начальнік Сідарэнкі лейтэнант Осіпаў прамым тэкстам прасіў выслаць не проста справу, а «кампраметуючыя матэрыялы» на Армана. І нават пазначаў, якія менавіта: маўляў, вядома, што Арман у 4-й брыгадзе п’янстваваў, меў сувязь са знаёмай яму яшчэ па працы ў Германіі «шпіёнкай Апалонавай» і іншымі сумнеўнымі асобамі. Да таго ж у ягонай часці была высокая аварыйнасць, а гэта ў той час звычайна ацэньвалася як вынік свядомага шкодніцтва.

Але і тут не асабліва зраслося. Бабруйскія чэкісты адказалі калегам, што так, з падазронымі асобамі Арман быў звязаны, але не па ўласнай ініцыятыве, а па іх заданні. Маўляў, «Арман быў нашым сакрэтным інфарматарам [*осведомителем*], і праз яго мы прапрацоўвалі Апалонаву і Стумбур, падазраваных намі ў шпіёнскай дзейнасці».

Што рабіў сакрэтны інфарматар? Збіраў кампрамат, пісаў справаздачы пра словы, намеры, паводзіны і атачэнне людзей, за якімі сачыў. Карацей, ствараў перадумовы для іх арышту. І са згаданай чэкістамі ў службовай перапісцы Ліліяй ▶

### Старэйшы брат

Біяграфія ў **Яна-Альфрэда Тылтыня** (1897–1942) не менш цікавая, чым у ягонага малодшага брата. Ён быў ветэранам Першай сусветнай, грамадзянскай і польска-савецкай войнаў. За подзвігі ў часе апошняй, здзейсненыя ў раёне Нясвіжа, Баранавіч і Ляхавіч падчас наступлення бальшавікоў на Варшаву летам 1920 года, ён быў двойчы ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Але паўгода пабыў і ў польскім палоне. У лютым 1921-га вызваліўся ў выніку абмену зняволенымі і распачаў паспяховую міжнародную кар’еру.
Выехаўшы ў 1922 годзе ў Парыж, у 1926 годзе Ян-Альфрэд Тылтынь скончыў там тры курсы політэхнічнага інстытута па авіяматорабудаўніцтве. Але вучоба была толькі прыкрыццём. На самай справе ўвесь гэты час ён быў нелегальным рэзідэнтам разведвальнага аддзела штаба Чырвонай арміі ў Францыі. Пасля была такая ж праца ў Германіі і ЗША. Якія дакладна заданні выконваў Тылтынь, сказаць цяжка, але відавочна спраўляўся з імі на выдатна, бо ў 1928 годзе быў узнагароджаны яшчэ адным ордэнам Чырвонага Сцяга.
Пасля вяртання ў СССР Тылтынь-старэйшы ненадоўга вярнуўся на адказныя пасады ў армію, і акурат тады кар’еры двух братоў перакрыжаваліся. Але з лютага 1936 года ён ізноў перайшоў у распараджэнне разведвальнага ўпраўлення Чырвонай арміі і ўжо заставаўся разведчыкам да самага арышту ў лістападзе 1937 года.
Як і брат, быў камандзіраваны на Грамадзянскую вайну ў Іспаніі, за дзейнасць падчас якой атрымаў найвышэйшую савецкую ўзнагароду — ордэн Леніна.

Апалонавай так і сталася. Неўзабаве яна была арыштаваная па агентурнай справе «Турыстка» па падазрэнні ў шпіянажы.

У працэсе следства Апалонава «прызналася», што нібыта была яшчэ ў 1928 годзе завербаваная сваім былым мужам Андрэем Міронавым, незадоўга да таго памерлым, для шпіёнскай працы на Польшчу і Германію. Па заданні Міронава жанчына, маўляў, і прыехала ў Бабруйск для правядзення шпіёнскай дзейнасці. І, «паводле паказанняў сведкі Героя Савецкага Саюза Армана, яна, жывучы ў вайсковым гарадку Кісялевічы, імкнулася заводзіць знаёмствы і цікавілася звесткамі ваеннай тайны». За што 28 студзеня 1938 года і атрымала ад *Особого совещания* (тады, ва ўмовах штампавання абвінаваўчых прысудаў, існаваў такі пазасудовы орган) 10 гадоў лагераў, якія неадкладна адправілася адбываць у Караганду.

### Сочыш ты, сочаць і за табой

Але самога Армана такое цеснае і плённае супрацоўніцтва з органамі не выратавала. Не тыя былі часы. Вельмі ж ужо прыдатная для абвінавачвання ў шпіянажы была ў яго біяграфія. Па-першае, нараджэнне ў Латвіі, якая ў той час была «буржуазнай». У 1930-я гады палякам, латышам, эстонцам, фінам, карэйцам і іншым народам, што мелі этнічную радзіму за межамі СССР, было асабліва нясоладка, бо іх часта праследавалі па адной толькі нацыянальнай прыкмеце. А ў выпадку Армана дадавалася яшчэ знаёмства з ужо арыштаванымі ўдзельнікамі «ваенна-фашысцкай змовы». Ды яшчэ доўгае знаходжанне за мяжой у Францыі, у Латвіі, у Іспаніі... Таму і за самім інфарматарам Арманам уважліва сачылі адразу некалькі іншых інфарматараў. У выніку асабісты ведалі пра ягонае жыццё практычна ўсё, пра што перыядычна дакладвалі свайму начальству. Не ратавала нават зорка Героя.

Інфарматар з мянушкай Талін у канцы лета 1937-га даносіў, што 28 жніўня Арман прыязджаў у Бабруйск, дзе «на працягу трох дзён п'янстваваў з начсаставам», у тым ліку і з такімі асобамі, над якімі ўжо вісела небяспека хуткага арышту. А там нібыта зусім не трымаў язык за зубамі. Так, у кампаніі трох жанчын і аднаго мужчыны «падчас выпіўкі... Арман цягам некалькіх гадзін расказваў і адказваў на пытанні прысутных жанчын пра падрабязнасці свайго знаходжання ў Іспаніі і пра дзеянні ўсіх асоб, якія адбылі туды ж з 4-й асобай мотамеханізаванай брыгадай. Размовы Армана, па наяўных у нас звестках, падслухоўваў адзін з вайскоўцаў, які знаходзіўся ў гэты час на вуліцы каля акна кватэры...».

**Размовы Армана падслухоўваў адзін з вайскоўцаў, які знаходзіўся ў гэты час на вуліцы каля акна кватэры**

А начальнік асобага аддзела Осіпаў дакладваў пра Армана намесніку наркама ўнутраных спраў БССР маёру Рыгору Хархорыну, выказваючы падазрэнне, што яго «нам падкінуў Убарэвіч», да таго часу ўжо расстраляны: «Яго

**Асобы аддзел**

назва вайсковай контрразведкі ВЧК – ГПУ – ОГПУ – НКВД – КГБ СССР. Пачынаючы з 1918 года асобыя аддзелы ствараліся пры вайсковых частках усіх узроўняў. Асабліва вялікую і злавесную ролю яны адыгрывалі ў часы кіравання Сталіна. Савецкі дыктатар баяўся нават гіпатэтычнай магчымасці змовы вайскоўцаў, таму намагаўся максімальна кантраляваць кожнага з іх. І асобыя аддзелы пры ім мелі такую ўладу, што часта проста падмянялі сабой як вайсковае, так і палітычнае камандаванне. Яны імкнуліся ўплываць на ўсе сферы жыцця і дзейнасці свайго падраздзялення: кантралявалі баявую і палітычную падрыхтоўку, сачылі за ўсімі камандзірамі, палітработнікамі і вольнанаёмнымі службоўцамі, адсочвалі стан медыцыны, харчавання, пажарнай бяспекі, стан узбраення і боепрыпасаў, вайсковае будаўніцтва і да т. п.
Адным з пастаянных клопатаў асобых аддзелаў была і праца «по окружению», гэта значыць кантроль над цывільнымі асобамі населеных пунктаў, у якіх знаходзіліся часці. Нярэдка начальнік асобага аддзела буйной вайсковай часці адначасова быў і начальнікам раённага ці гарадскога аддзялення Упраўлення дзяржаўнай бяспекі НКВД адпаведнай мясцовасці.
У гады Вялікага тэрору менавіта асобыя аддзелы з'яўляліся тым схаваным механізмам, які, па сутнасці, і кіраваў арміяй на ўсіх узроўнях. Адбывалася гэта перш за ўсё паводле вядомага сталінскага прынцыпу: «Кадры вырашаюць усё». Асабісты вялі на ўсіх вайскоўцаў улікова-праверачныя справы, у якія сцякаліся біяграфічныя ўстановачныя звесткі і, вядома, матэрыялы кампраметацыйнага характару. Таму асабістаў вельмі баяліся і асцерагаліся ўступаць з імі ў канфлікты.

выклікалі разоў з пяць у Маскву, і, вядома, не проста так, відаць, па справах, звязаных з яго прыналежнасцю ды ўдзелам у шпіёнскай дзейнасці... Цяпер ён нічога не робіць, брыгадай не кіруе, па двое-трое сутак не з'яўляецца. У апошні час па 3 дні п'янстваваў з прастытуткамі. Бярэ машыны: на адну — закуску, на другую — гарэлку, на трэцюю — прастытутак — саджае і возіць».

Цяжка сказаць, колькі ва ўсім гэтым праўды: на слова чэкістам у тыя часы верыць яўна не выпадала. Але цалкам магчыма, што Поль Арман, добра знаёмы з савецкай сістэмай з сярэдзіны, да таго часу ўсвядоміў непазбежнасць будучага арышту і такім чынам проста здымаў стрэс.

Урэшце непазбежнае адбылося. У большасці артыкулаў пішацца, што Армана арыштавалі 2 лютага 1937-га, іншыя кажуць, што арышт быў 5 лютага — ледзь не на наступны дзень пасля нарады ў Крамлі, падчас якой кіраўніцтва СССР разам з удзельнікамі баёў у Іспаніі абмяркоўвалі пытанні абароны, а Арман рабіў даклад. Але ў такім разе ён не мог бы ў жніўні і верасні 1937 года наведваць Бабруйск, як сведчаць чэкісцкія дакументы. Таму калі арыштавалі яго ўсё ж у лютым, то гэта магло быць толькі ў 1938 годзе. А незадоўга да гэтага, 27 лістапада 1937-га, быў арыштаваны і ягоны брат.

**«Ён нічога не робіць. Па тры дні п'янстваваў з прастытуткамі»**

### «За недаказанасцю абвінавачання»

Але для таго часу Полю Арману пашанцавала: ён правёў у турме адносна непрацяглы час і ў чэрвені 1939 года быў вызвалены. Вызваленне было дзіўным: справа спынялася пастановай Асобай нарады пры НКВД СССР «за недаказанасцю абвінавачання». Дзіўнае тут тое, што кожны, хто хоць бы павярхоўна знаёмы з гісторыяй СССР 1930-х гадоў, выдатна ведае: нават каб паслаць чалавека на смерць, нічога даказваць тады не было патрэбна, хапала аднаго жадання. Не выпадае сумнявацца, што для героя-танкіста чэкісты адвялі ў сваіх далейшых планах нейкую ролю, і ён пагадзіўся яе іграць.

Тым больш што цуды на гэтым не скончыліся: Армана не толькі аднавілі ў ранейшым званні, але і тут жа, у верасні 1939 года, накіравалі на вучобу ў Маскву, у Вайсковую акадэмію імя Фрунзэ. Пасля заканчэння акадэміі ў маі 1941-га ён быў прызначаны намеснікам камандзіра 51-й танкавай дывізіі.

А ўжо праз месяц пачалася вайна, якая заўсёды дае рэзкі штуршок кар'ерам здольных вайскоўцаў. За два гады Поль Арман дарос да камандуючага танкавай брыгадай (гэта каля паўсотні танкаў), атрымаў званне палкоўніка. А 9 жніўня 1943-га быў узнагароджаны прэстыжным ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Але ўжо пасмяротна.

Загінуў ён за два дні да таго — 7 жніўня на Волхаўскім фронце, каля сяла Парэчча Ленінградскай вобласці. У артыкулах пішуць, што ад кулі снайпера, але ва ўзнагародным лісце абставіны смерці іншыя. Паводле яго, Арман «у цяжкой абстаноўцы бою асабіста выехаў на танку ў баявыя парадкі часцей для пастаноўкі баявых задач пяхоце, якая дзейнічала сумесна. Выйшаўшы з танка, быў забіты кулямётным агнём праціўніка».

У кожным разе смерць Армана, прынамсі, была не бессэнсоўная. Бо не менш гераічны брат Поля Ян-Альфрэд Тылтынь увогуле так і не атрымаў магчымасці выкупіць сваю ўяўную віну крывёю і памёр 6 снежня 1942 года ў лагеры. ◆



Савецкі танк Т-26 у музеі іспанскага горада Валенсія. **На такім ваяваў у Іспаніі Поль Арман.**

WIKIMEDIA COMMONS

# Быў Цькуй, стаў Вольскі

## Як беларусы змянялі свае прозвішчы ў 1920-я

**Пра тое, як беларусы скарысталіся з аднаго бальшавіцкага дэкрэта, піша Таццяна Агеенка, навуковая супрацоўніца Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.**



KP.BY

З прыходам бальшавікоў да ўлады грамадзяне атрымалі магчымасць памяняць свае прозвішчы і імёны. Гэта права замацаваў дэкрэт СНК РСФСР ад 4 сакавіка 1918 года «Аб праве грамадзян змяняць свае прозвішчы і мянушкі». А працэдура была нескладаная. Для змены патрабавалася звярнуцца па месцы свайго жыхарства да загадчыка аддзела запісаў грамадзянскага стану і асабіста прадставіць пісьмовую заяву. Да яе прыкласці дакументы, якія сведчаць асобу (метрычную выпіску аб нараджэнні ці завераную яе копію), пасведчанне ад бюро юстыцыі аб несудзімасці, для жанатых мужчын — згоду жонкі на змену прозвішча. Да ўсяго гэтага трэба было аплаціць гербавы збор.

У Беларусі звесткі аб змене прозвішчаў друкаваліся ва ўрадавай газеце — «Весткі ЦВК БССР». Пасля заканчэння двухмесячнага тэрміну з часу апублікавання чалавек меў права на ўнясенне гэтай змены ва ўсе акты грамадзянскага стану.

### «Перажыткі даўніны»

Пасля выдання дэкрэта вялікая колькасць грамадзян не прамінула ім скарыстацца, у тым ліку і ў Беларусі. Гарбуз жадаў стаць Віленстовічам, Барыня — Камаровым, Клоп — Малежыкам, Кот — Рамашовым, Казадоеў — Смірновым, Касабрухаў — Дарскім. Прычым у заявах можна сустрэць абгрунтаванні перамены прозвішча. Напрыклад: «Лічачы сваё прозвішча Куцелай зусім не мілагучным, якое абражае чалавечы гонар і з'яўляецца перажыткам цёмнай даўніны, прашу аб яго перамене і прысваенні мне прозвішча Ленскі». Ці яшчэ: «Прычын не ўказваю, бо кожнаму зразумела, што насіць такое прозвішча, як Песляк, не асабліва прывабна». І Песляк прасіў афіцыйна зрабіцца Дняпровым.

У студзені 1922-га ў ЦэнтраЗАГС паступіла заява ад курсанта тэарэтычнай школы авіяцыі рабоча-сялянскага ваенна-паветранага флоту РСФСР Уладзіміра Іванавіча Заіанчкоўскага, які пісаў: «Быўшы запісаны пры хрышчэнні па метрычных кнігах і кнігах дэпартамента Герольдыі ўрадавага сената пад імем, імем па бацьку і прозвішчам Уладзімірам Іванавічам Заіанчкоўскім з прысваеннем правоў асабістага ганаровага грамадзянства, я хадайнічаю аб перамене майго прозвішча, адмаўляючыся ад усіх прысвоеных мне правоў. Прашу даць мне права насіць прозвішча майго бацькі Міхаіла Аляксандравіча Дняпрова і называцца Уладзімірам

Міхайлавічам Дняпровым. Прычыны, якія мяне паклікалі звярнуцца з вышэйазначаным хадайніцтвам, наступныя: 1. Ідэалагічнае і палітычнае разыходжанне з поглядамі асоб, якія давалі мне прозвішча Заіанчкоўскага — я па перакананнях камуніст. 2. Будучы з малых гадоў з бацькам маім М. А. Дняпровым і сыходзячыся з ім у перакананнях, жадаючы звязаць усё сваё жыццё з ім, не ўдаючыся ва ўсе сямейныя і юрыдычныя прычыны і падрабязнасці, якія папярэднічалі таму, што мне прысвоена прозвішча Заіанчкоўскі з усімі правамі, — я прашу аб перамене яго на сапраўды жаданае мне прозвішча Дняпрова».

### Мянялі панскія мянушкі

Лявонцій Сямёнаў Халаем прасіў перамяніць прозвішча на Вінаградаў. Ён пісаў: «Не жадаючы мець старое прозвішча, бо яно дадзена маім прадзедам памешчыкам-прыгоннікам у насмешку».

Такія сведчанні пра наданне памешчыкамі прозвішчаў сваім прыгонным у заявах-- сустракаюцца не раз.

Вось, напрыклад, ліст ад жыхара пасёлка Бродаўка Кішчына-Слабадской воласці Барысаўскага павета Мінскай губерні Міхаіла Міхайлава Жука і яго сваякоў: «Наш дзядуля Фама Ігнацьеў іменаваўся па прозвішчы Ажахоўскі, але, будучы чалавекам бедным, але не прыгонным, трымаў надзел зямлі ў арэндзе ад памешчыка Асвяцімскага, які запатрабаваў ад яго дакументы і знічтожыў іх, прыпісаў яго да прыгонных і перайменаваў прозвішча патомнае Ажэхоўскі на прозвішча Жук. З прычыны немілагучнасці цяперашняга нашага прозвішча і жаданнем мець сваё патомнае прозвішча мы просім перайменаваць наша прозвішча Жук на наша патомнае прозвішча Ажахоўскі».

Таксама сустракаліся і такія выпадкі, калі пераменай прозвішча жадалі засведчыць уступленне ў роднасныя адносіны. «З прычыны беднага стану майго бацькі, які мае чатыры дзесяціны зямлі з усякай няўдобнай і пяць душ сямейства, я з 1918 года пражываў у грамадзяніна ... Пятра Самуілава Савіча ў якасці сына, у якога я застаюся і на пастаяннае месца жыхарства. Па-гэтаму прашу... перапісаць маё прозвішча, г. зн. замест Малага даць прозвішча Савіч».

### Псеўданімы замест прозвішчаў

Нароўні з простымі жыхарамі Беларусі змянялі прозвішчы і вядомыя людзі. Так, напрыклад, акцёр, рэжысёр, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатральнага мастацтва Еўсцігней Афінагенавіч Радыёнаў-Дунаеў у снежні 1923-га звярнуўся ў ЦэнтраЗАГС. Ён пісаў: «Прашу змяніць маё прозвішча Радыёнаў-Дунаеў на прозвішча Дунаеў-Міровіч, якім я карыстаюся як літаратурным псеўданімам на працягу 18 гадоў».

У лютым 1924-га з заявай аб перамене прозвішча звярнуўся савецкі военачальнік, удзельнік грамадзянскай вайны Бжышкянц Гая Дзмітрыевіч, які пісаў: «Пад псеўданімам Гай я вядомы ва ўсёй гісторыі грамадзянскай вайны і прысвоіў яго з пачатку рэвалюцыі, але да гэтага часу не правёў афіцыйнага афармлення ў перамене прозвішча».

### Бедны студэнт Цькуй

Паслуга па змене прозвішча каштавала грошай, але калі чалавек не мог заплаціць, у некаторых выпадках гэта можна было зрабіць бясплатна. Некаторыя гэтым яўна злоўжывалі. Так, напрыклад, грамадзянін Цькуй да сваёй заявы прыклаў пастанову народнага суддзі 1-га ўчастка горада Мінска, у якой пацвярджалася неплацежаздольнасць да ўплаты належных збораў ЗАГСа. У пастанове адзначалася: «Гр. Цькуй Іван як бежанец закардоннік ... у цяперашні час з'яўляецца студэнтам БДУ, знаходзіцца на біржы працы беспрацоўных, дапамогу не атрымлівае, маёмасці не мае, пабочных заробкаў таксама і жыве на стыпендыю». Гэта дало магчымасць Цькую змяніць прозвішча некалькі разоў на працягу кастрычніка–снежня 1924 года. Першапачаткова ён звярнуўся з просьбай стаць Вольскім, але 11 снежня, узяўшы шлюб з грамадзянкай Гусарэнка А. С., прыняў яе прозвішча. А ўжо 21 снежня яны абое звярнуліся ў ЦэнтраЗАГС, каб змяніць прозвішча Гусарэнка на Вольскага і Вольскую.

Сустракаліся і тыя, хто прагнуў перамены ўсяго імя. Напрыклад, Ліўшыц Хаім-Шлёма Янкелеў стаў Лявіцкім Саламонам Якаўлевічам. Альбо яшчэ варыянт, датаваны ліпенем 1923-га: «Жадаючы перамяніць сваю габрэйскую рэлігію на праваслаўную, я маю намер прыняць хрышчэнне і змяніць імя замест Беньяміна — Вікенцій Мікалаевіч і прозвішча замест Рысіна — на Русаковіча».

З усталяваннем таталітарнай сістэмы ў СССР свабода перамены прозвішчаў скончылася, хоць фармальна дэкрэт працягваў дзейнічаць. Але для атрымання дазволу неабходна было ўжо прадставіць сапраўды важкія аргументы. ◆

# Вершнік

## Каго намаляваў Рэмбрант?

**Гэтая карціна неаднойчы нараджала сенсацыі ў мастацтвазнаўчым свеце. Не разгаданыя ўсе яе таямніцы і цяпер, піша Надзея Вусава.**

«Лісоўчык» — так першым назваў карціну кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, калі ў 1793 годзе атрымаў яе ад вялікага гетмана літоўскага Міхала Казіміра Агінскага (пра асабісты партрэт гэтага чалавека аўтарства Ганны-Разіны Лісеўскай быў артыкул у № 2/2020 «Нашай гісторыі»).

Міхал Казімір набыў карціну ў Нідэрландах праз 150 гадоў пасля смерці Рэмбранта.

**Лісоўчыкамі**
ці «казакамі», на пачатку XVII стагоддзя называлі жаўнераў палка Аляксандра Лісоўскага — лятучай лёгкай кавалерыі казацка-татарскага тыпу, якія карміліся за кошт трафеяў. Таму лісоўчыкі праславіліся не толькі як адважныя ваяры, але і як марадзёры. На іх сумленні шматлікія рабаванні, гвалт і бязлітасныя забойствы, у тым ліку і сярод мірнага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага.
У гэтых войсках ваявала польская і беларуская шляхта, украінцы, нават татары з чаркесамі.
Войска ўтварылася падчас маскоўскіх войнаў, але таксама ўдзельнічала ў некаторых кампаніях Трыццацігадовай вайны.

Вось такі ліст быў знойдзены ў архіве Станіслава Аўгуста Панятоўскага:

«Пане, я пасылаю Вашай Вялікасці “Казака”, якога пасадзіў Рэмбрант на каня. Гэты конь з’еў падчас свайго знаходжання ў мяне 420 нямецкіх гульдэнаў. Справядлівасць і шчодрасць Вашай Вялікасці дазваляе мне чакаць, што апельсінавыя дрэвы будуць квітнець у той жа прапорцыі. Кланяюся ў ногі, Ваша Вялікасць. Майго лорда самы сціплы слуга, Міхал Агінскі, вялікі літоўскі гетман».

Кароль быў заядлым калекцыянерам, марыў аб стварэнні ўласнай галерэі і меў у сваім палацы яшчэ двух Рэмбрантаў. За трэцяга Міхал Казімір Агінскі заплаціў фактычна 1,5 кг чыстага золата. Але гэта быў не падарунак, а бартар. Вялікі гетман у абмен на даражэзную карціну атрымаў некалькі апельсінавых дрэўцаў для сваёй рэзідэнцыі ў Слоніме.

### З рук у рукі

Станіслаў Панятоўскі цешыўся «трэцім Рэмбрантам» нядоўга. У 1795 годзе Рэч Паспалітая знікла з карты Еўропы, і апошні кароль пасля адрачэння пераехаў у Гродна, а ў 1798 годзе памёр у Санкт-Пецярбургу (пра гродзенскі перыяд яго біяграфіі гл. артыкул Наталлі Васілюк у № 8/2019 «Нашай гісторыі»). ▶



Футравая шапка пад назвай «кучма» часта сустракалася ў Польшчы, Беларусі і Украіне, радзей — у Венгрыі. Ад яе пайшло і прозвішча Кучма, якое носіць экс-прэзідэнт Украіны.

«Лісоўчык» апрануты ў тыповую вопратку шляхціца — жупан. Менавіта ўбранне і збруя каня вершніка дазволілі канчаткова «прыпісаць» яго да Рэчы Паспалітай, а не Венгрыі.

Прыхільнікі версіі, што на карціне намаляваны Марцыян Агінскі, прыцягваюць у якасці доказу і самую незавершаную дэталь партрэта — каня. Ён ідэнтычны белым коням на «Пагонях» — герой можа паходзіць з Вялікага Княства. Да таго ж на гербе сям’і Агінскіх таксама вершнік: фігура святога Георгія, які забівае цмока.

Таямнічае асвятленне, бравурная эмацыйнасць, колеры і ўражанне незавершанасці карціны — усё гэта характэрна для Рэмбранта позняга перыяду. «Карціна завершаная тады, калі мастак паведаміў у ёй усё, што задумваў», — казаў маэстра сваім вучням.

Герой партрэта — малады шляхціц 18–25 гадоў. Гэта ўсё, што пра яго можна сказаць дакладна. Невядома нават, маляваў Рэмбрант героя з канкрэтнага чалавека ці яму пазіравала мадэль у прывезенай з Рэчы Паспалітай вопратцы.

Па адной з версій, агонь на карціне намякае на прозвішча Агінскі, які нібыта быў героем партрэта.

**Рэмбрант ван Рэйн. Вершнік.** 1655 год. Збор Генры Фрыка, Нью-Ёрк.

▶ Частка каралеўскай калекцыі мастацтваў дасталася яго пляменніцы і спадчынніцы, графіні Тэрэзе Тышкевіч, якая праз 10 гадоў вырашыла яе прадаць.

У 1810-м графіня Валерыя Тарноўская, народжаная Страйноўская, выказала жаданне купіць партрэт «Лісоўчыка», бо ў палку Лісоўскага служыў яе далёкі сваяк, палкоўнік Станіслаў Страйноўскі. Яна паразмаўляла з дзядзькам, віленскім каталіцкім біскупам Геранімам Страйноўскім, і ўгаварыла яго набыць меркаваны партрэт іх продка за 500 дукатаў.

Пасля заўчаснай смерці біскупа ў 1815 годзе «Лісоўчыка» атрымаў у спадчыну бацька Валерыі, сенатар Валяр'ян Страйноўскі. Карціна пераехала з Вільні на Валынь, дзе ён меў маёнткі. А пасля смерці сенатара ў 1834 годзе «Лісоўчык» быў перавезены праз аўстрыйскую мяжу ў Галіцыю, у рэзідэнцыю Валерыі Страйноўскай і яе мужа Яна Фелікса Тарноўскага. Там у жаночай гасцёўні ён заставаўся да 1910 года.

Спадкаемца Валерыі і Яна Фелікса, граф Ян Здзіслаў Тарноўскі, захацеў прадаць карціну, каб набыць выстаўленыя на продаж вялікія лясы побач з яго замкам. Ён адправіў карціну ў Вену на рэстаўрацыю, дзе яна ўпершыню і прыцягнула ўвагу еўрапейскіх экспертаў, якія звярнулі ўвагу на рэшткі подпісу Рэмбранта «Рэм...» унізе карціны.

## Карціна-сенсацыя

Гісторык мастацтва з Берліна Вільгельм Бадэ, эксперт па творчасці Рэмбранта, без усялякіх сумневаў пазнаў пэндзаль позняга Рэмбранта (ён назваў нават прыблізны год работы – 1655-ы). Бадэ запрасіў на кансіліум яшчэ і сваіх калег: нідэрландскага вучонага Абрахама Брэдыуса і польскага гісторыка мастацтва Ежы Майцэльскага, стрыечнага брата Тарноўскіх. Брэдыус быў вельмі ўражаны, і любыя сумненні імгнення зніклі. «Толькі адзін погляд на гэта, — пісаў ён, — некалькі секунд вывучэння тэхнікі было дастаткова, каб адразу пераканаць мяне, што тут, у гэтай аддаленай правінцыі, знаходзіцца адзін з найвялікшых шэдэўраў Рэмбранта».

У 1888 годзе карціну выставілі ў Амстэрдаме. Паколькі для заходніх экспертаў назва «Лісоўчык» нічога не казала, то твор атрымаў назву «Польскі вершнік». Карціна імгнення стала сенсацыяй для сусветнага мастацтва.

## Продаж карціны ў ЗША

Між тым граф Тарноўскі не адмовіўся ад ідэі прадаць карціну. Ведаючы, што продаж нацыянальнага скарбу Рэчы Паспалітай за мяжу выклікаў бы негатыўную рэакцыю, граф паспрабаваў захаваць справу ў сакрэце і замовіў для свайго замка копію. А арыгінал прадаў у Нью-Ёрк.

Купцом стаў Генры Клей Фрык — металургічны, вугальны і чыгуначны магнат, «разбойніцкі барон», вядомы бязлітаснай расправай над працоўнымі падчас забастоўкі. У Нью-Ёрку ў спецыяльна пабудаваным будынку ён размясціў сваю вытанчаную калекцыю твораў старажытных еўрапейскіх майстроў. Фрык заплаціў Тарноўскаму 60 000 англійскіх фунтаў стэрлінгаў, ці каля 300 000 долараў — велізарную для 1910-х гадоў суму.

Навіна пра продаж імгнення трапіла ў прэсу Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Грамадскасць абуралася і аплаквала страту шэдэўра. Крытычныя галасы змоўклі толькі ў 1927 годзе, калі пажар у замку Тарноўскага знішчыў частку сямейнай мастацкай калекцыі, у тым ліку копію Рэмбранта. Калі б арыгінальны «Лісоўчык» застаўся дома, магчыма, ён таксама не ацалеў бы.

Пасля смерці Фрыка ў 1919 годзе, у адпаведнасці з яго воляй, ягоны дом на скрыжаванні Пятай авеню і 70-й вуліцы стаў музеем, які адчыніў свае дзверы для публікі ў 1930-я, і «Лісоўчык» стаў экспанатам, бясплатна даступным для ўсіх, хто хацеў яго бачыць.

## Загадкавы вершнік

Адразу пасля адкрыцця карціны на пачатку XX стагоддзя пачаліся спрэчкі аб асобе вершніка Рэмбранта. Хто ён такі?

У вершніку бачылі Тамерлана, крыжака, «Польскага рыцара» (польскага пратэстанта з Амстэрдама Еназа Шліхтынга, які так падпісаў свой памфлет у абарону рэлігійнай талерантнасці), біблійнага Давіда, блуднага сына, маладога Івана Мазепу, гетмана Багдана Хмяльніцкага...

Польскія навукоўцы вымушаныя былі з жалем прызнаць, што «Вершнік» не можа быць лісоўчыкам, бо яны зніклі ўжо ў 1630-я і Рэмбрант не мог іх бачыць.

Многія навукоўцы не прызнавалі «польскасці» вершніка, бо жаўнеры з Рэчы Паспалітай насілі вусы. Меркавалі, што гэта венгерскі ваяр. Але было даказана, што вершнік усё ж апрануты ў касцюм Рэчы Паспалітай. Больш за

тое, стандартны хвост каня быў тыповым бунчуком, прынятым у нас пад турэцкім уплывам.

Была прапанова змяніць назву на больш дакладную — «Вершнік у адзенні часоў Рэчы Паспалітай», бо гэта мог быць не толькі паляк, але юнак любога народа з Рэчы Паспалітай: літвін, казак, нават татарын.

## Рэмбрант і яго Рэч Паспалітая

І толькі тады звярнуліся да сувязяў Рэмбранта з Рэччу Паспалітай. Высветлілася, што яны былі, і даволі моцныя!

Жонка Рэмбранта, каханая ім Саскія, была пляменніцай Генрыка ван Уйленбурга, мастацкага дылера міжнароднага значэння, які прасоўваў творы Рэмбранта на міжнародны рынак. Уйленбург правёў дзяцінства і маладыя гады ў Кракаве, а да 1620 года дзейнічаў як агент караля Рэчы Паспалітай па закупе твораў мастацтва для каралеўскай калекцыі. Ён мог набыць касцюм для «Вершніка», каб дапамагчы сваяку прадаць ягоны твор свайму каранаванаму кліенту.

Па-другое, мужам сястры Рэмбранта быў паляк Ян Макоўскі, які выкладаў тэалогію і філасофію ва ўніверсітэце, дзе вучыліся студэнты з Рэчы Паспалітай, у прыватнасці некаторыя з Агінскіх, якіх было па меншай меры пяцёра: Багдан і Аляксандр, Марцыян, Ян і Шыман-Караль. Той факт, што карціна апынулася праз 150 гадоў у гэтай сям'і, некаторыя лічылі невыпадковым.

## Няўжо Агінскі?

Найбольш прыдатным кандыдатам на партрэтаванне быў 18-гадовы Марцыян Аляксандр Агінскі (1632–1690) з шаноўнай сям'і беларускага паходжання, з землямі ў Смаленскай вобласці і радаводам, які працягнуўся аж да Старажытнай Русі. Яго намаляваў вучань Рэмбранта Фердынанд Боль, і вершнік Рэмбранта мае дзіўнае падабенства да яго.

Марцыян вучыўся ў Вільні і Кракаве, перш чым выправіцца ў Галандыю. Быў залічаны ва Універсітэт Лейдэна ў 1650 годзе, але неўзабаве аб'явіўся ў Рэчы Паспалітай і паступіў на вайсковую службу. У 1684 годзе ён стаў вялікім канцлерам ВКЛ. Ідэнтыфікацыя з Марцыянам Агінскім была для многіх пераканаўчай, але выклікала скепсіс у навукоўцаў, якія вывучалі творчасць мэтра. Чаму Рэмбрант не назваў Агінскага пэўным імем? Чаму ён апрануты не як магнат? Чаму, нарэшце, у XVIII стагоддзі вялікі гетман літоўскі Міхал Казімір Агінскі, які набыў карціну з выявай свайго далёкага продка, з лёгкасцю абмяняў яе на экзатычныя расліны?

Загадкавы «Вершнік» дасюль захоўвае сваю інтрыгу і не дае спакою інтэрпрэтатарам.

## Рукі прэч ад «Вершніка»!

У 1968 годзе распачаўся даследчы праект «Рэмбрант», галоўнай задачай якога было складанне каталога-рэзанэ палотнаў, якія несумненна належаць пэндзлю галандскага генія. У 1984-м адзін з членаў даследчага праекта выказаў здагадку, што аўтарам «Вершніка» мог быць не Рэмбрант, а яго таленавіты вучань Вілем Дрост.

Але галерэя Фрыка адмовілася змяніць аўтарства ў сваіх каталогах. «Рукі прэч ад "Вершніка!"» — пад такімі назвамі выходзілі артыкулы ў амерыканскай прэсе. «Гэта падобна да спробаў даказаць, што Гамлет быў напісаны кімсьці, акрамя Уільяма Шэкспіра... Пакуль такі фантомны аўтар не з'явіцца, уявіць сабе Рэмбранта без "Вершніка" — усё роўна як спрабаваць уявіць Вагнера без "Парсіфаля"».

Пратэсты нью-ёркцаў паспрыялі таму, што новая атрыбуцыя не знайшла шмат прыхільнікаў, і сёння больш пераканаўчай здаецца версія групы рэмбрантазнаўцаў, што «Вершніка», безумоўна, напісаў сам майстар, але гэта незакончаны твор. Эфект нясконачнасці наогул уяўляецца яго найважнейшай асаблівасцю: магчыма, дзякуючы яму карціну атачае атмасфера таямнічасці.

## Другое пакаленне «лісоўчыкаў»

Уплыў Рэмбрантавага «Вершніка» быў настолькі вялікі, што на пачатку XIX стагоддзя тут яшчэ хадзілі пра яго легенды. Уладзіслаў Сыракомля ў 1853 годзе ў сваіх «Вандроўках па маіх былых ваколіцах» запісваў пад Нясвіжам версію, што карціну Рэмбранта набываў Радзівіл.

А ўжо польскі рамантычны батальны жывапіс выйшаў з «Лісоўчыка», як руская літаратура з гогалеўскага «Шыняля». Мастакі коней і батальных сцэнаў XIX стагоддзя Юліюш Косак і Юзаф Брант, Міхал Плонскі, Аляксандр Арлоўскі, здаецца, трапілі пад магутны гіпноз знакамітага палатна. Але ніхто з іх не мог параўнацца з вечна загадкавым і дзівосным Рэмбрантам. Таямнічая, рамантычная фігура маладога вершніка паступова ператварылася ў народнай свядомасці ў патрыятычны сімвал барацьбіта за свабоду Радзімы. ◆

# Жыццё да Мінд

## Як выглядала ранняя

**Хто жыў у сярэднявечных літоўскіх гарадах і як гэтыя гарады выглядалі, расказвае кандыдат гістарычных навук Алег Дзярновіч.**

Звычайныя беларускія ўяўленні пра Літву X–XIII стагоддзяў даволі схематычныя. Гэты край паўстае напаўдзікай пушчай, заселенай рэдкім балцкім насельніцтвам. Тая Літва не мела гарадоў, а яе насельнікі не ведалі пісьмовай культуры і наогул значна саступалі па ўзроўні свайго цывілізацыйнага развіцця суседнім Русі і Польшчы. Але ж менавіта з Літвы ўжо ў XIII стагоддзі ішлі імпульсы новага дзяржаваўтварэння — у той час, калі ўвесь рэгіён Усходняй Еўропы перажываў глыбокі крызіс.

У многім прычына няцэльнасці карціны крыецца ў малой колькасці пісьмовых крыніц пра раннюю Літву. Яны не дазваляюць рэканструяваць яе гісторыю X–XII стагоддзяў нават у агульных рысах, за выняткам асобных згадак пра паходы на Літву суседзяў і паходы самой Літвы. Звесткі для аналізу дае перадусім археалогія. Ці змогуць археалагічныя помнікі, размешчаныя на абшарах *Lithuania propria* — «уласна Літвы» ці «Літвы

оўга
Літва

SHUTTERSTOCK.COM, BY DAIVA KIS

ў вузкім сэнсе», — распавесці нам пра этнакультурныя адметнасці гэтага краю?

### Крэва

Паселішча Крэва ў XII–XIII стагоддзях знаходзілася на ўсходзе старажытнай Літвы. Праз 10 км, у Лоску, стаяў ужо памежны замак Полацкай зямлі — адзін з самых паўночна-заходніх фарпостаў крывічоў. Лакалізаваць старажытнае Крэва навукоўцам удалося літаральна цягам апошніх пяці гадоў. Крэўскае гарадзішча знаходзіцца за два кіламетры ад замка, па Смаргонскім шляху, у межах сённяшняга разлеглага мястэчка Крэва. Нядаўнія археалагічныя раскопкі паказалі, што пласт на гарадзішчы ўтрымлівае артэфакты X–XIII стагоддзяў і адносіцца да перыяду гісторыі Літвы «да Міндоўга».

Не выклікае сумневаў, што ў Сярэднявеччы Крэва было заселенае балтамоўным паганскім насельніцтвам. Таму найбольш чаканым было б выяўленне на Крэўскім гарадзішчы адпаведных знаходак. Але выяўленыя крэўскія матэрыялы цалкам адпавядаюць матэрыяльнай культуры гарадоў Усходняй Еўропы, ці, іншымі словамі, Старажытнай Русі. Паводле цэлага комплексу артэфактаў — ад традыцыйнай ганчарнай керамікі да шкляных бранзалетаў — мы можам казаць пра сталую прысутнасць на Крэўскім гарадзішчы ў XI–XIII стагоддзях усходнеславянскага насельніцтва, а не проста пра гандлёвыя сувязі карэнных балтаў з русінамі.

Да прыкладу, фрагменты шкляных бранзалетаў рознага колеру сустракаюцца практычна ва ўсіх гарадах Усходняй Еўропы ў пластах гэтага перыяду. Несумненна, яны былі ўлюбёным упрыгожаннем гараджанак. Археолагі спачатку лічылі шкляныя бранзалеты візантыйскім імпартам. Сапраўды, у Візантыі такіх бранзалетаў вядома шмат, а асноўны цэнтр іх вытворчасці знаходзіўся ў Сірыі. Цяпер жа даведзена, што такія ўпрыгожанні выраблялiся і бліжэй — як мінімум у Кіеве, дзе дзейнічаў буйны цэнтр вытворчасці гэтага папулярнага тавару.

Пасля таго, як мангола-татары разгрexamілі Кіеў у 1240 годзе, вытворчасць спынілася. Крохкія бранзалеты, якія праз нейкі час ламаліся на руках дзяўчат, паступова знікаюць у культурных пластах гарадоў Усходняй Еўропы. Таму гэтыя элементы жаночых упрыгожанняў — вельмі добры храналагічны маркер, перыяд іх распаўсюджання ▶

не сягае далей за сярэдзіну XIII стагоддзя. Увогуле, спецыялістамі даўно заўважана, што этнавызначальныя прыкметы ў раннім Сярэднявеччы маюць найперш жаночыя ўпрыгожанні. Мужчынскія ўборы больш кансерватыўныя і аднастайныя.



**Крыж-энкалпіён** гальшанскага дружынніка, 30-я гады XIII стагоддзя (раскопкі Паўла Кенькі).

### Гальшаны

У блізкіх ад Крэва Гальшанах мы таксама маем археалагічны комплекс гарадзішча з селішчам, матэрыяльная культура якога падобная да крэўскіх знаходак і шырэй — да культуры гарадоў Усходняй Еўропы.

Праўда, у Гальшанах шмат фрагментаў ляпной керамікі. Здавалася б, гэта толькі дэталь. Але варта памятаць, што ўсходнія балты яшчэ доўга карысталіся пераважна ляпной керамікай, найбольш архаічнай у плане тэхналогіі вырабу. Ганчарную кераміку (начынні, вырабленыя на ганчарным крузе) прынеслі ў наш рэгіён Еўропы славяне, якія пад ціскам аварскіх плямёнаў пачалі рассяляцца з Панoніі* ўжо з навыкамі ганчарства.

На Гальшанскім гарадзішчы мы знаходзім таксама сляды ваенных падзей канца X — першай паловы XI стагоддзяў, якія можна суаднесці з выправамі кіеўскіх князёў Уладзіміра Святаславіча і Яраслава Мудрага на літву і яцвягаў. У гэты перыяд Гальшанскае гарадзішча было спалена, пра што сведчыць вялікі пласт вуголля на месцы драўляных сцен.

Даследаванні археалагічнага комплексу дазваляюць сцвярджаць, што ў Гальшанах таксама жыло змяшанае балта-славянскае насельніцтва. Тры курганныя групы, размешчаныя непасрэдна каля гарадзішча, датуюцца X—XII стагоддзямі і ўяўляюць сабой унікальны сімбіёз славянскіх і балцкіх пахаванняў. Славянскі пахавальны абрад прадстаўлены пахаваннямі з трупапакладаннямі, але ў іх прысутнічае і балцкі элемент — каменная кальцавая выбрукоўка альбо абкладка насыпу каменнямі. Сінхронныя ўласна балцкія пахаванні выкананыя паводле абраду крэмацыі, і гэта пахаванні вайскоўцаў.

## У Крэве і Гальшанах жыло змяшанае балта-славянскае насельніцтва

Генеалагічныя легенды XVI стагоддзя звязваюць Гальшаны з паходжаннем старажытнай літоўскай дынастыі Кітаўрасаў, адхіленай ад улады новай дынастыяй Віценя і Гедыміна. У цэнтры гэтай легенды знаходзіцца паданне пра Гольшу, які заснаваў замак у Гальшанах. Паданне паўтараецца амаль у нязменным выглядзе ў розных рэдакцыях беларуска-літоўскіх летапісаў. Паводле Летапісу Красінскага, «Гольшыс перайшоў раку Віллю і знайшоў прыгожую гару сярод іншых гор над ракой Вільняй за мілю ад вусця ракі Вільні, дзе ўпадае ў раку Віллю, насупраць Раканцішак, і заклаў горад, і назваў сваім імем, Гальшаны». Такім чынам, першыя Гальшаны паўсталі на Раканцішскім гарадзішчы ў Вільні.

Але далей, «трошкі пабыўшы там, падчас ловаў у пушчы за дзесяць міляў ад свайго горада знайшоў ён прыгожую гару, аточаную разлеглымі раўнінамі, і спадабалася яму там, і там ён пасяліўся... і назваўся князем Гальшанскім». Першым жа гістарычна вядомым прадстаўніком роду Гальшанскіх стаў у канцы XIV стагоддзя Іван Альгімонтавіч, найбліжэйшы паплечнік Вітаўта. Магчыма, князі Гальшанскія сапраўды паходзяць ад кагосьці з родзічаў вялікага князя Тройдзеня (1270–1282), рэзідэнцыяй якога быў Кернаў.

### Кернаў

Гэты цэнтр размяшчаўся за 35 км ад Вільні і быў адным



ФОТА АЛЕГА ДЗЯРНОВІЧА

**Крэўскае гарадзішча.** Выгляд з паўднёвага захаду.

* **Панонія** — правінцыя ў Старажытным Рыме. Сёння яе колішняя тэрыторыя ўваходзіць у склад такіх дзяржаў, як Венгрыя, Аўстрыя, Славакія, Славенія, Харватыя, Боснія і Герцагавіна.

**Язэп Драздовіч. Гальшанскае гарадзішча.**
Выгляд з узвышша на Барунскім тракце. 1929 год.


DRAZDOVICH.BY

з паўночных цэнтраў той зямлі, якая паводле традыцыі беларуска-літоўскіх летапісаў называлася Лістубаніяй («берагам трубаў»), а ў скарочанай версіі — Літвой.

Абарончую сістэму Кернава ў XIII–XIV стагоддзях утваралі пяць гарадзішчаў рознага памеру:

## Кернаў ці Наваградак?

Сучасныя літоўскія гісторыкі часта называюць Кернаў першай сталіцай ранняй Літвы. Нагоды для спрэчак даюць старажытныя храністы. У XVI стагоддзі Мацей Стрыйкоўскі спачатку называў месцам каранацыі караля Міндоўга Наваградак, пазней ён жа ў такой ролі прыгадваў ужо Кернаў, а далей зноў вярнуўся да Наваградка. Кернаў быў важным цэнтрам у пачатковым перыядзе гісторыі Вялікага Княства. Але гэтая роля ўсё ж узмацнілася, выглядае, у постміндоўгаўскі перыяд, калі Кернаў зрабіўся рэзідэнцыяй князя Тройдзеня, які прыйшоў да ўлады ў 1270-м.

Замкавая гара, Гара ахвярніка (ці Святая гара), Гара Ліздзейкі (ці Крывайтэ), Трон Міндоўга, Гара Кернава. Княская рэзідэнцыя лакалізавалася на Гары ахвярніка, гандлёва-рамесны пасад размяшчаўся вакол гарадзішчаў, княская абслуга займала Замкавую гару. Забудова гарадзішчаў была цалкам драўлянаю.

У 1365 годзе Кернаў быў значна разбураны крыжакамі. А ў 1390-м жыхары самі падпалілі свой горад перад прыходам аддзелаў Нямецкага ордэна на чале з маршалам Энгельгартам Рабе і саюзных ім войскаў Вітаўта. Пасля гэтага горад як значны палітычны цэнтр ужо не адрадзіўся, замкі не адбудоўваліся, а ўся матэрыяльная культура закансервавалася.

Літоўскія археолагі на працягу 1970–2000-х гадоў праводзілі даволі маштабныя і выніковыя даследаванні Кернава. Яны адкрылі старажытны цэнтр з характарам раннеўрбаністычнага паселішча, з багатай і разнастайнай культурай, па многіх прыкметах падобнай да гарадской культуры Русі XIII стагоддзя.


ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Фрагменты шкляных бранзалетаў**
XII–XIII стагоддзі, Крэўскае гарадзішча.


ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Матрыца, з якой выраблялі лілеяпадобныя падвескі да караляў,**
XII–XIII стагоддзі, Крэўскае гарадзішча.

Старажытны Кернаў захаваў, акрамя гарадской культуры, яшчэ адзін важны аб’ект — могілкі XIII–XIV стагоддзяў. Яны сведчаць, што значную частку насельнікаў Кернава складалі ўсё тыя ж хрысціяне. Менавіта паводле хрысціянскага абраду былі арганізаваныя пахаванні: з пакладаннем целаў памерлых у зямлю, з мінімальным пахавальным інвентаром. У многіх пахаваннях былі знойдзеныя нацельныя крыжыкі. Падкрэслім, што гэтыя знаходкі датуюцца раней, чым афіцыйны хрост Літвы па заходнім абрадзе ў 1387 годзе, пасля Крэўскай уніі.

У 2009 годзе быў адкрыты яшчэ адзін пахавальны помнік — канцэнтрацыя спаленых костак, якія знаходзіліся ў старым рэчышчы ракі. Гэтае пахаванне сінхроннае грунтоваму могільніку. Таму можна меркаваць, што хрысціяне хавалі памерлых на сваіх могілках, а паганцы спальвалі нябожчыкаў і кідалі іх парэшткі ў раку паводле старога звычаю.

Кернаў жа знаходзіцца паўночней за Вільню, і прысутнасць там славянскіх пасяленцаў (ці рутэнізаваных балтаў) можа пазначаць абсягі пранікнення славянаў углыб Літвы. ▶

## ▸ Вільня

Вільня стала сапраўднай метраполіяй Літвы з XIV стагоддзя, а першая згадка яе як сталіцы датуецца 1323 годам і адсылае да містычнага сну Гедыміна. На працягу ўсяго сярэднявечнага перыяду і ў XVI стагоддзі ў сталіцы Вялікага Княства вылучаўся асобны квартал, вядомы як *Civitas ruthenica* — «Рускі горад». Верагодна, першапачаткова ў другой палове XIII стагоддзя славяне сяліліся каля паўночнай падэшвы Гары Гедыміна, але ўжо з пачатку ці сярэдзіны наступнага стагоддзя сканцэнтраваліся ва ўласным квартале (усходняй часткі сучаснага Старога горада Вільні).

Сапраўднай сенсацыяй стала адкрыццё падчас аварыйных археалагічных раскопак хрысціянскіх могілак другой паловы XIII — пачатку XIV стагоддзяў на ўскраіне сярэднявечнага «Рускага горада» Вільні. Гэта зноў дазваляе казаць пра значную прысутнасць хрысціянскага славянскага (ці славянізаванага) насельніцтва ў галоўнай метраполіі Літвы ў перыяд яшчэ да Крэўскай уніі.

Усе пахаванні ў Вільні, як і ў Кернаве, зробленыя паводле абраду інгумацыі (трупапакладанне, а не спаленне), у большасці сваёй галавой на захад. Гэта хрысціянскі абрад, ці нават канкрэтна — усходнехрысціянскі. Пахаванні размешчаныя ў некалькі ярусаў у адной і той жа магільнай яміне, што можна патлумачыць дэфіцытам месца для могілак побач з горадам, які імкліва павялічваўся.




**Вялікае Княства Літоўскае пры Міндоўгу.**

ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ. Т. 1. МІНСК, 2009. С. 60. АЎТАР КАРТЫ — ВЯЧАСЛАЎ НАСЕВІЧ.

## Шматаблічная Літва

Так што даўняя Літва паўстае зусім не як аднастайны, этнічна аднародны край. Сярод балцкага паганскага насельніцтва ў ёй значна прысутнічалі і хрысціяне. Кім былі гэтыя людзі — славянскімі пасяленцамі-мігрантамі ці рутэнізаванымі балтамі, — ужо іншае пытанне. Напэўна, прысутнічалі як першыя, так і другія. Легендарная гісторыя пра трох віленскіх пакутнікаў пры двары князя Альгерда сведчыць, што балты даволі актыўна і ўсвядомлена прымалі хрысціянства праз усходні абрад у часы, калі многія іх супляменнікі яшчэ заставаліся паганцамі.

Старажытная Літва, «Літва да Міндоўга», паўстае краем, які ў XI–XII стагоддзях меў сваю цывілізацыю. На абшарах тае Літвы існавалі свае раннегарадскія паселішчы

**Дружыннае кола** — набліжаныя да князя людзі. Не толькі дружына ў вайсковым сэнсе слова, але дружыннікі-адміністратары (праўобраз чыноўнікаў), выканаўцы даручэнняў князя.

з выразнай адміністратыўнай альбо сакральнай функцыямі. Больш за тое, некаторыя з гэтых ранніх гарадоў былі асяродкамі гандлю і рамеснымі цэнтрамі, чым можа пахваліцца далёка не кожнае сярэднявечнае паселішча.

Характар жа матэрыяльнай культуры ва ўсіх чатырох узгаданых цэнтрах даўняй Літвы, а таксама выяўленыя хрысціянскія могілкі ў Кернаве і Вільні дазваляюць казаць, што гэтыя гандлёва-рамесныя функцыі забяспечвалі славянскія пасяленцы. Яны падтрымлівалі гандлёвыя зносіны з гарадамі Русі ад Полацка да Кіева, а таксама прыўносілі новыя тэхналогіі ў керамічнай вытворчасці і металаапрацоўцы. Хоць многія з гэтых «славянаў», напэўна, мелі балцкіх продкаў і рутэнізаваліся праз прыняцце ўсходняга хрысціянства.



SVAJKSTA.BY

Купалле ў Кернаве.

Так ствараўся той культурна-гаспадарчы кантэкст, які ўрэшце стаў вызначальным для ўзнікнення Вялікага Княства Літоўскага — дзяржавы не на зломе культур, а ў прасторы балта-славянскага ўзаемадзеяння. Так што Міндоўг упершыню пабачыў русінаў у сваіх валоданнях, а не ў панямонскім Наваградку, якім усё роўна быў уражаны. ◆

**Крэва сёння.**
Фота жыхара гэтага мястэчка Сяргея Гапона.



# Рым, яго хлеб і відовішчы

**У Рым трэба ехаць за смакам і за эмоцыямі, перакананы Андрэй Дзмітранок.**

Аднойчы ў цягніку Вільня — Мінск я прыснiў, што вячэраю ў Рыме: піца, ліманчэла, марозіва, кава. Калі я прачнуўся, побач са мной сядзелі хлопец з дзяўчынай і заўзята ўзгадвалі італьянскія стравы.

Італія незабыўная, як смакі дзяцінства, калі бабуля на світанку распальвала печ і пякла нам аладкі. Час ішоў, я пасталеў, наведаў шмат якія краіны, але толькі апынуўшыся ў Італіі, раптам адчуў, што з дзяцінства так смачна не еў. «Хлеба і відовішчаў!» — казалі старажытныя рымляне. Мы вяртаемся ў Вечны горад.

## Хлеба

У Рыме смачна. Тыповыя мясцовыя стравы — мазгавая костка, страўнік і бычыны хвост. Жонка хацела чагосьці марскога, толькі дзе ты тут бачыла мора? Яно за 30 кіламетраў, а тут, на беразе Тыбра, ядуць мяса, казіны сыр ці страву змагароў за незалежнасць Італіі карбанару — спагеці з беконам, вытапленым да хрумсткай шкваркі. А яшчэ ёсць сальтымбока — смажаная з шалфеем і пармскай вяндлінай цяляціна пад вяршковым соусам з вяленымі таматамі і аліўкамі.

Гэта ў нас могуць смяяцца, што дзівакі ездзяць у Італію, каб паесці. У самой жа Італіі ежа ўзведзеная ў культ. Паганіні, Вердзі, Феліні былі выдатнымі кухарамі, а Расіні нават пісаў



SHUTTERSTOCK.COM, BY CHERYLRAMALHO

кулінарныя кнігі. І ўсе размовы там калі не пра палітыку і футбол, дык ізноў жа пра ежу: хто дзе вячэраў, які соус падалі, што будуць есці заўтра. Ежай не пагарджаюць, ежа — істотная частка жыцця, і падыход да яе асаблівы. Так, найлепшыя рэстараны могуць не мець шыльдаў і чакаюць там толькі сваіх ці тых, каму пашанцуе. Напрыклад, нас.

— Калі ласка, меню, — папрасіў я.

— *Non abbiamo!* У нас няма меню! — адказаў кухар і прысеў за наш столік. — Я гатую ў залежнасці ад настрою і пасля размовы з госцем. Вам мора ці горы?

— Прабачце?

— «Горы» — калі жадаеце мяса, а «мора» — калі чагосьці марскога.

«Італьянскі ф'южн», — падумаў я.

«Турысты...» — чыталася ў вачах кухара.

**Ежай не пагарджаюць, ежа — істотная частка жыцця, і падыход да яе асаблівы**

Вядома, у Рыме ёсць шмат чаго немясцовага, хаця б таму што ён сталіца Італіі, а Італія — гэта піца.

«Маргарыта» — колераў італьянскага сцяга.

«Чатыры сыры» як сыны: гарганцола, скаморца, фантына і гран падана — годныя хлопцы, якія сем'ямі сабраліся на дзяржаўнае свята Ферагоста.

А вось «Капрычоза» — свавольная модніца, у кожным рэгіёне ў новых спадніцах-інгрэдыентах.

Піцу гатуюць у печцы на дровах.

У падсмаленым подыху Везувія нараджаецца «Напалі»: белае мора мацарэлы, у хвалях якой гуляюць анчоусы. Піца тонкая, яе падаюць не разразаючы, аснова, у залежнасці ад соусу, бывае белая (сырная) ці чырвоная (таматная).

— Сіньёры жадаюць піцу? — пытаецца вулічны зазывала.

Мы стомленыя, мы пагаджаемся. Піцэрыя знаходзіцца праз дарогу, і, каб правесці нас, італьянец выбягае на сярэдзіну чатырохпалоснай вуліцы, ускідвае рукі ўгору і спыняе ўвесь аўтамабільны рух.

— Сіньёры вырашылі пакаштаваць нашу піцу!

У гэты момант узялі паўзу таргі рымскай біржы. Жанчыны кінулі мыць, дзеці заенчылі, рагу а-ля баланьезэ пачало падгараць. Усе чакалі, пакуль парламент Італіі не прыняў закон, што турыстам, якія пажадалі піцу, дазволена пераходзіць дарогу дзе і як ім заўгодна.

Вы не верыце? Ды і я б не паверыў, калі б аднойчы нас, сям'ю з чатырох чалавек, бясплатна не пачаставалі ▸




SHUTTERSTOCK.COM, BY YULIA FURMAN

**Спатрэбіцца:**

- 200 г свіной грудзінкі,
- 100 г сыру (найлепш — пекарына),
- 400 г спагеці,
- 5 жаўткоў,
- чорны перац.

**Прыгатаванне**

На сярэднім агні падсмажце грудзінку з невялікай колькасцю аліўкавага алею. Калі тлушч стане празрыстым і з'явіцца скарыначка, здыміце і дайце астыць. Асобна змяшайце жаўткі з дробна нацёртым сырам. Зварыце спагеці — на адну хвіліну менш, чым пазначана на ўпакоўцы. Калі будзе гатовая паста, перамяшайце яе з паловай з сыру і жаўткоў, пакладзіце туды ж грудзінку. Выкладзіце на талеркі і пасыпце свежазмеленым перцам. *Buon appetito!*


ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

вячэрай — падарунак ад шэфа. Мы заплацілі толькі за каву і за дэсерт. Насамрэч, нам дастаткова было назіраць за працай афіцыянта.

— Сіньёр, якое віно вы нам параіце?

— Сіньёр? Які я сіньёр? Сіньёр — гэта Бог, а я Амадэа, — кажа афіцыянт і дае дзецям па цукерцы.

— Вялікі атрымаўся рахунак? — пытаецца ў суседняга століка. — *Un momento*, — бярэ паперку рахунка і складае яе напалам — палова гэта ж лепш?

Не пытайцеся, дзе гэта было, магія спрацоўвае толькі раз. Мы неяк вярнуліся ў рэстаран, дзе ўпершыню пакаштавалі кветкі гарбузоў з анчоусамі, і расчараваліся: афіцыянтаў нібы падмянілі і смак стаў знаёмы. А ў першы раз мы енчылі ад захаплення. Не вяртайцеся. Шукайце далей. Рым гэта любіць і будзе ўдзячным.

### Відовішчаў

— Вы ідзяце на дэрбі «Рома» і «Лацыа», а ці ёсць у вас квіткі? — цікавіцца бармен.

Аднаго хлеба недастаткова. Людзі ва ўсе часы шукаюць эмоцыі: у Старажытным Рыме дзеля гэтага ладзіліся баі гладыятараў, у Сярэднявеччы — рыцарскія турніры, сёння ёсць шоу-бізнэс, спорт, урэшце, Дажынкі. Але сутнасць нязменная, як Вечны горад: людзей лепш трымаць як мага далей ад палітыкі, у рэчышчы забаваў, а самы цымус — скарыстацца чужымі жарсцямі ў ідэалагічных мэтах.

У Італіі за забавы адказны футбол. Калі ў 1922 годзе Беніта Мусаліні прыйшоў да ўлады, футбол стаў важным інструментам як для станаўлення фашысцкага рэжыму, так і для яднання краіны. Італія ўтварылася (1861 год) з рэгіёнаў, што з часоў Старажытнага Рыма жылі асобна, мелі розныя мовы, традыцыі, менталітэт. Як стаць адной нацыяй, калі блакітнавокія фларэнтыйцы маюць так мала супольнага з сіцылійцамі, а ў Трыесце нічога не ядуць без хрэну, чым шакуюць пізанцаў? Да таго ж аб'ядноўваліся спецыфічна: золата Неапалітанскага каралеўства пайшло на развіццё прамысловасці поўначы, а поўдзень так і застаўся сельскагаспадарчым.

## У Італіі за забавы адказны **футбол**

Залагоджваў футбол. Праз трансляцыі матчаў рэгіёны вучылі літаратурную італьянскую, а поспехі зборнай дазвалялі забыцца на супярэчнасці.

Як ні прыкра гэта прызнаваць, але менавіта Мусаліні шмат зрабіў для развіцця італьянскага футбола (і кіно таксама). Пры ім пачынаюць праводзіць агульнанацыянальны чэмпіянат, зборная выйграе два Кубкі свету (1934, 1938), у буйных гарадах будуюцца стадыёны. Самы вялікі з іх у Рыме, «Алімпіка», па колькасці гледачоў ён амаль


У якім яшчэ горадзе фанаты на трыбунах пакажуць «**Стварэнне Адама**»?

як Калізей, змяшчае 75 тысяч чалавек. І гэта не выпадкова: Мусаліні бачыў сябе новым імператарам і натхняўся Антычнасцю.

Толькі з футболам у Рыме была бяда. Мясцовыя клубы *Alba Roma*, *Roman*, *Fortitudo Pro Roma*, *Lazio* не маглі канкурыраваць з камандамі паўночнай Італіі, таму было вырашана на базе чатырох клубаў сфармаваць адзін моцны — «Рома». Але «Лацыа» мела заступнікам генерала Джорджа Вакара, найбольш уплывовага спартыўнага чыноўніка краіны, і ад аб'яднання ўхілялася.


SHUTTERSTOCK.COM, BY MARCO IACOBUCCI EPP

Так пачалося, магчыма, самае жорсткае супрацьстаянне сярод топ-чэмпіянатаў. Хто сапраўдны рымскі клуб? Раманісты, прыхільнікі «Рома», кажуць, што адказ у самой назве клуба. Лацыале, прыхільнікі «Лацыа», адказваюць, што Рым — частка правінцыі Лацыа, а іх клуб заснаваны ў 1900 годзе, тады як «Рома» — толькі ў 1927-м.

А што з'яўляецца сімвалам Рыма: ваўчыца «Рома» ці арол «Лацыа»? Па версіі лацыале, ваўчыцы зусім не было, тады як арлы на штандарах Рымскай імперыі не выклікаюць сумневаў. Добра хаця б, што пасля дзесяцігадовых боек улады змаглі развесці фанацкія групоўкі на стадыёне «Алімпіка»: за лацыале замацаваны паўночны сектар, за раманістамі — паўднёвы.

Рымскае дэрбі спецыфічнае, сталічны статус абавязвае ставіць найвышэйшыя мэты, але поспехі ў клубаў нязначныя: два чэмпіёнствы ў «Лацыа» і тры ў «Рома». Таму дабіраюць агрэсіяй і гэтак званым «каляфутболам».

За «Рома» гістарычна заўзеюць рабочыя раёны горада, а за «Лацыа» — заможны Рым. Раманістаў называюць цыганамі і габрэямі, лацыале — фашыстамі. І некаторыя фанаты «Лацыа» гэтым нават ганарацца.

## Поспехі рымскіх клубаў нязначныя, таму дабіраюць агрэсіяй


SHUTTERSTOCK.COM, BY RICCARDO DE LUCA - UPDATE

У сённяшнім матчы гаспадар — «Рома», але «Лацыа» дакладна не будзе на другасных ролях. На *derby della capitale*, як яшчэ называюць матч, фанацкія сектары прыкладна роўныя, і менавіта яны ствараюць атмасферу і галаўны боль для паліцыі. Гульня можа скончыцца непарадкамі, там могуць забіць, як калісьці сігнальнай ракетай — лацыале Вінчэнца Папарэлі, урэшце, фанаты могуць проста выбегчы на газон і спыніць матч, як было ў 2004 годзе. Каб запалала, дастаткова аднаго гола, непрыстойнага жэста ад футбаліста ў бок фанацкага сектара ці проста чуткі. ▶



SHUTTERSTOCK.COM, BY MARCO IACOBUCCI EPP

**Дэрбі** (англ. *derby*) — спартыўнае спаборніцтва паміж супернікамі з аднаго горада або рэгіёна, матч суседзяў. Адметнае прынцыповасцю і асаблівай жорсткасцю паміж заўзятарамі.

**Дэрбі старой фірмы** — адно з найстарэйшых дэрбі. Рэлігійная прыналежнасць падзяляе шатландскі горад Глазга на прыхільнікаў пратэстантызму («Глазга Рэйнджэрс») і каталіцызму («Селтыка»).

**Інтэркантынентальнае дэрбі** — стамбульскае супрацьстаянне з геаграфічнай адметнасцю: «Галатасарай» рэпрэзентуе еўрапейскую, а «Фенербахчэ» — азіяцкую частку Стамбула.

**Суперкласіка** — дэрбі Новага Свету. Адбываецца ў Буэнас-Айрэсе паміж клубамі «Бока Хуніарс» і «Рывер Плэйт». Спартыўныя сустрэчы суправаджаюцца гвалтам і масавымі беспарадкамі. Таму фінал Кубка Лібертадорэс, галоўнага футбольнага клубнага турніра Паўднёвай Амерыкі, быў перанесены ў іспанскі Мадрыд.

▶ Дзень дэрбі пачынаецца ў атмасферы ўсеагульнай любові і зычэння міру ад папы рымскага, а літаральна праз некалькі гадзін Рым не пазнаць. У паветры лётаюць верталёты, моладзь сілкуецца півам, прыцемкі нагнятаюць трывогу, а інфармацыя, што на матч дадаткова выдзелена 2 000 паліцэйскіх, абяцае нясумны вечар.

І вось мы ідзём да стадыёна і назіраем, як людзі мяняюць грошы на нейкія кантэйнеры. Што там? Невядома, але насцярожвае, як і тое, што мы ідзём у кампаніі, дзе вельмі мала жанчын і дзяцей. Гэта не Іспанія і не Англія, дзе паход на стадыён нагадвае наведванне тэатра. У Італіі сукупнасць праблем, галоўная з якіх — гвалт на стадыёнах, не робіць футбол сямейнай забавай.

Мы падыходзім: вось ён, «Алімпіка», цяперашні Калізей Рыма. Стары застаўся для фотаздымкаў турыстаў, сучасны, пабудаваны ў 1928 годзе, сустракае стэлай з імем Мусаліні.

Пакуль усё ціха. Можа, СМІ хлусяць, і мілая Італія ізноў

## Італьянскі футбол зросся з мафіяй

Італьянскі футбол перажывае не найлепшы свой час. Судзейскую карупцыю, банкруцтва клубаў дапаўняе ўсё большая роля мафіі ў футбольным жыцці. Кажуць, яна пранікла ў структуру клубаў, праз фанацкія групоўкі распаўсюджвае наркотыкі, спекулюе квіткамі. Памятаеце, бармен цікавіўся, ці маем квіткі?


ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА




ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

нам усміхнецца? Заходзім, звычайны кантроль: ваду адабралі, дакументы праверылі. Бетонная глыба стадыёна пакуль збірае фанатаў «Рома», а лацыяле чакаюць на ўваходзе. Так, напэўна, выглядаў Калізей за хвіліну да таго, як на арэну выпусцяць ільвоў: лацыяле ля брамы літаральна кідаліся на краты, каб іх прапусцілі. Заходзім на свой сектар, да матча застаецца гадзіна.

Урэшце, мне не столькі цікавы футбол, як назіраць за трыбунамі. Вось маці вучыць сына паказваць сярэдні палец у бок фанатаў «Лацыа». А вось дзяўчына са сваім хлопцам: ён у майцы «Рома», яна з шалікам «Лацыа». Спачатку яна смяецца, а потым цягнецца рукой, каб неўпрыкмет схаваць шалік і не злаваць публіку. Мы сядзім на цэнтральнай трыбуне, фанацкія сектары за варотамі скачуць і махаюць сцягамі. Там выявы «імператара Рыма», экс-футбаліста «Рома» Франчэска Тоці, насупраць — Дыяболіка, забітага лідара самай жорсткай групоўкі «Лацыа» *Irriducibili* («Нязломныя»).

Нарэшце гасне святло, футбалісты выходзяць на поле — і стадыён афарбоўваецца ў чырвона-жоўтыя колеры, нібы лістападаўскі вецер узняў у паветра апалае лісце. Раманісты пяюць гімн свайго клуба, на фанацкім сектары з'яўляецца сімвал ваўчыцы. А што лацыяле? Яны моўчкі чакалі, каб пасля агаломшыць. Раніцой з-за вялікіх чэргаў у Ватыкане мы не змаглі убачыць фрэску Мікеланджэла «Стварэнне Адама». Яна нас чакала на стадыёне: фанаты «Лацыа» выклалі мікеланджэлаўскі дотык проста на сваім сектары. «Не было прыгажэйшай кампазіцыі за ўсю футбольную гісторыю Рыма», — казалі пасля як лацыяле, так і раманісты.

Потым гулялі ў футбол. Спачатку адзін гол забіў «Рома», потым адзначыўся «Лацыа». Фанаты крычалі, нерваваліся, апошнія хвіліны правялі на нагах, але ў выніку матч, дзе перамога прыраўноўваецца да чэмпіёнства, завяршыўся без непарадкаў.

Можа, таму што выніковы лік быў нічыйны, а можа, фанацкае прачытанне «Стварэння Адама» распачало новы этап у італьянскім футболе, дзе гвалт саступіць месца мастацтву.

Паглядзім. Дарэчы, а што ў нас на вячэру?

**P. S.** Калі тэкст быў гатовы да друку, прыйшла навіна, што групоўка *Irriducibili* самаліквідуецца. «Хопіць крыві», — заяўляў маніфест фанатаў. А я ўслед сціпла малю быць пачутым яшчэ адзін раз: калі ласка, няхай хутка скончыцца пандэмія і мы вернемся да нармальнага жыцця з вандроўкамі ды пацісканнем рук. ◆

# Спіш

## Пешкі праз горы да готыкі польска-славацкіх Карпат

**За шэсць пешых дзён можна агледзець увесь край, што некалі спецыялізаваўся на пастаўках белага віна нашым магнатам. Вандруем разам з Сяргеем Грунтовым.**

Перайшоўшы мяжу паміж польскім Падгалем і Спішам, выразна адчуваеш, што апынуўся ў новай краіне, хоць гэтага не падказваюць ні дарожныя паказальнікі, ні пазнакі на сучасных картах. За спінаю застаецца пабудаваны з лістоўніцы свет шляхецкіх сядзіб і сярэднявечных касцёлаў, знакамітае Закапанэ. А перад вачыма — мураваны касцёл XIV стагоддзя з вежай без шпіля, якая нагадвае шахматную туру. Побач «каштэль» — дом-замак, падобны да нашых Гайцюнішак. У касцёле багатае барочнае ўбранне, мяккае святло, пасярэдзіне сядзяць чатыры

**Спіш**
гэта гістарычны рэгіён у Заходніх Карпатах. Назва вядомая з XII стагоддзя. Ад XIV да XVIII стагоддзя спішскія землі былі падзеленыя паміж Польшчай і Венгрыяй. Эканоміка квітнела на экспарце такайскага віна, «венгжынца», з поўдня на поўнач — у каралеўскія і магнацкія двары Рэчы Паспалітай. Пасля падзелаў апошняй Спіш стаў часткай Аўстра-Венгерскай манархіі.
У XX стагоддзі апынуўся пераважна на тэрыторыі Чэхаславакіі, а пасля Славакіі. Гатычная архітэктура і мастацтва Спіша лічацца аднымі з найлепш захаваных у Цэнтральна-Усходняй Еўропе.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

музыкі, якія рэпетуюць вечаровы канцэрт. Мы пазнаем Мантэвердзі. Такія моманты — сапраўдны незабыўны дар, які апраўдвае ўсе нязручнасці доўгага падарожжа.

### Чый Спіш?

Гэта **Фрыдман** — адна з 14 вёсак Спіша, якія засталіся па польскі бок мяжы пасля знікнення Аўстра-Венгерскай манархіі. Яны былі прадметам спрэчак і сутыкненняў паміж Польшчай і Чэхаславакіяй у 1918–1919 гадах і адразу пасля Другой сусветнай вайны. Тэрытарыяльныя спрэчкі канчаткова страцілі сэнс толькі тады, калі і Польшча, і Славакія апынуліся ў Еўрасаюзе, а цераз памежную раку Дунаец быў перакінуты пешаходны мост, па якім польскія турысты прагульваюцца ў кавярні і крамы крыху таннейшай Славакіі.

Галоўная атракцыя польскага Спіша — **замак у Недзіцы,** да якога ад Фрыдмана можна зайсці за паўтары гадзіны. Ён невялікі, але мае запамінальны сілуэт з вежамі і зубчастымі сценамі, які прыгожа ўздымаецца над водамі вадасховішча. На іншым беразе бачны яшчэ адзін замак — Чорштынскі. Дакладней, яго руіны. Паміж імі плаваюць лодкі і снуюць роем турысты.

Апошніх тут шмат, бо побач пачынаюцца Пяніны, другая па папулярнасці (пасля Татраў) горная сістэма ў Польшчы. Яна не адносіцца да Спіша, але з яе вяршыняў, скалаў над Дунайцам, на яго адкрываецца незабыўны від зверху. Рака пятляе ў цясніне, па ёй адзін за адным плывуць па стромкай плыні турысты на плытах, якімі кіруюць плытагоны з доўгімі жэрдкамі ў руках. За тое, што ўсе яны цэлымі даплываюць да канца, трэба, магчыма, дзякаваць святой Кінзе, дужа тут папулярнай. Яна пэўны час жыла ў гэтых ваколіцах і дагэтуль абʼяўляецца падарожным на бутэльках з мінеральнай вадой і на крамных шыльдах.

### Славакія

Ад восьмай раніцы да восьмай вечара ў цёплы сезон цераз Дунаец можна пераправіцца на чоўне. Цясніна знізу выглядае не менш маляўніча, да таго ж тут цень і прахалода. Дарога для раварыстаў і пешых вандроўнікаў цягнецца берагам восем кіламетраў і незаўважна перасякае мяжу паміж краінамі.

У канцы гэтай дарогі — вёска **Чырвоны Кляштар**. Манастырскі комплекс, які даў ёй назву, добра захаваўся са свайго XIV стагоддзя, хоць манахаў у ім даўно няма. Цяпер тут музей, старыя скляпенні, выстава жывых драпежных птушак і легенды пра манаха з XVIII стагоддзя, які быў вядомы сваёй любоўю да гербарыяў і ўменнем лятаць.

На начлег спыняемся ў кемпінгавым прычэпе каля суседняга пансіёна. Гэта недарагая ўтопія самадастатковага свету ▶

**Святая Кінга,**
або Кунігунда Венгерская (1224–1292) — дачка венгерскага караля Белы IV і жонка польскага князя Баляслава V. Прыехала ў Кракаў і выйшла замуж у 15 гадоў, але з умовай, што Баляслаў не будзе прэтэндаваць на яе цноту (гэта называлася іосіфавым шлюбам). Кунігунда значна паўплывала на развіццё Польшчы, пасажныя грошы выдаткавала на абарону супраць манголаў і аднаўленне разбураных імі мясцовасцяў. Пабудавала шмат цэркваў і манастыроў, у тым ліку францішканскі кляштар у Старым Сончы, які пасля смерці мужа і пострыгу ў манахіні ўзначаліла ды зрабіла яго адукацыйна-асветным цэнтрам рэгіёна. Займалася дабрачыннасцю і ўвогуле шмат у чым нагадвала святую з нашых земляў — Еўфрасінню Полацкую.
Кінга з канца XVII стагоддзя лічыцца святой заступніцай Польшчы і Літвы, але кананізаваў суайчынніцу толькі папа Ян Павел II у 1999 годзе.

▶ ў арэхавай шкарлупінцы, напоўненая паблёклай рамантыкай з 60-х гадоў. За абмеркаваннем шанцаў на тое, што прычэп за ноч скоціцца ў раку, якая цячэ зусім побач, хутка засынаем.



**На перавале Вэтэрны Врх** падарожнага вітае скульптура драўлянага мядзведзя на задніх лапах, які трымае дрэўка са славацкім сцягам.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

### Бязлюдная Магура

Ад асноўнай часткі Спіша даліну Дунайца аддзяляе горная сістэма пад назвай Спішская Магура. Калі з польскага боку ў гарах мы сустрэлі сотні турыстаў, то тут за дзень толькі аднаго.

Найвышэйшая вяршыня называецца Вэтэрны Врх («Ветраны Верх») — 1112 метраў. Назва не падманвае, тут і сапраўды добра дзьме. Падарожнага вітае скульптура драўлянага мядзведзя на задніх лапах, які трымае дрэўка са славацкім сцягам, а каля яго — спецыяльная скрынка з дзённікам гары, куды кожны можа запісаць нешта пра сябе.

Доўгі спуск вядзе праз вільготныя ельнікі і горныя сенажаці ў **Вышнэ Ружбахі**. Гэта стары, прасякнуты меланхоліяй курортны пасёлак, найлепшыя гады якога даўно мінулі. Пра іх нагадваюць паўзакінутыя вілы, але пампезны спа-комплекс, у архітэктуры якога неяк злучыліся густы Людовіка XVI і Рыхарда Вагнера, працягвае дзейнічаць. Праўда, людзей зусім не відаць, і галоўную атракцыю — запоўнены вадою кратар — мы разглядаем адныя. У гэтым месцы прывідаў спыняемся на начлег. А ў гатэлі, каб надаць нам храбрасці, нас вітаюць кілішкамі палінкі*.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

Вышнэ Ружбахі. **Пудзілы з казіных шкур.**

### Цыганская бадзёрасць

Даліна ракі Папрад — сапраўдная скарбніца Спіша. Па ёй мы ідзём увесь наступны дзень ад мястэчка да мястэчка праз замкі, касцёлы і ратушы. Дарогу праз палі часам разнастаяць пудзілы на агародах, зробленыя са старых паліто ці пінжакоў з павешанымі зверху казінымі скурамі.

Першым нас вітае **Падалінец**. Вітае замкнутым і апусцелым кляштарам, дзе некалі вучыўся адзін з найлепшых венгерскіх пісьменнікаў Дзюла Крудзі. Цэнтральная плошча мае тыповую для гэтых мясцін авальную форму, на ёй — гатычны касцёл і рэнесансная званіца, а таксама ратуша, якая і дагэтуль выконвае свае адміністратыўныя функцыі. У фасадзе два ўваходы. Верхні вядзе ў гарадскую раду. А з пяці вечара адчыняецца іншы ўваход пад лесвіцай, у кнайпу. Такая гармонія будзённага жыцця.

У Падалінцы сустракаем пераважна цыганоў, якія групкамі стаяць каля крамаў. Яны жывуць тут асела на прадмесцях і складаюць найбольш заўважную этнічную меншасць Славакіі, хоць афіцыйна іх толькі 2%. Любімы

* **Палінка** — моцны алкагольны напой, перагнаны з садавіны і ягад.

### Як дабрацца да Спіша

З Кракава да Недзіцы аўтобусы адпраўляюцца кожную гадзіну, час у дарозе — 2,5 гадзіны.
Альбо можна праз Львоў даехаць да Ужгарада. Адтуль некалькі разоў на дзень ходзяць аўтобусы да славацкага горада Кошыцэ. Далей раз на некалькі гадзін ходзяць цягнікі ў кірунку Попрада, а таксама ёсць шмат аўтобусаў.
А можна ў Кіеве ці Львове сесці на хуткі цягнік да Браціславы і зранку выйсці ў Попрадзе ці Спішскай Новай Весі.
Ну, і яшчэ можа прыдацца веданне, што ў Попрадзе ёсць аэрапорт, «самы высакагорны ў Еўропе», куды ўзімку лятаюць лаўкосты з Рыгі.

ласунак цыганскіх дзяцей — разнастайныя энергетычныя напоі, якія тут прадаюцца ў пузатых літровых бутэльках па кошце звычайнай газіроўкі. Хоць здаецца, што бадзёрасць — найменшае, чаго не хапае гэтым дзецям у жыцці.

Яшчэ паўтары гадзіны пешшу — і вось ужо новае мястэчка — **Спішска Бела**, з вельмі падобным да Падалінца архітэктурным наборам. За два кіламетры ад яе — Стражскі замак, дзе цяпер мастацкі музей. Такі профіль невыпадковы. У канцы XIX стагоддзя тут жыў Ласла (Ладзіслаў) Мяднянскі — выдатны мастак, якога венгры лічаць сваім, а славакі сваім. Ён любіў маляваць поўныя тумаоў і бляклага святла краявіды, разважаць над смерцю і быў, як гэта часта здараецца сярод венгерскіх творцаў, меланхолікам. Праз паўстагоддзя тут здымаў сваю містычную драму «Чалавек, які хлусіць» французскі рэжысёр Ален Роб-Грые. З таго часу замак мірна спіць.

Начуем у наступным горадзе з назвай **Кежмарак**, а ў суседнім ад нашага гатэля доме бяром урокі славацкай мовы, вучымся вымаўляць словы, цалкам пазбаўленае галосных: *«Starý trh» (Стары торг, Стары рынак)*. Сонца ў Кежмарку заходзіць над Татрамі, да якіх тут крыху больш за дзесяць кіламетраў. Акрамя замка, горад можа пахваліцца драўлянай пратэстанцкай кірхай, унесенай у спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Унутры яе барочны алтар, распісныя нябёсы на ўсю столь і павучальныя

Больш пра **фільм «Чалавек, які хлусіць»** глядзіце тут



біблейскія сюжэты з подпісамі нямецкім гатычным шрыфтам.

На Спішы, як і ўвогуле ў Славакіі, суіснуюць храмы самых розных канфесій: уніяцкія цэрквы, каталіцкія касцёлы, пратэстанцкія кірхі, нешматлікія ацалелыя пасля вайны сінагогі. Сама Славакія — даволі рэлігійная краіна, у адрозненне ад суседняй традыцыйна атэістычнай Чэхіі.

### Тры сталіцы

Ад Кежмарка зусім блізка да **Попрада** — сучаснай сталіцы Спіша. Гэта буйны турыстычны цэнтр, з якога ▶

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Вандраваць пешкі тут — асалода.** На адным пагорку стаіць гмах раманска-гатычнага сабора — Спішская капітула, на наступным — Спішскі Град, велізарная сярэднявечная фартэцыя, якая дамінуе над усёй ваколіцай. У нізіне паміж імі змяшчаецца яшчэ і цэлае мястэчка, Спішскае Падграддзе. Усё разам — сусветная спадчына ЮНЕСКА.

**Славакія** — невялікая славянская краіна між Польшчай, Украінай, Чэхіяй і Венгрыяй. Насельніцтва — каля 5,5 мільёна чалавек. Пасля ўступлення ў Еўрасаюз зазнала хуткі эканамічны рост.

SHUTTERSTOCK.COM, BY KAMILALALA

▶ зручна дабірацца да блізкіх Татраў, асабліва папулярных зімой, і Славацкага Рая — горнай вобласці з маляўнічымі скаламі і вадаспадамі.

Нас, аднак, больш вабіць **Левача**, папярэдняя спішская сталіца, рэнесансны горад, знакаміты тым, што тут захоўваецца галоўны шэдэўр сярэднявечнага майстра Паўла — цэнтральны алтар у мясцовым саборы.

Калі бачыш яго карункавую 18-метровую канструкцыю, выразаную з дрэва, то складана паверыць, што яна існуе ў матэрыяльным свеце, што захавалася цягам 500 год, што гэта не мроя мастака-рамантыка з XIX стагоддзя. І тут жа яго фігуры святых і Дзевы Марыі, якія перадаюць эмоцыі і моц евангельскай гісторыі лепш за любое слова. Нават калі ты знаёмы з гатычнай спадчынай Заходняй Еўропы, убачанае тут усё адно шчыра ўражвае.

Ад спішскай сталіцы № 2 да самай першай, якая дала назву ўсяму рэгіёну, толькі дзень пешага падарожжа.

На шляху ў нас **Спішскі Ргаў**, дзе адбываецца спартыўны забег і вясковае свята. Расстаўленыя сталы, усе ахвочыя п'юць піва і гамоняць паміж сабою. У вёсцы знаходзіцца вялікі, акружаны мурам парк і неабарочны палац сям'і Чакі з XIX стагоддзя. Ён зачынены, але ахоўнік выходзіць, каб прагнаць дваіх дзяцей ад высахлага фантана, а пасля запрашае нас паглядзець маляваныя пано ў вітальнай зале. На вялікіх яскравых палотнах — вобразы сапраўднай аркадыі: радасці сямейнага жыцця, пуці*, якія ловяць карпаў ці змагаюцца з асою, сезоны года. Пано напісаў




ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Стары торг.** Нязвыкла для беларускага языка. У славацкай мове менш паўнагалосных слоў. Але «г» як беларускае.

* **Пута** (мн. лік — **пуці**) — вобраз анёла-дзіцяці, які сустракаецца ў мастацтве Рэнесанса, барока і ракако.

## Майстар Павел

з Левачы (каля 1480 — каля 1546). Адзін з самых вядомых славацкіх скульптараў і нацыянальны сімвал краіны. Гэтае імя вядомае кожнаму славаку. Ні дакладныя гады жыцця, ні нават прозвішча яго не вядомыя. Большасць яго прац сканцэнтравана ў касцёлах Спіша, дзе ён пражыў асноўную частку жыцця. У Левачы знаходзіцца яго асноўная праца і прысвечаны яму музей.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Фігуры святых і Дзевы Марыі** перадаюць эмоцыі евангельскай гісторыі лепш за любое слова.

Вальтэр Горварт у Вене ў 1900 годзе. Эпоха застыла ва ўласных мроях, як у бурштыне.

Старая сталіца Спіша бачная здалёк. На адным пагорку стаіць гмах раманска-гатычнага сабора — Спішская капітула, на наступным — Спішскі Град, велізарная сярэднявечная фартэцыя, якая дамінуе над усёй ваколіцай. У нізіне паміж імі змяшчаецца яшчэ і цэлае мястэчка, **Спішскае Падграддзе**. Усё разам — сусветная спадчына ЮНЕСКА.

Спішскі Град, самы вялікі замак Славакіі, быў заснаваны ў XI стагоддзі венграмі і да нашага часу дайшоў у руінах. Унутры знаходзіцца невялікая музейная экспазіцыя і пад’ём на цэнтральную вежу, перад якім падарожнага вітае даволі незвычайнае папярэджанне: «Асцярожна! Лятучыя мурашы». І сапраўды, наверсе іх цэлы рой. Хоць з такімі краявідамі як не захацець лятаць!

### Шчодры Спіш

Але мы павінны працягваць шлях. Да начлегу яшчэ восем кіламетраў, а па дарозе сярэднявечны касцёл у **Жэгры**, далучаны да таго ж комплексу помнікаў, што і Спішскі Град. У яго просты і запамінальны сілуэт з чорнай цыбулінай на вежы, а ўсярэдзіне — фрэскі XII стагоддзя. Праўда, мы прыходзім запозна, каб патрапіць усярэдзіну.

Далей роўная асфальтавая дарога вядзе да **Спішскіх Влахаў**, фінальнага пункта пешага падарожжа. Побач праносіцца машына, поўная цыганскіх дзяцей. За рулём ледзь бачная галава падлетка год трынаццаці. Яны ўсміхаюцца і радасна сігналяць нам. Жыццё ў гэты вечар у соннай славацкай правінцыі, без сумневу, належыць ім.

## Падрыхтуйцеся

да таго, што ў спішскія музеі і храмы, якія дзейнічаюць як музеі, можна ісці толькі з экскурсаводам. Гэта не ўплывае на кошт квіткоў, але абмяжоўвае час наведвання працягласцю экскурсіі. Часам яна можа быць ганебна кароткай — напрыклад, толькі 15 хвілін на агляд сабора ў Левачы.

У Спішскіх Влахах у цэнтры горада ўвечары можна напіцца (і ўсё да гэтага падштурхоўвае), але немагчыма паесці. Пасля доўгіх пошукаў і распытванняў знаходзім адзіную тут піцэрыю. Піца надзвычай смачная, піва халоднае, усё разам вельмі таннае, таксама як і поп-музыка з румынскага тэлеканала над нашымі галовамі. За шэсць дзён мы прайшлі 175 кіламетраў, з надвор’ем шчасціла, Спіш быў да нас шчодры, а зараз надышоў час святкаваць.

Наступнай раніцай на пустой чыгуначнай платформе садзімся ў кароткі, з некалькіх вагонаў, цягнік, які праз масты і тунэлі вязе нас у Кошыцэ — усходнюю сталіцу Славакіі, адзін з самых прыгожых гарадоў у гэтым куце Еўропы. І далей, праз Ужгарад і Львоў, дадому, каб узгадваць усе скарбы Спіша, якія памяць забрала з сабою. ◆

ФОТА КАЦЯРЫНЫ КАЗЛОВАЙ

# Сядзіба Радзівілаў у Паланэчцы

**Гледзячы на абваленыя сцены і раструшчаную падлогу сядзібы Радзівілаў у Паланэчцы, цяжка паверыць, што некалі пра яе пісалі захопленыя мемуары. Піша Кацярына Казлова, малодшы навуковы супрацоўнік музея-запаведніка «Нясвіж».**

## Гадаванец Нясвіжа

Росквіт Паланэчкі і пабудова палаца ў ёй звязаныя з імем Мацея Радзівіла (1749–1800), падкаморыя Вялікага Княства Літоўскага і кашталяна віленскага. Мацей Радзівіл знакаміты найперш аўтарствам лібрэта да адной з першых беларускіх опер «Агатка, альбо Прыезд пана».

Хлопчыку было ўсяго паўтара года, калі памёр яго бацька Леан Радзівіл. Ягоная маці Ганна з Мыцельскіх праз тры гады пасля таго выйшла замуж за стрыечнага брата былога мужа — нясвіжскага ардыната, гетмана ВКЛ Міхаіла Казіміра Радзівіла Рыбаньку. Таму дзяцінства Мацей правёў у тагачаснай культурнай сталіцы княства і ў адной з найшыкоўнейшых рэзідэнцый краіны.

Нясвіжскі замак сапраўды даў добры старт для развіцця яго таленту: менавіта ў Нясвіжы хлопчык зацікавіўся драматургіяй і музыкай. Тут ён атрымаў і добрую хатнюю адукацыю, пасля чаго выправіўся ў вандроўку па Еўропе.

Але ў 1771 годзе нечакана памірае яго маці, і малады князь быў вымушаны вярнуцца на радзіму ды заняцца ўладкаваннем сямейных спраў. Сваёй рэзідэнцыяй Мацей Радзівіл абраў Паланэчку. І паставіў там густоўную сядзібу.

## Палац, як у Італіі

Сядзіба ў Паланэчцы існавала яшчэ да нараджэння

**Глядзіце відэаролік «Натхняльная Паланэчка»,** створаны грамадскай культурніцкай кампаніяй «Будзьма Беларусамі!» сумесна з Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны.






## Паланэчка

вёска за 35 км ад Баранавіч, у якой жыве каля 400 жыхароў. У XVI стагоддзі належала шляхецкаму роду Дусецкіх-Рудамінаў, а ў канцы XVII стагоддзя ўвайшла ў склад вялізных латыфундый Радзівілаў.
Гэтае месца сёння выглядае сонным, але 250 гадоў таму яно было цэнтрам культурнага і грамадскага жыцця. Пра гэта нагадваюць турыстычныя аўтобусы, якія рэгулярна збочваюць сюды з дарогі паміж Мірам і Нясвіжам.

Мацея Радзівіла. Радзівілы яе паступова разбудоўвалі, верагодна, пачынаючы з другой паловы XVIII стагоддзя. Першая планіроўка сядзібы — барочная, пра што сведчаць выцягнутая кампазіцыйная вось забудовы і французскі парк, які рос каля палаца яшчэ ў XIX стагоддзі.

Пасля 1773 года Мацей Радзівіл узяўся за перабудову сядзібы ў стылі класіцызму. За прыклад для новага палаца невядомы дойлід узяў вілу Трывулзіна на возеры Кома, што ў Італіі.

Палац узвялі з камянёў метровай шырыні. Затым абклалі сцены чырвонай цэглай, для трываласці выробленай нібыта з дадаткам у раствор курыных яек. Увесь палацава-паркавы ансамбль складаўся з дома з флігелямі, уязной брамы, капліцы-пахавальні, аранжарэі, маляўнічага парку з рэдкімі пародамі дрэў і прыгожымі вадаёмамі.

Але вядомасць палац у Паланэчцы набыў не праз будынкі, парк ці вадаёмы — хай сабе і помнікі класіцызму. А праз тое багатае жыццё, што вялося ў яго сценах. Паланэчка пры Мацею Радзівіле ператварылася ў важны культурна-асветніцкі цэнтр Беларусі. Яна мела багатую бібліятэку, нумізматычную калекцыю, была месцам бясконцых імпрэз, вечарын, канцэртаў. У палацы гасцявалі кампазітары, паэты, музыканты, дзяржаўныя дзеячы, а ўваход у парк быў даступны кожнаму ахвотнаму. ▶




**Акрамя палаца**

У Паланэчцы яшчэ можна паглядзець касцёл 1899 года, выкананы ў неагатычным стылі, **руіны вадзянога млына 1819 года (на здымку)** і ставы, якія засталіся ад парку.

## Паланэцкія забавы

Як праходзілі прыёмы ў князя Радзівіла, узгадвала пісьменніца і мемуарыстка XIX стагоддзя Эва Фялінская, якая нарадзілася ў маёнтку Узнога (цяперашні Клецкі раён) непадалёк ад Паланэчкі: «Успаміны забаў Паланэчкі былі свежыя яшчэ ў маім дзяцінстве. Памятаю, як з вялікай ахвотай слухала, калі мама распавядала, што бачыла на свае вочы: пра трусіны сад, залу, упрыгожаную люстэркамі ўключна з падлогай, пра балетныя і тэатральныя пастановы, спевы. Найбольш уразіў мяне і добра захаваўся ў памяці баль, дадзены ў гонар пані Хадкевічовай, маці жонкі князя Мацея Радзівіла. Мая маці, якая была сведкай гэтага прыёму, паўтарала мне ў дакладнасці ўсе моманты, нават напявала арыі, прысвечаныя цешчы князя Мацея, да якіх ён сам пісаў музыку.
У прызначаны дзень (падаецца, на імяніны пані Хадкевічовай) запрасілі світу. Вечарам парк асвятляўся, а калі ўсё таварыства праходзіла па ім, у пэўным месцы раптоўна адчыніліся патаемныя дзверы і перад вачыма імяніннiцы неспадзявана з'явілася шчодра асветленая святыня, з алтаром у эмблематычнай аздобе, у якой палала лічба багіні гэтага дня. Пані Хадкевічову пад гукі музыкі правялі да гэтай святыні, і ў той жа момант яе атачыў хор маладых выканаўцаў балета, які кідаў кветкі ёй пад ногі і спяваў вершы, напісаныя ў яе гонар».




**Палац Радзівілаў у Паланэчцы на малюнку Напалеона Орды.** 1876 год.

### Каштоўнасці

з Паланэчкі вывез у 1869 годзе сын Канстанціна Радзівіла Мацей. Ён атрымаў сядзібу ў спадчыну, але жыць хацеў у Польшчы. У свой маёнтак Зэгжэ непадалёк ад Варшавы ён перавёз карцінную галерэю, нумізматычную калекцыю і бібліятэку на чатыры тысячы асобнікаў кніг.

## Ад уздыму да заняпаду

Мацеева сядзіба засталася ў спадчыну яго сыну Канстанціну (1793–1869). Ён быў нешараговым палітычным дзеячам, мецэнатам, апекуном народнай асветы, а таксама адным з першых беларускіх фалькларыстаў. У 1850-х гадах Канстанцін Радзівіл даслаў у Рускае геаграфічнае таварыства працы «Статыстычны нарыс Навагрудскага павета» і «Этнаграфічныя звесткі пра жыхароў Навагрудскага павета», дзе пісаў і пра *«кривицкое наречие»*, маючы на ўвазе беларускую мову, і пра асаблівасці помнікаў матэрыяльнай ды духоўнай культуры мясцовых сялян.

Пры ім Паланэчка не губляла сваіх пазіцый, а сам князь займаў важныя пасады і меў прэстыжныя тытулы. Так, у 1832 годзе ён стаў камергерам двара Яго Імператарскай Вялікасці, а ў 1832–1835 гадах — маршалкам шляхты Навагрудскага павета. Менавіта пры Канстанціне Радзівіле была зроблена значная перабудова палаца ў стылі ампір.

Пасля Канстанціна слава Паланэчкі паблякла, бо ягоны спадчыннік, сын Мацей, не захацеў тут жыць. Але палац заставаўся ў валоданні Радзівілаў да 1939 года, пакуль сюды не прыйшла савецкая ўлада. У гады вайны палац занялі немцы, а ў 1943 годзе ён значна пацярпеў ад пажару. У пасляваенныя гады тут дзейнічала школа-інтэрнат, пад якую канчаткова перарабілі ўнутраную планіроўку. Ад былога палаца засталася толькі знешняя абалонка.

А з 1990-х будынак знаходзіцца ў заняпадзе, перыядычна выстаўляецца на продаж. Аднак пакуль што не знаходзіцца той прадпрымальнік, які гатовы адбудаваць сядзібу Радзівілаў у адпаведнасці з нормамі захавання помнікаў культуры. ◆




**Пры Канстанціне Радзівіле на фасадзе палаца з'явіліся чатырохгранныя калоны з галовамі старажытных філосафаў. Калоны і філосафы на дзіва добра перажылі ўсе нягоды, што выпалі на долю сядзібы Радзівілаў.**




SHUTTERSTOCK.COM, BY STSELIKAVA HANNA

# ПЕРНІКІ

## Друкаваныя, мірскія, бутрымонскія, адпустовыя...

**Якія пернікі елі нашы продкі і як іх гатаваць, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

### Пернікі і мядоўнікі

Беларускае слова «пернік» супадае з польскім *piernik* і паходзіць ад прыметніка «перны», па-польску *pierny* або *pieprzny* — перачны, востры. Рускі і ўкраінскі *пряник* мае той самы корань, ад *пряный, пряность*.

Усходнія спецыі трапілі на сталы нашых продкаў адносна позна, але выпечка з мёдам была, канечне, вядомай нашмат раней. Тую старажытную выпечку называлі мядовікі, ці мядоўнікі, — і гэтае слова дагэтуль захоўваецца і ў польскай, і ў беларускай мове, а ў літоўскай увогуле з'яўляецца адзіным для абазначэння пернікаў — *meduoliai*. Адно што толькі ў славянскіх мовах ёсць схільнасць ужываць слова «мядовік» да мяккіх боханападобных пернікаў, якія па-руску называюцца *коврижки*.

Вялікае Княства Літоўскае разам з Польшчай у многіх сферах і тэхналогіях знаходзілася ў зоне моцнага нямецкага ўплыву. Рэцэптурны склад і сімвалізм пернікаў — не выключэнне. Адным з самых славутых цэнтраў гэтага рамяства, галоўным заканадаўцам моды на пернікі — калі казаць пра самую класічную іх форму, *друкаваныя*, тобок адціснутыя з дапамогай адмысловай узорыстай драўлянай дошкі, — у нашай частцы свету ужо больш за 500 гадоў быў і застаецца Нюрнберг.

З Нюрнберга і іншых нямецкіх гарадоў гэтая традыцыя перакінулася на некаторыя польскія, якія, зрэшты, даволі доўга заставаліся ў значнай ступені нямецкімі паводле складу жыхароў. Славутымі цэнтрамі пернікарства сталі Кракаў і Торунь.

### Статусны падарунак

Афіцыйная легенда торунскіх пернікаў сцвярджае, што яны вядомыя з XIV стагоддзя. Але сапраўдную славу гэты ласунак здабыў на тры стагоддзі пазней, калі ўжо і заможныя жыхары ВКЛ прымалі іх за багаты і статусны падарунак.

Хутчэй за ўсё, і само слова «пернік» трапіла ў старабеларускую мову ▸

з польскай менавіта ў XVII стагоддзі пад уплывам высокай рэпутацыі пернікаў з Торуня, Кракава (дзе ўзнік першы цэх пернікараў у Польшчы) і іншых гарадоў Кароны. Часта згадваюцца торунскія пернікі ў актах магілёўскага магістрата: «Пернік торунскі купілі ў пана бурмістра Лапіцкага, далі залатых тры» (1683); «Пернік купілі торунскі ад пана Аляксандра Халевіча, далі залатых два і асмакоў 3» (1691); «Купілі пернікаў торунскіх два на падарак пану палкоўніку старадубскаму» (1699).

Ужо з гэтых запісаў бачна, што імпартны пернік накшталт торунскага быў перадусім дарагім прадстаўнічым падарункам, творам мастацтва. Той, хто такі падарунак атрымліваў, калі і з'ядаў яго, то не адразу. Падарункі стараліся трымаць навідавоку, на пачэсным месцы, каб падкрэсліць свае высокі статус і дабрабыт. Ды і як наважыцца з'есці, напрыклад, віфлеемскія


TORUNTOUR.PL

**Адам і Ева. Разьбяная дошка для пернікаў.** Торунь, XVIII стагоддзе.

яслі або партрэт святога ці каранаванай асобы?

Формы для торунскіх пернікаў выразалі высокакваліфікаваныя разьбяры, тыя самыя, што рабілі дарагую мэблю або касцельныя скульптуры. Спачатку з ліпы, значна пазней, ужо ў XIX стагоддзі, — з дубу або буку. А аздаблялі самыя дарагія пернікі нярэдка... ювеліры.

**Формы для пернікаў выразалі высокакваліфікаваныя разьбяры — тыя самыя, што рабілі дарагую мэблю**

Сярод пернікаў-падарункаў, якія засталіся ў гісторыі, былі пернікі, якія торунскія майстры спяклі на вяселле Жыгімонта III Вазы і каралевы Канстанцыі ў 1605 годзе, а таксама на памяць пра вяселле Уладзіслава IV Вазы і Цэцыліі Рэнаты ў 1637-м. Медальён з пернікаў, выраблены ў гонар караля Уладзіслава IV Вазы, быў дыяметрам 24 см, а галоўным яго элементам была каралеўская карона і польскі арол з гербам Вазаў, які падтрымлівалі два анёлы. У 1778 годзе ў падарунак расійскай царыцы Кацярыне II пекары зрабілі 30-сантыметровы пернік. Яго ўпрыгожылі гербам Торуня ў абрамленні двухгаловага рускага арла і двух аднагаловых арлоў.

Так паступова складвалася традыцыя пернікаў — падарункаў на вяселле, заручыны і сімвалічных прэзентаў для


TORUNTOUR.PL

**Першая вядомая выява нюрнбергскага пернікара.** Каля 1520 года.

заваявання прыхільнасці прыгожага полу. Пазней гэтая лінія атрымае найбольшае развіццё ў традыцыі віленскіх «казюковых» пернікаў.

Здаецца, у Вялікім Княстве Літоўскім, у адрозненне ад Польшчы, так нідзе і не сфармавалася ўстойлівых цэхавых традыцый выпякання пернікаў трывалага стандарту і з устойлівым сімвалізмам. Прынамсі, мы пакуль пра гэта не маем канкрэтных дакументальных сведчанняў. А торунскія пернікі стараліся імітаваць нават у хатніх умовах. У «Кухарцы літоўскай» XIX стагоддзя ёсць два варыянты іх рэцэптаў.

### Магія перніка

Дарагоўля пернікаў і іх спецыфічны востры смак спрычыніліся да паўстання веры ў іх лячэбныя ўласцівасці. Сапраўды, спецыі, якія ўваходзілі ў іх склад, маюць некаторае бактэрыцыднае дзеянне,

дзякуючы якому сама выпечка захоўваецца дастаткова доўга, не псуючыся. Але ў гэтай веры было больш ад традыцыйнага магічнага светапогляду, калі як лекі былі схільныя ўспрымаць усё дарагое і незвычайнае. Да таго ж пернікі часта прадаваліся ў аптэках. Ды і дома захоўваліся ў «аптэчках прыемных» — адмысловых шафах для запасаў алкаголю, спецый, слодычаў і г. д.

Веру ў трохі магічнае дзеянне пернікавай субстанцыі можна ўбачыць і ў рэцэптуры распаўсюджанай у беларускіх яўрэяў стравы эсік-флэйш (кісла-салодкай ялавічыны). Для яе прыгатавання лічылася неабходным дадаць пакрышанага перніка — як быццам бы недастаткова было ўжыць непасрэдна тыя спецыі, якія і надавалі перніку ягоны смак.

**Пернік уваходзіў у рэцэптуры распаўсюджанай у беларускіх яўрэяў стравы эсік-флэйш**

Тое, што пернікі захоўваліся ў «аптэчках прыемных», магчыма, спрычынілася і да вядомай ужо з XVII стагоддзя традыцыі закусваць імі хатнія настойкі і гарэлкі. А традыцыйны мядовы лікёр крупнік (пра яго глядзіце артыкул у № 11/2019 «Нашай гісторыі») у нейкім сэнсе можна назваць вадкім пернікам. Тыя ж самыя характэрныя спецыі: цынамон (карыца), гваздзікі, кардамон, мускатны арэх, сушаныя апельсінавыя і лімонныя лупіны, ну і, вядома, мёд.

## Масавая вытворчасць

Паступова традыцыя выпякання пернікаў распаўсюджвалася ўсё шырэй і ў пэўным сэнсе драбнела. І па памерах, і па сакральнасці сюжэтаў. Пернік, які згадваецца ў магілёўскіх актах 1710 года, каштуе ўсяго 6 асмакоў — хутчэй за ўсё, ён ужо мясцовага вырабу. Па ўсёй прасторы Рэчы Паспалітай распаўсюджваецца традыцыя адпустовых пернікаў, якія выпякаліся да парафіяльных святаў (адпустаў) і прадаваліся на прымеркаваных да іх кірмашах.

У XIX стагоддзі выраб пернікаў паступова рабіўся ўсё больш масавым і пры гэтым даволі кічавым рамяством. Гэта тлумачыцца ў тым ліку заменай дарагога мёду на значна таннейшую патаку, якая стала даступнай дзякуючы прамысловай вытворчасці цукру. Найбольш уплывовымі ўзорамі для беларускіх майстроў у гэты час робяцца расійскія пернікі.

У Расіі яшчэ з XVII стагоддзя з'явілася шмат сваіх традыцыйных цэнтраў друкаваных пернікаў, самым славутым з якіх сёння лічыцца Тула. А даўней таксама славіліся Масква, Цвер, Гарадзец, Волагда. У Беларусі з расійскіх пернікаў найчасцей елі вяземскія, якія згадваюцца ў беларускай ананімнай паэме XIX стагоддзя «Энеіда навыварат», а вядомыя быццам бы ажно з 1646 года:

> Былі й салодкія пацешкі:
> Вяземскі пернікі, арэшкі,
> Мязгі й мязюму рашаты.

Свае цэнтры пернікавага промыслу паўсталі і ў Беларусі: Орша, Копысь, Дуброўна, Менск і іншыя. Але наколькі можна меркаваць, яны не былі настолькі вядомымі і дакладна акрэсленымі па формах і ўзорах. У адрозненне ад Расіі, дзе гэты промысел засяроджваўся ў руках багатых купцоў, якія будавалі часам даволі сур'ёзна абсталяваныя фабрыкі, у Беларусі пернікі пяклі дробныя саматужныя прадпрымальнікі.

З пачатку XX стагоддзя яны робяцца зусім масавым таварам і вырабляюцца амаль паўсюдна, але друкаванне з драўляных узорных формаў саступае месца вытворчасці абразным метадам. Металічную палоску (напрыклад, бляшаную) выгіналі ў выглядзе якога-небудзь сілуэта. Такой формай на раскачаным цесце адціскалі адпаведную фігурку, ►



У міжваенны час **пернікавыя «сэрцы» ўжо прыкметная і ўстойлівая традыцыя віленскага кірмаша «Казюкі»**, хоць момант яе з'яўлення дакладна не зафіксаваны.

WIKIMEDIA COMMONS




**Гарадзенская паштоўка, прысвечаная адраджэнню мясцовай традыцыі пернікарства.** На дошцы — тыпова «адпустовая» сімволіка з герба горада: аленя святога Губерта.

▶ якую пасля выпечкі аздаблялі каляровым крэмам, харчовымі фарбавальнікамі, глазуравалі.

## У Міры існавала традыцыя пячы пернікі ў форме «жаўнерчыка»

Часта гэты занятак быў для беларускіх вытворцаў толькі пабочным або сезонным і не пакінуў па сабе адметных узораў. Напрыклад, пра мірскія пернікі ўжо міжваеннага часу вядома, што адной з найбольш папулярных формаў быў сілуэт «жаўнерчыка». Але, на жаль, да нас не дайшла ніводная канкрэтная выява такога перніка, не кажучы пра тэхналагічныя формы.

### Сардэчныя мядоўнікі

Самая гучная традыцыя ў Літве і Беларусі — гэта, безумоўна, вялікія пернікі ў выглядзе сэрца, якія лічацца адным з сімвалаў кірмаша на Казюкі — Дзень святога Казіміра ў Вільні (4 сакавіка). Яе росквіт і класічная міфалогія прыпадаюць на міжваенныя часы, з якіх вядома шмат розных прыпевак, адрасаваных дзяўчатам, якім найперш тыя пернікі і куплялі з надзеяй на здабыццё іхняга сэрца. Але гісторыкі неяк прапусцілі момант, калі гэтая традыцыя з'явілася. Адно з першых сведчанняў пра казюковыя пернікі належыць Францішку Багушэвічу і вядомае з ягонага допісу ў пецярбургскую газету «Край» у 1885 годзе: «3 і 4 сакавіка ў Вільні на Катэдральным пляцы збіраецца кірмаш, дзе прадаюць пераважна рознае начынне і драўляныя вырабы вясковыя фабрыкаты з рэштак нашых пушчаў: куфры, мэблю, вазы, такарныя вырабы, дзіцячыя цацкі і розныя "кірмашовыя" прысмакі: бутрымонскія пернікі, смаргонскія абаранкі і г. д.».

Мястэчка Бутрымоні (сучасны Бутрымоніс у Алітускім раёне Літвы) — даўняя татарская асада, і менавіта татары з даўніх часоў былі ўладальнікамі тамтэйшых пякарань. Так што і згаданыя Багушэвічам пернікі, хутчэй за ўсё, пяклі менавіта яны.

Іншая віленская гарадская легенда, ужо зусім нядаўняя, прыпісвае вынаходніцтва віленскай пернікавай традыцыі мясцовым стараверам, якія быццам бы прынеслі яе ад сваіх аднаверцаў з Расіі.

Пасля аднаўлення незалежнасці Літвы казюковыя пернікавыя сэрцы зрабіліся масавым камерцыйным прадуктам, які вырабляюць дзясяткі, калі не сотні саматужнікаў.

Значна лепш мы ведаем традыцыю віленскіх пернікаў-мядовікаў, якія пяклі з жытняй мукі ў выглядзе невялічкіх боханаў. Менавіта такія пернікі



ФОТА ВІТАЛЯ ПІВАВАРЧЫКА, SB.BY

**Пляменніца краязнаўца з Лынтупаў Алеся Гарбуля Юлія** з толькі што выпечанымі пернікамі.

сёння найперш успрымаюцца як віленскія ў польскамоўным свеце.

### Беларускае адраджэнне перніка

Гарадзенская майстэрня «Ткалля» ў апошнія гады стала ініцыятарам адраджэння аматарскага, хатняга выпеку пернікаў, друкаваных з драўляных дошак з традыцыйнымі фальклорнымі ўзорамі — Казы, Каня і г. д., а таксама з насычанымі гарадскім сімвалізмам выявамі святога Губерта. Пра былыя гарадзенскія пернікі, даваенных і больш ранніх часоў, пакуль дакладна вядома толькі тое, што яны былі. Але і такую спробу «вынаходніцтва традыцыі» трэба лічыць годнай і карыснай. Можа быць, з цягам часу знойдуцца і больш дакладныя сведчанні, якія дазволяць паглыбіць і ўдасканаліць ступень аўтэнтычнасці.

Іншы цікавы прэцэдэнт апошніх гадоў — спроба стварыць мясцовы пернікавы брэнд у Лынтупах. Ізноў жа, пра мясцовыя адпустовыя пернікі, што пякліся на фэст святой Ганны, дакладна вядомы толькі сам факт іхняга колішняга існавання. Мясцовы краязнавец Алесь Гарбуль вынайшаў цэлую традыцыю з нічога, вывеўшы яе ажно з 1440 года, ад тагачаснага ўладальніка Лынтупаў Яна Доўгірда і нават «рэканструяваўшы» старадаўні рэцэпт. Містыфікацыя, але ж сімпатычная.

І ўсё ж давайце спадзявацца, што будуць у нас і дакументальна пацверджаныя старадаўнія рэцэпты пернікаў, і ахвочыя іх выпякаць майстры, і ўдзячныя, абазнаныя ў сапраўднай гісторыі краіны турысты. ◆

## Пернік віленскі з жытняй мукі




**Для цеста:**

- 420 г жытняй мукі
- 40 г грэцкіх арэхаў
- 80 г лясных арэхаў
- 80 г разынак
- 3 сталовыя лыжкі рому
- 1 чайная лыжачка разрыхляльніку
- 1 чайная лыжачка соды
- 2 яйкі
- 150 г цукру
- шчэпаць солі
- 10 г адмысловай сумесі спецый для перніка (або на вока патроху молатых гваздзікоў, кардамону, карыцы і пахкага перцу)
- 300 г мёду

**Для прапіткі:**

- 40 г сіропу з цукатаў апельсінавай скарынкі або густога цукровага сіропу
- 40 г рому

**Для шакаладнай глазуры:**

- 110 г цукру
- 30 г вады
- 125 г масла
- 20 г цёмнай какавы
- 70 г дэсертнага шакаладу
- 30 мл лікёру (напрыклад, *Cointreau*)

Разагрэйце духоўку да 170°C. Накрыйце бляху памерам 12х28см паперай для выпечкі.

Абсмажце жытнюю муку на сухой патэльні, пакуль яна не стане цёмна-жоўтай (яе трэба ўвесь час змешваць, каб не падгарэла). Насыпце муку ў міску і пакіньце астываць.

Арэхі нарэжце нажом на буйныя кавалачкі. Разынкі замачыце ў роме.

Дадайце соду, разрыхляльнік, соль і сумесь спецый да астуджанай мукі, потым усе арэхі і працэджаныя разынкі.

Узбіце яйкі з цукрам у шчыльную пену. Зліце злёгку разагрэты мёд у міску з сухімі інгрэдыентамі, дадайце ўзбітыя яйкі і ром ад замочвання разынак, усё гэта змяшайце на невялікай хуткасці плоскім міксерам. Цеста будзе вельмі шчыльным. Пакладзіце яго у бляху і выраўняйце зверху. Выпякайце 50–60 хвілін — да сухасці палачкі-тэстара. Пакладзіце яшчэ гарачы пернік на краткі і злёгку загарніце яго ў паперу для выпякання і алюмініевую фольгу, калі ён трохі астыне. Пакіньце каля 4 дзён, каб трохі размякчыўся.

Праз 4 дні пернік разгарніце і зверху патыкайце шпажкай. Злёгку змачыце яго праз адтуліны цёплым апельсінавым сіропам, змяшаным з ромам.

Падрыхтуйце шакаладную глазуру: пакладзіце масла, цукар, какаву і ўліце ваду ў каструлю. Закіпяціце, потым зніміце з агню, кіньце разламаны на дробныя кавалкі шакалад і дадайце лікёр, добра перамяшайце. Калі глазура трохі астыне і пачне гусцець, старанна пакрыйце ёй пернік. Перш чым астыне канчаткова, упрыгожце апельсінавымі цукатамі і здробненымі арэшкамі. Пернік застаецца свежы 4–5 дзён, але захоўваць яго трэба пад шкляной накрыўкай. Смачна есці!

# Сырніца, суп з блінамі...
## Кухня ў сем'ях Мядзвецкіх і Сапачоў


ФОТА ЛАРЫСЫ САПАЧ

**Мой тата, Мядзвецкі Фёдар, родам з-пад Крэва, а мама, Шараметава Людміла, — з-пад Лёзна, што на мяжы са Смаленшчынай. У дзяцінстве паехаць у Вавукі да бабы Волі ці ў Емельянова да бабулі Фрузы было вельмі радаснай падзеяй. Хіба толькі дарога да Вавукаў была не такой доўгай, бо мы самі жылі ў Жодзішках на Смаргоншчыне. Піша Ларыса Сапач, настаўніца з Маладзечанскага раёна.**

Дзядоў я не ведала. Дзед Стась з Вавукаў памёр раптоўна да майго з'яўлення на свет, а дзед Уладзімір з Емельянова загінуў на фронце ў Польшчы.

Дзед Уладзімір рана аўдавеў, застаўся з чатырма дзецьмі. Ажаніўся другі раз з бабуляй, нарадзілі яшчэ і маю мамку Люсю ў 1942 годзе. А ў 1944-м дзед пайшоў на фронт, хоць меў «белы білет».

Пайсці на вайну быў вымушаны: мужчын у вёсцы не было, і дзеда прымусілі быць старшынёй калгаса. Вёска згарэла, жылі ў зямлянках. Вясна, а сеяць няма чым і няма кім араць. Прыйшлося выбіраць: ці сесці ў турму за сабатаж пасяўной, ці ісці ваяваць. Ён загінуў, а ў нас не засталося ніводнага дзедавага здымка. Мая мама ведала бацьку толькі з аповедаў бабы Фрузы.

Я стала шукаць месца пахавання дзеда і высветлілася, што пахаваны ён на варшаўскіх Вайсковых могілках. Помню той вечар, калі тэлефанавала мамцы, братам. Мы плакалі. Хутка выпала паехаць у Варшаву і «сустрэцца» з дзедам. Стрыечны брат Лёня паставіў на магілцы невялікую гранітную пліту з іменем дзеда. Ніхто з маіх дарагіх цётачак не дажыў да гэтай важнай падзеі. Так шкада, бо яны заўсёды помнілі свайго тату.

Дзед Стась не ваяваў, але шмат працаваў. Яго бацька, мой прадзед Васіль, нават ездзіў на заробкі ў Амерыку, каб купіць зямлю. Жылі на хутары, трымалі вялікую гаспадарку. Давялося ім перажыць і польскую ўладу, і прыход немцаў, і іх адступленне, і прыход саветаў з выпраўленнем сына і брата на Урал, каб пазбегнуць прымусовай высылкі.

Дзеда з бабай прымушалі будаваць хату ў вёсцы, бо саветы зганялі з хутароў. Нават страху не дазвалялі памяняць у старой хаце. Але пасля адчапіліся, і прадзед Васіль ды прабаба Алімпіяда, дзед Стась ды баба Воля дажывалі на хутары, дзе ў вайну кароткі час хавалі ад немцаў яўрэйку. Цяпер мае

**Стравы, што паходзяць з роднага дома, — самыя смачныя. Хоць у дамах гэтых было не так шмат часу гатаваць**

вавуцкія дзяды і бабы спяць на крэўскіх могілках. Крэва для мяне — гэта перш за ўсё яны, мае дарагія, мае крэўныя.

### Заходнія і ўсходнія

«Заходнія» дзяды трымалі вялікую гаспадарку. І баба Фруза, усходніца, таксама гадавала і свіней, і карову, і авечак. Часам чую меркаванне, што ўсходнія беларусы не такія працавітыя, вёскі іхнія недагледжаныя. Але мне не падабаецца такое супрацьпастаўленне. Вёска Емельянова была невялікая, але зграбная: пафарбаваныя акуратныя ашаляваныя дамкі, дагледжаныя падворкі, шчырыя і добрыя жыхары. Дбайныя гаспадары. Амаль у кожным двары, акрамя кароў і дробнай жывёлы, гадавалі авечак. А ў Маркаве, на Маладзечаншчыне, куды пераехала жыць наша сям'я, іх гадавалі лічаныя гаспадары: Мядзвецкія, мае бацькі, і Сапачы, мае свёкар са свякроўкай.

Тата мой ездзіў касіць сена на кароў у Вавукі, да якіх ад Маркава было больш за 20 кіламетраў. Пасля сена везлі адтуль на конях. Рабілі так, бо дома дзялак на касьбу давалі вельмі мала, хоць тата працаваў галоўным ветэрынарам у мясцовым багатым калгасе. Пра людзей у Маркаве не дбалі, хоць старшыня быў з тутэйшых. А ў Емельянове калгас быў не такі багаты, але здзівіла мяне аднойчы, як старшыня даў машыну, каб завезці нас, Фрузіных унукаў і зяця, на вакзал у Лёзна.



**Марыя і Мікалай Сапачы з маленькай Таняй.**



**Шараметавы**: баба Фруза з дачкой Люсяй, мамай аўтаркі.

### Мамчыны бліны

Бацькі мае працавалі не менш за дзядоў. Бацька заўсёды імкнуўся мець вялікую гаспадарку, бо так было заведзена ў Вавуках. Мамка, настаўніца ў школе, вярталася з працы, а дома чакалі трое дзяцей і тая ж вялікая гаспадарка.

Сям'ю трэба карміць. Былі свае малако, яйкі, мяса, сала ў скрынях, якое не з'ядалася да наступнай свежыны. Кожную раніцу мамка пякла бліны, смажыла скваркі і яйкі. Сняданак быў звыклы, бо так любіў есці бацька. Нам, дзецям, такі сняданак таксама быў смачны. А бліны мамка пякла адмысловыя. Пульхныя, на кіслым малацэ і заквасцы, якую пакідала ад папярэдніх.

Вельмі любілі да бліноў мачанку. Для мачанкі мама на вялікай патэльні смажыла скварку і каўбасу, разводзіла на малацэ ▶

муку, вылівала на патэльню і запарвала. Пульхныя бліны з мачанкай з'ядаліся дружна.

З блінамі смачна елася і яшчэ адна страва, якую я гатую так, як мамка. Гэта курыны суп. Абавязкова з дамашніх пеўня ці курыцы, бо з куплёных не атрымаецца. Гатуецца мяса, пакуль не адстане ад костачак. Яго трэба абабраць з костачак, вярнуць назад у рондаль, давесці да кіпення, а затым паціхеньку ўліць сырое ўскалбочанае яйка, дадаць прыправы.

Суп абавязкова падаецца з блінамі, як у мамкі. Праўда, я крыху змяніла рэцэпт, раблю без закваскі, таму яны страцілі свой кіславаты смак. Але іх любяць усе, каго частую. Аднойчы калега мужа, літовец, папрасіў рэцэпт. Вярнуўся дадому, паспрабаваў спячы. Не ўдаліся. Вельмі шкада: хай бы сабе пякліся мамчыны бліны і ў Шаўляі.


У мамінай хаце. 2020 год.

ФОТА ВАСІЛІНЫ КРЭТОВІЧ

**Бліны мама пякла на кіслым малацэ і заквасцы, якую пакідала ад папярэдніх**

Цяпер я ўсё гатую сама, але так смачна, як мамка ці мая свякроўка, усё адно не ўмею.

### Няпростае печанае яйка

Для маёй свякроўкі, Марыі Пятроўны Сапач з роду Тамашэвічаў, заўсёды галоўным клопатам было накарміць сям'ю. Шмат працы па гаспадарцы, на агародзе, але ў духоўцы заўсёды чакаў нас абед. Смачны, упараны. Нават калі яна ўжо не магла ўстаць з ложка, часам траціла памяць, свядома пыталася, ці накормленыя Васіліна і Сямён, яе ўнукі. Гэта передалося і яе дачцэ Тані, нашай Тані Сапач, якая ўмела гатаваць вытанчаныя стравы.

Мы маглі лёгка сарвацца і паляцець у Вільню да Дубаўцоў. Не задумваліся, што ім будзе не да нас, што ў іх могуць быць свае важныя справы. Але ніколі не адчулі сябе лішнімі. Нават крамныя пельмені ў цёткі Тані для пляменнікаў былі

### Таццяна Сапач (Дубавец)

(1962–2010) — паэтка, журналістка, перакладчыца. У маладосці была ўдзельніцай першых незалежніцкіх студэнцкіх гурткоў у Мінску, пасля арганізоўвала беларускае жыццё ў Гомелі, куды патрапіла па размеркаванні.
У канцы 1980-х разам з мужам, вядомым журналістам і літаратарам, першым галоўным рэдактарам адноўленай «Нашай Нівы» Сяргеем Дубаўцом, пераехала ў Вільню, каб аднавіць там традыцыйны беларускі асяродак. Вяла праграму «Віленскі сшытак» на Літоўскім нацыянальным тэлебачанні, супрацоўнічала з беларускімі СМІ, выдала два паэтычныя зборнікі.
27 снежня 2010 года загінула ў аўтамабільнай катастрофе.


WIKIMEDIA COMMONS

### Сырніца

Для сырніцы бралі сушаны, назапашаны з лета, клінковы сыр, крышылі яго ў смятану ці вяршкі, дадавалі масла і ставілі ў «дух» ( печ). Елі з драджжавымі блінамі.

### Бліны ад Ларысы Сапач

- 0,5 л кіслага малака ці кефіру
- чвэрць чайнай лыжкі соды
- 3–3,5 шклянкі мукі
- 0,5 л малака (можна і крыху больш)
- 1 сталовая лыжка алею
- соль

**Гатуем бліны:**

У кіслае малако ці кефір (але кіслае малако бліны любяць больш!) дадаць соду і адну шклянку мукі. Перамяшаць, і няхай пару хвілін пастаіць. А тады ўліць малако, укінуць астатнюю муку, уліць алею, пасаліць. Рошчына не павінна быць вельмі рэдкай.

Можна пячы і есці! Самастойна ці ўпрыкуску да першых страў.



ФОТА ЛАРЫСЫ САПАЧ

найсмачнейшыя. А калі Таня і Сяргей па дарозе ў Вільню заязджалі да нас, простае печанае яйка яна хваліла так, што мне аж самой здавалася: яно згатавана па-каралеўску.

У Маркаве бацькі ой як радаваліся прыезду Тані і Сяргея. Мне думаецца, што абед, які гатавала для сваіх дарагіх дзяцей Марыя Пятроўна, быў для іх таксама найсмачнейшы. Кіслыя крупы, малочны фасолевы суп, бабка з бульбы, падзёртай на буйную тарку, бліны з дзёртай бульбай, клёцкі з мясам, якія гатаваліся традыцыйна ў нядзелю, пульхныя вялікія хрушчы, пірагі, спечаныя ў невялікіх рондлях у грубцы, на вячэру тварог з малаком упрыкуску з салонкай (варанай падсоленай бульбай) — усё было смачнае ў бацькоўскай хаце Сапачоў.

А тварог з малаком — гэта спрошчаны варыянт сапраўднай сырніцы, якую гатавалі ў Маркаве падчас запустаў, на апошнім тыдні перад Вялікім пастом. Для сырніцы бралі сушаны, назапашаны з лета, клінковы сыр, крышылі яго ў смятану ці вяршкі, дадавалі масла і ставілі ў «дух» (печ). Елі з дражджавымі блінамі. З цягам часу сыры перасталі сушыць, і сырніцу ўжо не ў кожнай хаце гатавалі.

Пячы пірагі, круціць мясныя рулеты, саліць кумпякі і паляндвіцы я навучылася ў хаце Сапачоў. А ў хаце Мядзвецкіх мяне чакае мамка і яе запрашэнне паабедаць разам.

І я часта пытаюся сама ў сябе: чаму ў бацькоўскай хаце такое смачнае звычайнае печанае яйка? ◆



**Мядзвецкія:** цётка Вера, баба Воля, прабаба Алімпіяда, дзед Стась, стаіць брат дзеда Мікалай (радство адносна аўтаркі).

# Забойства імператара, яўрэйскія пагромы і Беларусь

**Разбіраецца гісторык-архівіст Ігар Жыляеў.**

У гісторыі Расійскай імперыі 1881 год у першую чаргу адзначаны забойствам імператара Аляксандра II. Выбухі дзвюх бомбаў на Екацярынінскім канале ў Санкт-Пецярбургу скончылі эпоху «Вялікіх рэформаў». І амаль аднachасова з гэтым пачаліся першыя арганізаваныя яўрэйскія пагромы ў Расійскай імперыі.

Прычынаў гэтага было некалькі. Самая простая і банальная: смерць імператара было проста зручна спісаць на яўрэйскія падкопы, паколькі ў грамадстве жыло пра гэты народ шмат негатыўных стэрэатыпаў. Тым больш што з-за выразна антысеміцкай дзяржаўнай палітыкі яўрэяў сапраўды было нямала сярод тагачасных рэвалюцыянераў. Сярод іх і нашы землякі: ураджэнка Мазыра Геся Гельфман была, напрыклад, у ліку непасрэдных арганізатараў забойства Аляксандра II. Натуральна, працэс рэвалюцыянізавання яўрэйскай моладзі пагромы не толькі не спынілі, але нават дадаткова актывізавалі.

Існавалі, аднак, прычыны і больш глыбокага характару: першая арганізаваная хваля пагромаў, прынамсі ўскосна, была звязана з сутыкненнем інтарэсаў яўрэйскіх і хрысціянскіх капіталаў. Капіталізм у Расійскай імперыі ў той час пачаў бурнае развіццё, і гэта непазбежна прыводзіла да канфлікту інтарэсаў розных сацыяльных і нацыянальных груп.



**Яўрэйская пасхальная трапеза (седэр).** Народны малюнак-лубок XIX стагоддзя.

КАНЦЕДИКАС А., СЕРГЕЕВА И. АЛЬБОМ ЕВРЕЙСКОЙ ХУДОЖЕСТВЕННОЙ СТАРИНЫ СЕМЁНА АН-СКОГО. МОСКВА, 2001.

### «Пришол указ»

У архівах захавалася дастаткова сведчанняў, што небяспека перакідання пагромнай заразы з Украіны ў беларускія губерні тады рэальна існавала. Але ўлады тут не збіраліся пускаць гэта на самацёк. Вось што рапартаваў начальнік мінскага паліцэйскага жандарскага ўпраўлення чыгунак губернатару: «Загадана старацца абразуміць рабочых у мінскіх чыгуначных майстэрнях, што праслед яўрэяў забараняецца гасударом імператарам; што непаслушэнства волі Яго Вялікасці ёсць мяцеж і бунт, за што вінаватых чакае найстражэйшае пакаранне».

Разам з тым сігналы, што пагромны рух наспявае і ў Беларусі, рэгулярна фіксаваліся. 29 красавіка 1881 года мазырскія яўрэі знайшлі дзве запіскі недвухсэнсоўнага зместу, якія, па адной з версій, былі напісаныя вучнямі мясцовай гімназіі. 3 мая падобныя запіскі былі знойдзеныя і ў Бабруйску.

Тое самае ў наступным годзе адбылося ў Століне, адкуль мясцовы прыстаў рапартаваў: «Раніцай 2 сакавіка на доме Арона Белагускага была прыбіта запіска: *“Билет Минской губернии Пинскаго уезда Губернатора. Пришол указ чтобы выгонять евреев из Столина местечка*

## Першыя пагромы — на Украіне

Цэлая серыя яўрэйскіх пагромаў з красавіка 1881 года пракацілася па ўкраінскіх губернях Расійскай імперыі. Самыя вядомыя адбыліся ў Кіеве і Кіеўскай губерні, Адэсе, Елісаветградзе (цяпер — Крапіўніцкі), Жмерынцы, Канатопе і іншых населеных пунктах. Усяго пагромы закранулі 166 вялікіх і малых паселішчаў.
Многае сведчыла пра тое, што пагромы рыхтаваліся загадзя. Пачаліся яны амаль аднлачасова ў некалькіх месцах, а сігналам для выступлення сталі беспарадкі ў Елісаветградзе, якія ішлі з 15 па 17 красавіка 1881-га. Мясцовыя ўлады праяўлялі збольшага бяздзеянне, а то і спрыянне пагромшчыкам. Хадзілі нават чуткі, што біць яўрэяў прадпісана самім урадам.
Вынікам пагромаў стала разбурэнне тысяч яўрэйскіх дамоў, многія сем'і страцілі маёмасць. Шмат было параненых, а некаторыя нават забітыя. Галоўнае ж — пасля гэтай серыі пагромаў пачалася масавая эміграцыя яўрэяў з тэрыторыі Расійскай імперыі, якая не спынялася аж да самага яе канца. Большасць яўрэяў тады выязджалі з Расіі ў Амерыку, але адначасова пачаў шырока развівацца і сіяніцкі рух, мэтай якога была падрыхтоўка яўрэйскага насельніцтва да вяртання на гістарычную радзіму ў Палесціну, а таксама практычная арганізацыя перасялення і ўладкавання там. Перадумовы для стварэння сучаснай Дзяржавы Ізраіль стваралі менавіта яўрэі з Расійскай імперыі, у тым ліку і беларускія.

*в Америку. А если крестьяне не могут выгнать то придут казаки из россий и закинут их и погонят их в свою страну. Писал о том губернатор"*». Прыстаў адзначаў, што і хрысціяне, і яўрэі Століна адно пасмяяліся з абвесткі: маўляў, дзеці дурэюць. Яшчэ праз год падобныя запіскі знаходзілі ўжо ў Барысаве на слупе ля дома Сроля Мазы.

### «Спярша сядзелі мірна, а потым сталі біць шкло»

Запіскі запіскамі, але ці перарастала гэта ў якія-небудзь гвалтоўныя дзеянні?

Павераны докшыцкіх яўрэяў Шая-Берка Блаштэйн у звароце да барысаўскага павятовага спраўніка паведамляў пра бойку паміж мясцовымі хрысціянамі і яўрэямі. У ёй брала ўдзел не вельмі шмат людзей, але праходзіла бойка так актыўна, што дасталося нават мясцоваму ўрадніку, які спрабаваў умяшацца.

У маі 1881 года з Рубяжэвіч Мінскага павета рапартавалі: «Міхаіл Рондак і Міхаіл, званы Карольчык, зайшоўшы ў дом яўрэя Сагаловіча, дзе будучы ў п'яным выглядзе і не жадаючы быццам бы заплаціць за выпітую імі гарэлку, лаялі зняважлівымі словамі згаданага яўрэя Сагаловіча і затым выказаліся з пагрозай, што яны ўдваіх па прыкладзе іншых, як у Кіеўскай губерні было, выражуць усіх яўрэяў».

У чэрвені 1881 года 12 плытагонаў прыйшлі ў вёску Мордвін пад Петрыкавам і зайшлі ў хату яўрэя Юды Фукса: «Спярша сядзелі мірна, а потым сталі біць шкло, зламалі замок у свірне». Калі мясцовыя сяляне ўгаворвалі іх супакоіцца, дасталося і ім. П'яныя забралі вяроўкі, рыбалоўныя снасці і звялі тры свінні. Праскоўі Пятровец далі палкай па галаве. З гэтага відаць, што «пагром» быў хутчэй п'яным хуліганствам, чым антысеміцкім выступленнем. Тым больш што, калі меркаваць па згадцы пра забраных свіней, пацярпелі ад яго не толькі яўрэі.

Падобнае адбылося тым жа летам у Лоеве: два дзясяткі работнікаў пераправы атрымалі грошы за пераправу 900 коней, напіліся і сталі крушыць яткі булачнікаў-яўрэяў на лоеўскім базары, раскідаць абаранкі і булкі.

У Снове ў 1882 годзе п'яны селянін Казімір Дуняк пабіўся з двума яўрэямі. Падчас бойкі ён крычаў: «Біце жыдоў, вось я пакажу, як біць жыдоў».

Масавая бойка адбылася паміж чыгуначнымі рабочымі і яўрэямі ў Пінску ў красавіку 1884 года. Пацярпеў нават мясцовы паліцмайстар. Што праўда, абышлося ўсё некалькімі збітымі і парай выбітых шыбаў.

### У рамках балбатні

Як бачым, у пачатку 1880-х на Беларусі канфліктаў паміж яўрэйскім і хрысціянскім насельніцтвам увогуле пазбегнуць не ўдалося, але пагромамі гэта назваць цяжка. Хоць ужо існавалі палітычныя сілы, якія да такіх дзеянняў падбухторвалі, жадання мясцовага насельніцтва пачынаць граміць яўрэяў і іх маёмасць не на словах, а на справе менавіта ў 1881–1882 гадах асабліва не праявілася.

У цэлым зафіксаваныя тады гісторыі з антысеміцкім кантэкстам не выходзілі за рамкі чыста бытавой ксенафобіі, звычайнай балбатні і недарэчных жартаў (як, напрыклад, барысаўскі павятовы лекар Карстэнс сказаў хворым пацыентам-яўрэям: «Чаго вам лячыцца, вас усё роўна б'юць»). Характэрна, што амаль заўсёды, калі ўзнікалі нейкія канфлікты паміж хрысціянамі і яўрэямі з рукапрыкладствам і пацярпелымі, ім папярэднічалі моцныя папойкі. А дзе п'юць, там і б'юць. ◆

# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ

## ПАЎСТАННЕ ЗАБЫТЫХ

### ЧАСТКА 1





















ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН МАКСІМ ЗВЯЗАЎСЯ З УСЯСЛАВАМ...
ВІТАНКІ! ЯК СПРАВЫ?
ТАК САБЕ... СЛАБАСЦЬ НЕЙКАЯ, У ГАЛАВЕ КРУЦІЦЦА, ПЛЫВЕ ЎСЁ ПЕРАД ВАЧЫМІ... У ІНШЫХ ТОЕ Ж САМАЕ...


А З ОФІСАМ ШТО? НОВЫ ДЫЗАЙН? ХМ... СВОЕАСАБЛІВА, ШЧЫРА КАЖУЧЫ...
???


НУ... ШТУКІ ГЭТЫЯ, ЯКІЯ ЦЯГНУЦЦА ПРАЗ ПАКОЙ... НІБЫ КАРАНІ НЕЙКІЯ...
ЯКІЯ ШЧЭ КАРАНІ? НІЧОГА Ў НАС НОВАГА НЕ РАБІЛІ!


Я ЗРАБЛЮ ЗДЫМАК ТАГО, ШТО БАЧНА З ЭКРАНА...
КЛІК
ТО БОК - ТЫ НЕ БАЧЫШ НІЧОГА! ХМ...ЦІКАВА...


ГЭТА БАЧЫЦЬ МАКСІМ? ШТО ЗА ХАЛЕРА?
УСЯСЛАЎ, БАЧЫЎ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ТАКОЕ?
НІКОЛІ... СПЫТАЕМ У РАГНЕДЫ.


ХМ...ГЭТА ПАДОБНА...
...ДА ВІРУСА, ШТО ВАНДРУЕ МІЖ ВЫМЯРЭННЯМІ. ПРА ЯГО ДАЎНО ЎЖО НЕ БЫЛО ЧУВАЦЬ!


УСЯСЛАЎ, ТЫ ПАМЯТАЕШ ПРУСАЎ?


У ІХ ТУТ БЫЎ СВОЙ СВЕТ, НАКШТАЛТ НАШАГА. А ПАСЛЯ З'ЯВІЛАСЯ ГЭТАЯ ПОСКУДЗЬ...
...ЯНЫ ПАЧАЛІ МАРНЕЦЬ. А ПОТЫМ І ІХ НАРОД У СВЕЦЕ ЛЮДЗЕЙ ЗГІНУЎ.


ЧАМУ МЫ ЯГО НЕ БАЧЫМ, А МАКСІМ БАЧЫЦЬ?
ЛЮДЗІ СКЛАДАНЕЙШЫЯ ЗА НАС. ПАМІРАЮЧЫ, УСЁ Ж ГУБЛЯЕШ НЕЙКУЮ ЧАСТКУ СЯБЕ.


ТРЭБА ЗНАЙСЦІ ДАРОГУ, ПА ЯКОЙ ВІРУС ПРЫЙШОЎ У НАШ СВЕТ, ПАКУЛЬ МЫ ЯШЧЭ НА НАГАХ ТРЫМАЕМСЯ.
ДАВАЙЦЕ ПЕРАНЯСЁМ ДА НАС МАКСІМА, РАЗ ЁН БАЧЫЦЬ ВІРУС.
У СЭНСЕ... ЗАБ'ЁМ ЯГО?
ДЫ НЕ, ТОЛЬКІ ЧАСОВА!
ПРОСТА ПРАЗ ПАРТАЛ? МЫ ТАКОГА ЯШЧЭ НЕ РАБІЛІ НІКОЛІ!


НА МАКСІМАВЫМ ХУТАРЫ...
ПАД ПАХАМІ НЕ ЦІСНЕ?
ДЫ НЕ, ЗРУЧНЫ ДАВОЛІ СТРОЙ...


А ДА МЯНЕ КАГО-НЕБУДЗЬ ТАК ПЕРАПРАЎЛЯЛІ?
ДЫ СТО РАЗОЎ!


НУ ШТО, ПАЧЫНАЙМА!
УХ...


ТЫ, ГАЛОЎНАЕ, НЕ БОЙСЯ.
ЗАПЛЮШЧЫ ВОЧЫ І ЛІЧЫ: РАЗ, ДВА...


ПА-Е-ХА-ЛІ!!!




НУ, ЯК ТЫ?
А ВОСЬ КАЛІ МЯНЕ ПЕРАПРАЎЛЯЛІ, СКАФАНДР З ДУБОВАЙ КАРЫ БЫЎ...
ДОКТАР СКАРЫНА, ЦІШЭЙ!..
ГА?... А, НОРМ! ДАВОЛІ ХУТКА АТРЫМАЛАСЯ!


НУ ШТО, БАЧЫШ ТЫ КАРАНІ ГЭТЫЯ?
НЕ ТОЕ СЛОВА... ЯНЫ ТУТ ПАЎСЮЛЬ ЦЯГНУЦЦА!
ТРЭ ДАКЛАДНА ВЫЗНАЧЫЦЬ, ДЗЕ ЯНЫ ПАЧЫНАЮЦЦА!
МАЛА ЧАСУ, ЕДЗЕМ! ДАКЛАДНЕЙ, ЛЯЦІМ!


І ВОСЬ УСЕ ЎЗНЯЛІСЯ НАД СУПЕРПОЛАЦКАМ...
УСЮДЫ КАРАНІ! ПАКУЛЬ НЕ НАДТА БАЧНА, АДКУЛЬ ЯНЫ ПАЧЫНАЮЦЦА. КОЛЬКІ Ж ІХ, УСЁ НАВАКОЛЛЕ АПУТАЛІ!..
ТО ЗМЯНЯЕМ КІРУНАК! ГЛЯДЗІ ПІЛЬНА!
НУ НІЧОГА САБЕ! ЦУД, А НЕ ЛЯТАК!
А ТО Ж! НЕ РАЗБІЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ, НЕ СТРЫМАЦЬ!


ЗДАЕЦЦА, БАЧУ!... ДАКЛАДНА! ВУНЬ АДТУЛЬ ІДУЦЬ КАРАНІ, ДЗЕ ВЫГІН РАКІ НА ДАЛЯГЛЯДЗЕ!..
ЗА ГЕДЫМІНАВЫМІ СЛУПАМІ? О, НЕ. ТОЛЬКІ НЕ ГЭТА...


БАРЫСФЕНІДА!
А ШТО ТАМ ТАКОЕ?
НЕ ШТО, А ХТО... ТАМ – ЗАБЫТЫЯ!
...

# Любім коміксы!

Добры дзень, паважаныя супрацоўнікі часопіса «Наша гісторыя»! Хачу падзякаваць вам за такі важны, патрэбны і карысны часопіс! Вельмі часта выкарыстоўваю матэрыялы часопіса на сваіх уроках. Асабліва вучням падабаецца дзіцячая старонка «Героі беларускай гісторыі расказваюць пра сябе». Шкада, што ў гэтай рубрыцы былі толькі чатыры артыкулы. У мяне ёсць спадзяванні і надзея, што вы яе ўзновіце, каб прыцягнуць да гісторыі і вывучэння сваёй Радзімы юнае пакаленне беларусаў.

А яшчэ вельмі шмат на ўроках мы працуем з коміксамі — і тымі, што друкаваліся ў часопісе, і якія ствараем самі. Дзялюся двума прыкладамі коміксаў, якія стварылі мае вучні на аснове часопіса «Наша гісторыя». (Глядзіце ілюстрацыі).

**Таццяна Шумель, настаўніца Гарадоцкай базавай школы Маладзечанскага раёна**




Комікс, створаны вучнямі Таццяны Шумель на падставе артыкула **«Кастусь Каліноўскі: чаму яму няма роўных»** (№ 2, 2018 год).
















Вучнёўскі комікс паводле рубрыкі **«Героі беларускай гісторыі расказваюць пра сябе. Гедымін».**

## Ад рэдакцыі

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

